УДК 882.6.09
БЕК 83.3(4=Бел)7
Л 48

**Лепешаў І.Я.**
Дазнанні. - Гродна: Гродзенскае абласное аддзяленне Беларускага фонду культуры, 2000. - 88 с.

Роздум пра трагедыю Я.Купалы ў трыццатыя гады, вайну і маральнасць у творах В.Быкава, нетрадыцыйныя думкі пра А.С.Пушкіна...

Адказы на гэтыя і іншыя надзённыя пытанні спрабуе знайсці аўтар кніжкі.

Іншыя яе старонкі - пра нашу мову-гаротніцу, пра гвалт над ёю, ранейшы і сучасны.

Адрасуецца выкладчыкам, студэнтам і ўсім, хто цікавіцца пытаннямі літаратуры, мовы, гісторыі.

УДК 882.6.09
ББК 83.3(4=Бел)7

## ДАЗНАННІ НА ГАРАЧАЙ ДАЛОНІ

Прыгадваецца, як на апошніх Купалаўскіх чытаннях у Гродне (восень 1999 года) Іван Лепешаў, знясілены толькі што перанесенай аперацыяй — так выдавала, што яго раптоўна ссутуленая і схуднелая постаць наскрозь пранізана шпітальным пахам, — нягледзячы на нездараўчаны стан, няпэўнаю хадой, праз усю залу ішоў да трыбуны. Як струмка сцішылася ўвагаю аўдыторыя. Як у гэтай цішыні аслабла-дрыготка, нібы стомлена капалі словы даклада «Пра Купалавы песні з няволі». Чыясьці рука клопатна паставіла на трыбуну шклянку з вадой.

— Не трэба, — Лепешаў азваўся мімаходзь, нібы безуважна, але прамовіў гэтыя два словы вельмі цвёрда і выразна.

Не трэба. Бо рэй вядзе Купала. Бо тут горача пульсуе дазнанне.

«Дазнанні» — прынаднае беларускае слова глядзіць на нас з абкладкі кнігі, умольна просячы вярнуць яму ўсю гістарычную глыбіню канататыўнага зместу, вярнуць першародны водар і цэласны семантычны аб'ём, а не толькі (з-за вытруенай, укарацелай памяці) схаладнела-адміністрацыйным сучасным значэннем: «расследаванне». Збярэжанае, занатаванае ў «Гістарычным слоўніку беларускай мовы» і ў спадчыну яшчэ ад «Слоўніка...» І.Насовіча перададзенае, «дазнанне» змяшчае ў сабе нашмат больш: і «веданне», і «пазнанне», і «імкненне ўведаць, дазнацца, выявіць сутнасць». Гэта — «перакананне вопытам».

Ёсць у літаратурнай навуцы такі паняццевы выраз: «мінус-прыём». Гэта значыць, што прыём існуе аб'ектыўна, але на пэўнай стадыі твора ці нават творчасці не выяўлены пісьменнікам максімальна. «Мінус-прыём» асабліва эфектыўна дзейнічае, калі праступае няўзнак і надта нечакана. Менавіта тым момантам, калі зрок прызвычаіўся да ўсяго існага і вастрыня зроку замглілася гэтай прызвычаенасцю, — хараство з'явы адкрываецца не поўнасцю, а непаўната прымаецца за аб'ектыўны стан рэчаў. Прыкладам, калі мы, закаханыя, спяваем Месячыку лірычную хвалу, або проста ўзіраемся ў замглелую месячыкаву далеч, або ў гневе шлём злосныя праклёны ўсяму чыста на свеце (а Месяц тады не іначай, як «прыдуркаваты»), — ва ўсіх праявах нашага жыцця мы не вельмі спяшаем давесці сабе, што нябеснае цела для нас не выяўлена цалкам і заўсёды павернута *адным* сваім бокам.

Ці не тое ж і з Іванам Лепешавым. Выпеставаныя на шматлікіх яго публікацыях пераважна па фразеалогіі беларускай мовы

(а гэта больш за 20 навуковых кніг, у тым ліку і унікальны для гісторыі навуковага свету «Фразеалагічны слоўнік беларускай мовы» ў двух тамах — праца, па сіле роўная хіба што цэламу акадэмічнаму калектыву), мы і ўспрымаем яго так, аднабока, як месяцавае ззянне — выдатны лінгвіст, доктар філалагічных навук, прафесар.

Відаць, не істотна памылюся, калі скажу, што бальшыня гуманітарна адукаванай грамадскасці Беларусі — настаўнікі-філолагі, навукоўцы, студэнты — па усёй вераемнасці не надта абцяжарвалі сябе пытаннем: а ці ва ўсёй інтэлектуальнай паўнаце, ці ва ўсёй «метафізіцы таленту» мы ведаем гэтага неардынарнага чалавека? Ці ёсць хоць кавалачак «нявыяўленага» Лепешава, ці ёсць той, да пары да часу не агучаны, «мінус-прыём» — «мінус-Лепешаў»?

І вось новая кніга. Яркая. Каларытная. Па-грамадзянску неўтаймоўная і тэмпераментная. Хоць і не ва ўсім бясспрэчная. «Мінус» гэта Лепешаў? Ці ўсё ж «плюс»? Вялікі, салідны плюс да прызвычаенага бачання і яшчэ чагосьці істотна намі не ўведанага?

Мы памятаем, што і раней аўтар не абмяжоўваўся толькі лінгвістычнай тэматыкай, выходзіў за яе межы, укліняўся ў літаратуразнаўства і гісторыю («Лінгвістычны аналіз літаратурнага твора», «Фразеалогія ў творах К.Крапівы», «Прынцып гістарызму пры ацэнцы моўных з'яў»). Цяпер жа, у гэтай кніжцы І.Лепешаў паўстае філолагам шырокай культуры, як чалавек, намагнічаны словам. Ды й кніга гэтая складае відавочны факт слоўнага намагнічвання: што-кольвек друкавалася ў «Полымі», «Маладосці», «ЛіМе» і іншых аўтарытэтных выданнях. Што-кольвек пісалася для гэтай кнігі спецыяльна.

Асабіста мяне кніга вабіць нязбытнай лепешаўскай якасцю: «слаўным наступальным задорам маладосці, — як выказаўся аднойчы А.Твардоўскі ў пісьме да І.Лепешава, на той яшчэ час настаўніка Берштаўскай школы, — паколькі наступальнасць гэтая відавочна здаровая і мэтаімкнёная».

Вабіць той унутранай свабодай развагаў, што даецца не адразу і вельмі няпроста, — з вопытам, з жарсцю ўласнага сведчання пра час, з трудным! бясконцымі думкамі, ўкладзенымі ў гарачую далонь рупліўца.

Разгорнем жа гэтую няўрымслівую далонь.

Далонь дазнанняў.

*Ігар ЖУК*

## ПАСЛУХАЕМ ЯНКУ КУПАЛУ

У студзені 1916 года Янку Купалу мабілізавалі ў царскую армію, дзе ён служыў у дарожна-будаўнічым атрадзе спачатку ў Мінску, затым у Полацку, а пасля ў Смаленску. У шматлікіх біяграфічных і іншых даведніках не так і даўняга часу гаворыцца, што там, у Смаленску, паэт і «сустрэў Вялікі Кастрычнік». Чытаючы такое, можна падумаць, што сустрэў з найвялікшай і доўгачаканай радасцю. А ў дваццатыя-саракавыя гады і нават пазней пра Купалу пісалі, што ён «не зразумеў сацыялістычнай сутнасці Кастрычніцкай рэвалюцыі» і таму дапускаў «памылкі і ідэйныя зрывы». На. самай жа справе гэты апостал беларускай нацыі ўсё выдатна разумеў і прадбачыў, таму не прыняў і не мог прыняць гэту рэвалюцыю.

У артыкуле «Справа незалежнасці Беларусі за мінулы год» (1920), апублікаваным у беларускім друку падчас польскай акупацыі, Я.Купала, слушна называючы гэту рэвалюцыю «бальшавіцкім пераваротам у Расіі», піша: «Сацыяльная рэвалюцыя, якая загарэлася крывавым пажарам на ўсходзе Еўропы - у Расіі - і цяпер яшчэ палае ўсё паядаючым полымем, стараецца ў сваім пабедным паходзе ніштожыць усялякія нацыянальныя перагародкі і злучыць пад чырвоным знаменем усе народы ўсяго свету. Наколькі ёй гэта ўдасца, пакажа будучыня, але пакуль што ўсе дзяржавы, апрача, разумеецца, Велікарусі, усімі сіламі стараюцца адхрысціцца ад гэтага раю».

Знаходзячыся з канца 1917-га і ўвесь 1918 год у Смаленску, Я.Купала пільна сачыў за ўсім, што адбывалася на Бацькаўшчыне, і балюча перажываў трагічныя весткі адтуль. Ведаў ён і пра тое, што ў снежні 1917 года яго землякі-патрыёты склікалі І-ы Усебеларускі з’езд (кангрэс). Пераважная большасць з амаль дзвюх тысяч дэлегатаў ад усіх рэгіёнаў Беларусі і палітычных арганізацый дабівалася абвяшчэння незалежнасці. Быў створаны часовы вышэйшы орган улады - Усебеларускі Савет. Гэта стала не даспадобы бальшавіцкім кіраўнікам тагачаснай Заходняй вобласці (небеларусам Мяснікову, Ландару, Кнорыну і інш.), і яны пад шырмай абароны савецкай улады разагналі з’езд.

Праз два месяцы нямецкія войскі акупавалі амаль усю Беларусь (да лініі Орша - Магілёў - Гомель). Да Я.Купалы даходзілі весткі, што 21 лютага 1918 года, яшчэ да ўступлення немцаў у Мінск, створаны на 1-ым Усебеларускім з’ездзе выканаўчы орган, Выканком Савета з’езда, у сваёй 1-й Устаўной

грамаце як звароце да народа аб'явіў сябе ўладай у Беларусі. 2-я Устаўная грамата (9 сакавіка 1918 года) абвяшчала аб стварэнні Беларускай Народнай Рэспублікі. 25 сакавіка 1918 года БНР у 3-й Устаўной грамаце аб'яўлялася «незалежнай і вольнай дзяржавай».

Радасныя весткі, што прыходзілі да паэта, змяняліся сумнымі, трагічнымі. Рашэнні, абвешчаныя Устаўнымі граматамі, патрэбна было аформіць юрыдычна. Пачалася падрыхтоўка да склікання Устаноўчага сходу Беларусі, але германскія акупанты не дазволілі яго праводзіць, бо, паводле Брэсцкага мірнага дагавору і дадатковага да яго пагаднення, яны абавязаліся перад бальшавікамі не прызнаваць ніякіх новых дзяржаўных утварэнняў на тэрыторыі былой Расійскай імперыі. А між тым незалежнасць БНР і яе ўрад (Народны сакратарыят на чале з Язэпам Варонкам) за кароткі час прызналі Арменія, Аўстрыя, Грузія, Літва, Латвія, Турцыя, Фінляндыя, Чэхаславакія, Украіна, Эстонія.

У кастрычніку 1918 года Я.Купала пасля працяглага маўчання піша шэраг вершаў, знітаваных адзінай думкай-марай пра вольную, незалежную «Бацькаўшчыну-маці». Ёсць сярод іх і верш-заклік «Час!». Яго пачатковыя радкі («Час склікаці ўжо грамаду на вялікую нараду, на вялікі сход!»), як і канцоўка («Йдзі, народ, на сход!»), па-першае, маглі, з улікам тагачаснай палітычнай сітуацыі, успрымацца з прамым значэннем слоў, звязаным са скліканнем памянёнага Устаноўчага сходу Беларусі. Па-другое, гэтыя радкі можна ўсведамляць і з метафарычным сэнсам ‘час самім, самому народу вырашаць (справу будавання нацыянальнай дзяржавы, Бацькаўшчыны)’. Гэты матыў «на сход» і вобраз-сімвал сходу знаходзім у некалькіх Купалавых творах («Раскіданае гняздо», «На сход!», «Свайму народу»). Ён асацыятыўна звязваецца з тымі далёкімі часамі вольніцы, калі ўся грамада, абшчына склікалася для вырашэння важных спраў ці калі, кажучы словамі верша «Свайму народу», напісанага, дарэчы, на адзін дзень раней, чым «Час!», «звон вечавы сход склікаваў народны». Прыгадаем, напрыклад, веча - агульны сход палачан - у Полацкім княстве X-XIII стагоддзяў.

Я.Купала пераехаў са Смаленска ў Мінск 21 студзеня 1919 года. У сталіцы, дзе гаспадарылі бальшавікі, нельга было і думаць пра апублікаванне верша «Час!» з ягонымі заклікамі: «Гэй, паўстань, народ!», «Йдзі, народ, на сход!». Або з такімі радкамі, як «Ходзіць ходырам свет цэлы, смела ў бітву йдзе ня-

смелы, ў бой за лепшы час»; у іх маецца на ўвазе ўсеагульная барацьба былых каланіяльных народаў царскай Расіі за сваё нацыянальнае вызваленне: вырваліся з «турмы народаў» Польшча, Фінляндыя, абвясцілі незалежнасць Украіна, Літва, Эстонія, Латвія, Арменія, Грузія. Верш-заклік, напісаны 30 кастрычніка 1918 года, упершыню ўбачыў свет толькі праз год, у часе польскай акупацыі, спачатку ў газеце «Звон» (22.09.1919), а потым у газеце «Беларусь» (21.11.1919). «Час!» быў актуальны і тады, калі ствараўся, і потым, калі адна акупацыя змянялася другой. Гэты верш пасля, у савецкі перыяд, стаў хрэстаматыйным, вывучаўся ў школе, але заўсёды падаваўся ў своеасаблівай інтэрпрэтацыі, як гімн Кастрычніцкай рэвалюцыі, якая «прынесла беларускаму народу вызваленне ад уціску і заняволення» і як заклік да барацьбы з кайзераўскімі акупантамі.

Шмат якія іншыя вершы Я.Купалы і асабліва публіцыстычныя артыкулы, створаныя ў 1919 - 1920 гг., былі забароненыя і ў савецкім друку не з'яўляліся. У 1993 годзе яны, зноў вернутыя да жыцця, увайшлі ў зборнік Я.Купалы «Жыве Беларусь».

Адзін з гэтых артыкулаў, напісаны ў 1919 годзе, не толькі не страціў сваёй актуальнасці, але здаецца, нібы ён створаны сёння. Яго назва - «Больш самачыннасці». Вось ягоны тэкст.

«Цікавыя людзі мы - беларусы!

Трэба прызнацца, што якое б ліха навокал нас і з намі ні рабілася, якіх бы мы ні перажывалі нягод і крыўд - мы гэтага як бы не бачым, а калі і бачым, то ліха церпім ды чакаем, што вось нехта прыйдзе і гэта нашае ліха пабярэ з сабою.

І праўда, вечна хто-небудзь і як-небудзь, а прыходзіў і намі апекаваўся, хоць нашага ліха і не забіраў.

Быў маскоўскі цар, былі ў нас пасланыя ім усялякія чыны: земскі, ураднік, стражнік. Усе гэтыя чыны намі «апекаваліся», а мы шчыра служылі ім, як нявольнікі, ды, уздыхаючы і заціскаючы кулакі, стараліся сябе ўгаварыць, што так і трэба, каб хтось панаваў, а часта казалі, што гэта так Бог даў. А самі ж мы і пальцам не кіўнулі, каб гэтым сваім апекунам паказаць ім належнае месца.

Але рэвалюцыя змяла ў сваім ходзе цара, панясліся ў свет новыя воклікі будавання новага незалежнага жыцця ўсім народам. А мы як бы нішто і ні ў чым. Пасля царскіх чыноў прыйшлі бальшавіцкія чыны не горш ад сваіх папярэднікаў, прыйшлі і павялі сваю гаспадарку ў нас, а мы глядзелі і чакалі, што нехта прыйдзе ды бальшавікоў прагоніць. І прычакалі.

Прыйшлі немцы, бальшавікі ўцяклі, мы асталіся. Немец гаспадарыў, як сам хацеў, над намі, над нашым дабром - не горш нават ад царскіх і бальшавіцкіх гаспадароў, а мы што рабілі? Мы сядзелі і чакалі, злажыўшы рукі, і чакалі нейкага цуду, які забярэ нашае ліха. І дачакалі...

Прыйшлі ізноў бальшавікі, а немцы ўцяклі, толькі мы сядзім на месцы. Бальшавікі навялі свае парадкі і гаспадарку, нягледзячы на тое, ці смачна нам гэта, ці не смачна. Пайшлі саветы, камітэты, выбары, перавыбары і г.д. А ў рэзультаце што ж? Пастаўленыя намі (як нам гаварылі) нашы саветы пачалі нешта такое праводзіць, што нам цяжка было дыхаць. І мы стагналі, уздыхалі і чакалі.

Прыйшлі палякі, уцяклі саветы, камітэты і чразвычайка, а мы ізноў сабе сядзім і чакаем. Праўда, мы, як гаспадары гэтай зямлі, мусім сядзець на ёй. Але як мы гаспадарым на ёй? Ці не час ужо пакінуць благую прывычку сядзець і сядзець, чакаць і чакаць?..

Самы найлепшы прыяцель, самы найлепшы збаўца наш ад нашага ліхалецця - гэта мы самі. І калі не хочам загінуць, калі не хочам быць вечнымі рабамі, — павінны пакінуць мы благую прывычку думаць, што нехта прыйдзе і выратуе нас з нашай бяды, з нашай няволі. Гэта ж не можа быць, каб нехта быў лепшым прыхільнікам да нас, як мы самі для сябе.

Не, браты, гэтакім ладам мы далёка не заедзем. Час праявіць нам і свае сілы ў будаванні новага жыцця для сваёй бацькаўшчыны, для сваіх сяліб і хат, для нашага падрастаючага пакалення! Пройдуць гады, падрастуць сыны і ўнукі нашы і спытаюць нас тады: «Што зрабілі вы ў той бурны і векапомны час для сваіх патомкаў, для свайго краю?»

К такому запытанню трэба нам быць гатовымі. Сама гісторыя пакліча на суд і загадае даць адказ. А які ж мы дадзім адказ, калі мы цяпер на другіх гэты адказ ускладаем?

Дык больш самачыннасці, больш смеласці к будаванню свайго новага незалежнага жыцця».

Вельмі ж стасуецца гэты Купалаў артыкул і да сённяшняй палітычнай сітуацыі.

# ЁН НЕ ПРЫНЯЎ ЗЛО, АЛЬБО ПРА КУПАЛАВЫ ПЕСНІ З ТУРМЫ

Васіль Быкаў у артыкуле «З цемры - да святла» адны творы Янкі Купалы назваў песнямі з волі, а другія, напісаныя ў апошнія 10-12 гадоў, — песнямі з турмы.

У апублікаваных зборніках двух папярэдніх Рэспубліканскіх Купалаўскіх чытанняў (у Гродне) няма ніводнага артыкула пра творчасць паэта ў трыццатыя гады. Праўда, ёсць сціслыя, але ёмістыя словы Сакрата Яновіча: «Купала заціх на ўсе трыццатыя гады. Смяротна стомлены, ён час-часом пісаў макулатурныя творы, прамаўляў не сваім голасам, запіваў і дзеравянеў. Напэўна, згас як паэт, але не выстыў у ім прарок. І пра гэта ведалі, *дзе трэба»*.

Зборы твораў, шасцітомны (1961-1963) і сямітонны (1972-1976), былі збольшага ачышчаны ад хвалебных песень злачыннаму рэжыму, і ледзь не кожны сённяшні чытач, гартаючы гэтыя тамы, не дужа заўважыць, як паэт мусіў спяваць асанну Сталіну-сейбіту і яго атачэнню.

Нядаўна выйшаў 5 том Поўнага збору твораў. У ім - вершы 1930-1942 гг. Тут і вершаў тых усяго 116 за 13 гадоў творчасці (у 1930 г. - тры, у 1933 - адзін, у 1936 - шэсць...). З песні слова не выкінеш. Што было, тое было. Супастаўляеш гэты том з ранейшымі і бачыш Купалавы песні з турмы. Тут *Сталін* паўтараецца 60 разоў, *сталінскі* - 15, *сталінец* - 7, *Варашылаў* - 19, *Чырвоная Армія* - 17. Купала, як і іншыя з уцалелых пасля фільтрацыі, мусіў стаяць з дзяжурнай одай у чырвоных дат календара, а то і задаваў тон. *Першамай* і *Кастрычнік* ужываюцца дзесяткі разоў. В.Адамчык у «Чорным адбітку на белай сцяне» піша, як зайшоў нядаўна ў мінскую кнігарню: «І раптам паўстаў з мёртвых наш Купала... А можа, лепш было б яго бачыць, чым чытаць яго вершы чалавечага ўпадку - асабліва аб Сталіне-сейбіту? Слушнае запытанне: а чаму не аб сейбіце? Таму, зняўшы з паліцы ў кнігарні, толькі пагартаў купалаўскі пяты жаўтлява-рабаваты, як сталінскі пабіты воспаю твар (О страшнае супадзенне!), танкаваты том і... не выкупіў».

У энцыклапедычным даведніку «Янка Купала» чытаем: «Ляўкоўскі цыкл прынцыпова важны для творчасці Купалы і ўсёй беларускай літаратуры, далейшы кірунак якой ён у пэўнай меры вызначыў». Так пісалі ў 1986 г. Тое самае ўбіваюць у галовы вучням і сёння. У падручніку для 9 класа (1997) гаворыцца,

што «асабліва вялікі плён паэзіі Янкі Купалы прынесла ляўкоўскае лета 1935 года. Яно вядома ў гісторыі беларускай літаратуры не менш за пушкінскую «Болдзінскую восень». /Далей ідзе пералік вершаў./ Яны з'явіліся новай вяршыняй у творчасці самога Янкі Купалы і былі выдатнай падзеяй для беларускай літаратуры».

Сам жа паэт і калі пісаў, і пасля быў іншай думкі пра гэтыя свае вершы. Захаваліся ўскосныя сведчанні. Кузьма Чорны, завербаваны «органамі» і пасля арыштаваны, на допыце 26 кастрычніка 1938 г. даваў паказанні: «Разгром нацдэмаў да гэтага часу Купалам перажываецца як «разгром беларускага народа», як «вечная несправядлівасць»... Гэта я сам шмат разоў чуў ад жонкі Купалы, якая з'яўляецца дакладным рупарам самога Купалы...» (Полымя. 1994. № 10. С.161).

А гэта з ліста (ад 21 лістапада 1938 г.) сталінскага стаўленіка ў Мінску Першага сакратара ЦК КП(б)Б П.К.Панамарэнкі «бацьку» Сталіну: «... маюцца шматлікія паказанні выкрытых і арыштаваных ворагаў, якія абвінавачваюць іх /Купалу і Коласа/ аж да сувязей з польскай дэфензівай. У дачыненні да Янкі Купалы ёсць 41 паказанне... Янка Купала нядаўна сказаў: «Усе нашы карты біты, лепшыя людзі вынішчаны, трэба самому рабіць харакіры». (Ён ужо спрабаваў аднойчы пакончыць з сабой.) У другі раз ён пачаў скардзіцца (у сваім асяроддзі) на нястрымную тугу на тое, што ніякай Беларусі ён не бачыць вакол сябе, што ён хутка памрэ з такім жа смуткам аб Беларусі, з якім пачынаў сваё жыццё ў маладосці... Сярод іх пануе разгубленасць і азлабленне. Пачалі дзіка піць - заліваць вінам смутак аб «вольнай Беларусі»... Янка Купала гаворыць, што тое, што ён пісаў пры Савецкай уладзе, не творчасць, а *дрындушкі*. Яны гавораць, што цяпер літаратура зведзена да ролі прыдатка, растлумачальнага ці ўсхваляльнага, што гэта не творчасць, а ілюстрацыя. У літаратуры нельга нічога ставіць або вырашаць, бо партыя ўсё ўжо вырашыла на шмат гадоў наперад, план складзены і ілюструй тое, што прайшло» (ЛІМ. 1993. 15 кастр.).

Відаць, варта вярнуцца да *дрындушак*. Дарэчы, гэта слова ўжывае Альжбета ў камедыі «Паўлінка»: «Заместа кніжак ды набажэнства чытаюць нейкія дрындушкі». У 5 томе іх нямала, напрыклад: «Слава нашаму Яжову, з Ленінграда родам, што расправіўся, як следна, з дыверсанцкім збродам»; «Слава сокалу, што родам з-пад каўказскіх скалаў, што з Крамля прамені сее з юнацкім запалам»; «Я - калгасніца маладая, жыву весела, ані дбаю. Мае дзетачкі позна-рана і накормлены, і прыбраны»;

«Будуць рады татка, мама, калі падрасту я, і за Сталіна такса-ма я прагаласую»; «Мала іх павесіць на сухой асіне, бо нават асіна ад сябе адкіне». У апошняй «дрындушцы» гаворка ідзе, не давядзі божа, не пра Сталіна і яго хеўру, а пра Пятакова, Радэка і іншых з так званай «банды трацкістаў-дыверсантаў», пасля рэабілітаваных пасмяротна.

Здаецца, нікому іншаму, апрача Р.Барадуліна, не ўдалося так ёміста і балюча ў маленькім вершы «Чакалі» (усяго тры страфы) змясціць у мастацкіх вобразах найбагацейшую інфармацыю пра драматычны лёс Я.Купалы пры сталінскім таталітарным рэжыме. Перад пачаткам падаюцца накшталт эпіграфа такія шматзначныя радкі: «Харон глядзеў туманна з-пад рукі: Каго ў Ляўкі, Каго на Салаўкі...» Між іншым, яшчэ да верша «Чакалі» Р.Барадулін у вершаванай навеле «Як я быў агітатарам» (1989) пісаў, што ранейшая хадзячая руская прыпеўка «Соловки, вы, Соловки, дальняя дорога, сердце ноет от тоски, на сердце тревога» выклікала ў яго, школьніка-камсамольца, такую рэакцыю: «А ў рыфму просяцца радкі: каго ў Ляўкі, каго на Салаўкі». Тут яшчэ юнак наўрад ці атаясамліваў Салаўкі з «бізуном» — турмой або знішчэннем, а Ляўкі - з «пернікам» - подкупам і запалохваннем.

А вось сам верш:

Душаловы чакалі,
Калі заляціць
Птах,
Якога засватала неба.
І палын саладзіць,
І руку залаціць
Služкі
Што трэба.

Як Тарасу,
Нашэптваў Дняпро: не пішы.
Кпіла з келіхаў
Поўня, як кварта...
Краты промняў на шыбінах,
Ноч на душы.
Дрэвы й цені -
Падвойная варта.

І сціскаліся марна
Радкоў кулакі.
І баялася восені лета.
Палявалі ваўкі...
Балявалі Ляўкі -
Залачоная клетка Паэта...

У такой сітуацыі «Болдзінскай восенню» і не пахне. Тут - «залачоная клетка Паэта». Як піша Сакрат Яновіч, «у Беларусі амаль беспраблемна сапхнулі нацыянальную культуру на абочыну грамадскае анахранічнасці, а яе творчыя асяроддзі часткова зніштожаны фізічна, каб паказную рэшту ўтрымліваць у якасці своеасаблівага і відовішчнага акварыума, рыхтуючы паступова татальную музеефікацыю ўсяму беларускаму».

Далей падам некалькі ўрыўкаў з розных крыніц, у тым ліку з нядаўна апублікаваных дакументаў з фондаў былога партыйнага архіва. Яны праліваюць святло на трагедыю Я.Купалы і яго вымушаныя песні з турмы.

1. З архіўнага дакумента з грыфам «Совершенно секретно», падпісанага намеснікам начальніка следчага аддзела УДБ НКУС БССР: «У 1930 г. Купала быў выкліканы ў б. ПП ГПУ у Мінску і ўласнаручна 15.10.1930 г. напісаў паказанне, у якім свой удзел у контррэвалюцыйнай нацдэмаўскай арганізацыі і контррэвалюцыйную работу катэгарычна адмаўляў. Пасля гэтага, з-за боязі быць выкрытым, у сябе на кватэры 20.11.1930 г. зрабіў спробу самагубства, у выніку нажом нанёс сабе рану ў жывот, напісаў перад гэтым перадсмяротны ліст на імя б. Старшыні ЦВК БССР Чарвякова... Пасля гэтага «самазабойчага» ранення, праляжаўшы некалькі дзён у бальніцы, Купала прыйшоў у зусім здаровы стан, і ў сувязі з тым, што буржуазны друк Польшчы падняў лямант пра яго самагубства, яму было прапанавана напісаць адказ фашысцкім паклёпнікам аб тым, што ён жывы і ніколі самагубствам не канчаў, што ім і было зроблена» (Крыніца. 1995. № 8. С.111).

2. З «перадсмяротнага» ліста Я.Купалы ад 20 лістапада 1930 года А.Чарвякову: «Таварыш старшыня! Яшчэ раз, перад смерцю, заяўляю, што я ў ніякай контррэвалюцыйнай арганізацыі не быў і не збіраўся быць... Быў толькі паэтам, які думаў аб шчасці Беларусі... Уміраю, прымаючы тое, што лепей смерць фізічная, чым незаслужаная смерць палітычная. Відаць, такая доля паэтаў. Павесіўся Ясенін, застрэліўся Маякоўскі, ну і мне туды з імі дарога...» (Купала Я. Жыве Беларусь. - Мн., 1993. - С. 432-433).

3. Пасля згаданых падзей 1930 года не толькі айчынныя літаратуразнаўцы лічаць, што «Купала быў канчаткова зломлены», але і некаторыя беларускія эмігранты выказвалі думку, што датай духоўнай смерці паэта трэба лічыць восень 1930 года (Полымя. 1999. № 1. С.197).

4. З сакрэтнага дакумента НКУС БССР: «Купала выкрываецца паказаннямі 41 выяўленага намі ўдзельніка антысавецкага падполля ў Беларусі як актыўны антыфашыст і польскі шпіён. У выніку праведзенага разгрому антысавецкага падполля ў Беларусі, Купала і іншыя значныя беларускія пісьменнікі, што засталіся на волі, знешне нібыта змянілі сваё аблічча і накірунак сваёй літаратурнай дзейнасці дастасавалі да духу сучаснасці, але агентурныя матэрыялы, якія паступілі да нас апошнім часам, сведчаць аб тым, што яны не толькі не спынілі сваёй

антысавецкай дзейнасці, а яшчэ глыбей пайшлі ў падполле і вакол іх групуюцца ўсе нацдэмаўскія кадры, што засталіся на волі» (Полымя. 1994. № 10. С.176).

5. За турэмнымі кратамі і ў далёкім Калымскім краі знікалі адзін за адным амаль усе сябры-заўсёднікі Купалавага дому. А ён, народны паэт, адчуваў усёй істотай ледзяны холад падрыхтаваных для яго кайданоў. На што толькі не даводзілася яму згаджацца, каб выжыць (Полымя. 1998. № 12. С.137).

6. У кнізе Л.Маракова «Валеры Маракоў: Лёс, хроніка, кантэкст» (Мн., 1999) змешчана «мноства раней недаступных дакументаў - ордэраў на арышт, пратаколаў жахлівых допытаў і крывавых прысудаў больш за 200 рэпрэсаваных, а потым рэабілітаваных таленавітых беларускіх пісьменнікаў і інтэлектуалаў: «Дураков мы не берем...» (Народная воля. 1999. 16 ліп.).

7. У канцы трыццатых гадоў з усіх беларускіх пісьменнікаў, што актыўна выяўлялі сябе ў 20-я гады - першай палавіне 30-х гадоў (а гэта некалькі сот чалавек), на волі заставаліся ўсяго чатырнаццаць творцаў (Полымя. 1992. № 7. С.203).

8. У час, калі... усе беларускія культурныя дзеячы - навукоўцы, пісьменнікі, акцёры - былі за кратамі, Купала з Коласам не толькі засталіся на волі, але яшчэ і атрымліваюць дзяржаўныя ўзнагароды, персанальныя аўтамабілі, дачы... Усё гэта былі добра прадуманыя і адрэжысаваныя акты дыскрэдытацыі і маральнага, псіхалагічнага тэрору ў адносінах да вялікіх песняроў (Полымя. 1999. № 1. С.205).

9. У сярэдзіне і другой палове 30-х гадоў на Янку Купалу абрынулася цэлая лавіна ўзнагарод, прывілеяў, матэрыяльных даброт, што значна аддаліла яго ад рэальных народных клопатаў. Урад БССР падараваў паэту машыну, дачу ў Ляўках, ён стаў членам ЦВК БССР, дэпутатам Мінскага гарадскога, а пасля - і Вярхоўнага Савета БССР, членам праўлення СП БССР і СП СССР, удзельнічаў у рабоце з'ездаў Саветаў БССР і СССР, у шыкоўных прапагандысцкіх ваяжах (на Днепрагэс, Беламорска-Балтыйскі канал)... Палітыка «бізуна і перніка» прымянялася тады спаўна (Полымя. 1992. № 7. С.203).

10. Падпісаў у 1935 годзе Галадзед урадавую пастанову «ўзнагародзіць народнага паэта рэспублікі т. Янку Купалу легкавым аўтамабілем» (за «каштоўнасць яго апошніх твораў, у прыватнасці паэмы «Над ракой Арэсай») і ў тым самым годзе - пастанову «Аб прыняцці на ўтрыманне за кошт дзяржавы дома і аўтамашыны і аб пабудове дачы для народнага паэта Янкі Купалы», — паспрабуй адмовіцца.. (Крыніца. 1994. № 8. С.103).

11. Купалу чакала беднасць мастацкай палітры і амплуа юбілейнага паэта... Яго ўтаймаваны і неўтаймоўны дух, хутчэй за ўсё, перажываў магутныя ўнутраныя зрухі. Вымушаны быў стрымліваць свае парывы, шукаць суладнасці там, дзе яе недарэчна было знайсці... Трагедыя Купалы 30-х гадоў - гэта трагедыя пазбаўленага магчымасці выказацца прарока, які, унутрана застаючыся прарокам, павінен быў выконваць ролю блазна (Багдановіч І.Э. Янка Купала і рамантызм. - Мн., 1989. - С.212).

12. [Тэма крыўды] раптоўна знікла. І разам з яе знікненнем рэзка зніжаецца мастацкі ўзровень купалаўскай паэзіі... Янка Купала быў змушаны аддаваць даніну ўслаўленню новаму ладу. У другой палове 30-х гадоў, асабліва ў вершах гэтак званага «Ляўкоўскага цыкла», ідэалізацыя і прыхарошванне савецкай рэчаіснасці займае ў творчасці паэта асноўнае месца... Таталітарная сістэма не магла пакінуць паэта ў спакоі. Яна змушала плаціць хаця б двума-трыма вершамі на год (Полымя. 1999. № 1. С.187, 200, 192).

13. Купалава самазабойства і Купалава забойства ўладай не раптоўна пачаліся і не раптам завяршыліся, і справа тут не толькі ў хваласпевах Сталіну альбо ў нянавісці да Сталіна, як гэта выстаўляюць сёння некаторыя даследчыкі, і не ў праблеме «выжывання любым коштам».

Ён не быў прарокам. Ён не быў святым. Ён быў паэтам - геніяльным і ўжо зламаным. Канчатковы «злом» адбыўся ў 1935 годзе. Больш - ранейшага Купалы не было. Было - падзенне (Крыніца. 1994. № 10. С.106).

14. Сачылі за Купалам не толькі спецыяльна прыстаўленыя да яго штатныя супрацоўнікі НКВД, але змушаны былі даносіць на паэта нават свае, блізкія паводле духу калегі-пісьменнікі. /Сачыў і ўласны шафёр, якога Я.Купала прагнаў са службы толькі на пачатку 1942 *г.*/ Прозвішча [гэтага] прыдзеленага Янку Купалу асабістага шафёра Яртыміка, мусіць, зусім невыпадкова сустракаецца ў пераліку тых вадзіцеляў-супрацоўнікаў НКВД, што вазілі зняволеных з Мінскай турмы на расстрэл у Курапаты (Полымя. 1999. № І. С.199).

15. 21 лістапада 1938 г. П.К.Панамарэнка просіць рады ў Сталіна: «Іх *[Я.*Купалу і Я.Коласа*]* трэба або арыштаваць, або, улічваючы абставіны, прыняць, пагаварыць шчыра, паказаць, што нам вядомыя ўсе іх «памылкі», калі гэта дапушчальна так назваць, сказаць, што яны могуць выкупіць сваю віну перад Савецкай уладай, заклікаць іх да сумленнай працы, паглядзець,

як яны будуць рэагаваць, і калі ў якойсьці меры пойдуць на гэта, то скарыстаць гэта ў мэтах разлажэння групы, адрыву найбольш сумленнага і ліквідацыі рэшткаў нацдэмаўшчыны» (ЛІМ. 1993. 15 кастр.).

16. 28 чэрвеня 1942 года Янкі Купалы не стала. І ўжо на наступны дзень старшыні дзяржаўнага камітэта абароны, наркому абароны, Вярхоўнаму галоўнакамандуючаму Сталіну быў адасланы наступны, мяркуючы паводле ступені сакрэтнасці і колькасці далучаных да таямніцы асоб, дзяржаўнай важнасці дакумент: «… Спецпаведамленне. 28 чэрвеня ў 22 гадзіны 30 мінут у гасцініцы «Масква» ўпаў у лесвічную клетку і разбіўся насмерць паэт Беларусі Луцэвіч Іван Дамінікавіч, 1882 года нараджэння, літаратурны псеўданім Янка Купала… Здарэнню папярэднічалі наступныя акалічнасці…»

На фоне гэтага спецпаведамлення гаварыць пра загадку Купал авай смерці неяк не выпадае, як, дарэчы, і задаваць рытарычныя пытанні наконт таго, хто быў забойцам. Хіба мае хоць нейкае істотнае значэнне, хто быў, кажучы сучаснай мовай, кілерам, калі дакладна вядома, хто спланаваў і замовіў злачынства?! (Полымя. 1999. № 1. С.216—217).

А гэта з артыкула В.Быкава «З цемры - да святла»: «Сваёй ахвярнай пагібеллю ён нязмерна ўзвысіўся ў часе і стаў недасяжны. Цяпер мы ведаем: ён не прыняў зло. Ён не мог адолець яго, але не мог і скарыцца яму. Можа, сапраўды лепей было памерці - ці самахоць, ці ад спрактыкаванай рукі спецыялістаў. Каб не множыць бальшавіцкае зло, не спяваць акафісты злачыннаму рэжыму, які тады схапіўся ў смяротнай бойцы з другім не менш злачынным рэжымам. Падобна, Купала зрабіў свой выбар - самы жахлівы, але з часоў Ісуса Хрыста і самы чалавечны выбар.

Будзем жа верныя ягонае светлае памяці. Возьмем да сэрца яго пранікнёныя словы пра беларускі шлях і лёс Беларусі. У ягонай творчасці - ягоныя запаветы. Песні з волі, але не песні з турмы. Тыя, што з турмы, — не песні…»

## ПРА «ЦУД НАД ВІСЛАЙ» І ДЗЯРЖЫНСКАГА Ў ГРОДНЕ

Калі чалавек упершыню прыехаў у Гродна і ідзе па вуліцы Ажэшкі ў бок Віленскай вуліцы, то яму найперш кідаецца ў вочы велічны гмах аблвыканкома з чырвона-зялёным сцягам наверсе. А затым позірк міжвольна запыняецца на тарцовай

сцяне суседняга двухпавярховага дома. Не столькі на самой сцяне, колькі на дзвюх мемарыяльных дошках.

Адна з іх - з надпісам (зразумела, па-руску) пра тое, што тут у ліпені-верасні 1920 года знаходзіўся Гродзенскі Ваенна-рэвалюцыйны камітэт, — не выклікае ніякіх асаблівых эмоцый. Другая, верхняя - здзіўляе. На ёй - барэльеф самога «Жалезнага Фелікса» і надпіс: «У гэтым будынку 1-2 жніўня 1920 года спыняўся Фелікс Эдмундавіч Дзяржынскі».

Думкі роем мітусяцца ў галаве. Дзіву даешся: якім ветрам занесла самага галоўнага чэкіста сюды, у тагачасны невялікі горад? Няўжо там, у Маскве, бракавала яму заняткаў па яго асноўнай чэкісцкай працы? Ці, можа, у гэтай глушы выявілася прытоенае асінае гняздо і спатрэбілася дапамога самога старшыні ВЧК («Всеросийская Чрезвычайная Комиссия») па барацьбе з контррэвалюцыяй?

Колькі б вы ні пыталіся ў кожнага сустрэчнага, у старых ці маладых людзей, з якой нагоды амаль восемдзесят гадоў таму наведаў гродзенцаў сам Дзяржынскі, ніхто нічога пэўнага не скажа. Толькі, відаць, лічаныя адзінкі ведаюць пра гэтую таямніцу. А хацелася б, каб пра нешматлікія ў нашым горадзе помнікі ды іншыя знакі ўшанавання ведалі ўсе ці амаль усе.

Паколькі прычыны візіту гэтага высокага госця цесна звязаныя з тагачаснымі падзеямі, у тым ліку і такімі малавядомымі, як «цуд над Віслай», зробім кароценькі экскурс у гісторыю.

18 лютага 1918 года нямецкія войскі перайшлі ў наступ і да 3 сакавіка, калі быў падпісаны Брэсцкі мірны дагавор, акупавалі амаль усю Беларусь (да лініі Орша - Магілёў - Гомель). 21 лютага 1918 года, яшчэ да ўступлення немцаў у Мінск, створаны на 1-ым Усебеларускім з’ездзе (снежань 1917 г.) выканаўчы орган, Выканком Савета з’езда, у сваёй 1-й Устаўной грамаце абвясціў сябе ўладай у Беларусі. Пасля былі 2-я і 3-я Устаўныя граматы, у якіх Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчалася «незалежнай і вольнай дзяржавай».

Вось пералік далейшых гістарычных падзей: адступленне нямецкага войска ў снежні 1918 года пасля лістападаўскай рэвалюцыі ў Германіі, вяртанне бальшавікоў і тэрміновае стварэнне 1 студзеня 1919 года Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі Беларусь (ССРБ), перадача (праз паўтара месяца) Віцебскай, Смаленскай і Магілёўскай губерняў у склад РСФСР, аб’яднанне астатняй часткі Беларусі з Літвой і стварэнне Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі Літвы і Беларусі (урад, у якім не было ніводнага беларуса, узначальваў Міцкявічус-Капсукас), прыход

на Беларусь «новых акупантаў» (словы Я.Купалы) - палякаў (з 8.08.1919 па 10.07.1920 г.), выгнанне польскіх акупантаў савецкімі войскамі і аднаўленне ССРБ (31 ліпеня 1920 г.).

«Цуд над Віслай» - напаўзабытая старонка з гісторыі грамадзянскай вайны і няўдалай бальшавіцкай спробы «распаліць на гора ўсім буржуям сусветны пажар у крыві» (А.Блок).

Вызваліўшы Беларусь ад польскіх акупантаў, Чырвоная Армія ў жніўні 1920 года рушыла на Варшаву з несумненным далейшым намерам не спыняцца толькі на адной Польшчы, а дайсці, магчыма, і да Ла-Манша. Камандаваў Заходнім фронтам М.Тухачэўскі, а яшчэ адным дадаткова прызначаным (з 9 жніўня) членам Рэвалюцыйна-ваеннага савета быў Дзяржынскі (ён жа - старшыня Польскага бюро Цэнтральнага камітэта Расійскай камуністычнай партыі бальшавікоў і, само сабой, старшыня ВЧК).

У абозе наступаўшага войска ўжо ехаў будучы ўрад - Польскі рэвалюцыйны камітэт на чале з камуністамі Ю.Мархлеўскім і Ф.Дзяржынскім. Вось тады 1-2 жніўня Дзяржынскі і спыняўся ў Гродне па дарозе ў Беласток, дзе пачаў ужо дзейнічаць Польрэўком, «часовы орган рэвалюцыйнай улады Польшчы». Гэты орган яшчэ 30 ліпеня выдаў маніфест - зварот да палякаў, у якім гаварылася, што Чырвоная Армія прыйшла не для таго, каб заняволіць Польшчу, а для «дапамогі польскаму народу ў яго барацьбе за сацыяльнае вызваленне». У маніфесце заклікалі польскі пралетарыят да паўстання супраць памешчыкаў і капіталістаў.

А сама Польшча ў гэтыя трывожныя дні ходырам хадзіла, бурліла, уздымалася, памятаючы пра 125-гадовую няволю пад гнётам царскай Расіі. Толькі адных добраахвотнікаў улілося ў войска больш за 160 тысяч.

Далей працытуем з «Нарысаў гісторыі Беларусі» (Мн., 1995. Ч.2. С.48—49): «З пераносам баявых дзеянняў на тэрыторыю Польшчы выразна праступілі палітычныя матывы і мэты вайны з боку Савецкага ўрада. З абаранянльнай яна ператварылася ў сродак экспарту рэвалюцыі, спробу ўздыму сусветнай сацыялістычнай рэвалюцыі... Разлік на падтрымку польскага пралетарыяту, на ўздым рэвалюцыйнай хвалі ў Польшчы не апраўдаўся. Наадварот, адказам на наступ Чырвонай Арміі быў магутны нацыянальна-патрыятычны ўздым польскага народа ў абарону сваёй радзімы, сваёй незалежнасці». Прыкладна такую ж ацэнку падзей дае і сам Ленін, які незадоўга перад гэтым заклікаў «прамацаць Еўропу рускім

штыком»: «Варшава лічылася амаль асуджанай для Польшчы. Так, прынамсі, лічыў увесь міжнародны друк. Пасля здарыўся перәлом.., польскія войскі, падтрыманыя патрыятычным уздымам у Варшаве, адчуваючы сябе ў сваёй краіне, знайшлі падтрымку, знайшлі новую магчымасць ісці наперад» (Полн. собр. соч., т. 41. 1970. С.321).

Зусім нечакана для Чырвонай Арміі, што стаяла ля сцен Варшавы, здарыўся «цуд над Віслай»: 16 жніўня палякі перайшлі ў контрнаступленне і праз некалькі дзён амаль поўнасцю разграмілі тых, хто хацеў зноў загнаць польскі народ у няволю, адкуль ён толькі што вырваўся. Некалькі чырвоных дывізій і конны корпус Г.Гая былі адрэзаны ад астатняга войска, прыціснуты да Усходняй Прусіі і там інтэрнаваны. Астатнія дывізіі з вялікімі стратамі адступалі на ўсход. Уцёк з Беластока на ўсход і Польрэўком. Звестак пра тое, ці спыняўся на гэты раз у Гродне Фелікс Эдмундавіч, няма.

У беларускай літаратуры гэты бясслаўны паход на польскую сталіцу (з крыкамі: «Даёшь Варшаву!») не знайшоў мастацкага адлюстравання. Праўда, у паэме К.Крапівы «Інкірута» ёсць радкі:

З палякамі меў я справу
І ў адным паходзе слаўным
Чуць не ўзяў у іх Варшаву
І чуць Мінска не аддаў ім.

А яшчэ ў трагікамедыі Я.Купалы «Тутэйшыя», у самым яе канцы, пад заслону, калі чырвонаармейскі начальнік патруля арыштоўвае Мікіту Зноска, дык той просіцца напрамілы бог: «Пайду дапамагаць вам забіраць Варшаву, толькі не забірайце мяне!» Тут, па-першае, як дадатковы сродак стварэння трагікамічнага эфекту абыгрываюцца два значэнні дзеяслова «забіраць» (‘захопліваць, заваёўваць’ і ‘арыштоўваць, затрымліваць’). Па-другое, адчуваецца прыхаваны непрыемны для бальшавікоў напамін-намёк на ўсё ж не «забраную» Варшаву, славуты «цуд над Віслай» і, магчыма, дарэмнае непрыняцце імі Зноскавых паслуг наконт польскай сталіцы. Дарэчы, гэта п’еса была забаронена ў 1926 годзе і толькі нядаўна зноў вернута да жыцця.

## ПЕРШАЯ СУТЫЧКА НА ПАРОЗЕ МІРУ

Ніводная з аповесцей Васіля Быкава, апублікаваных яшчэ ў даперабудовачны перыяд, не прайшла не заўважанай тагачаснымі крытыкамі. А такія творы, як «Мёртвым не баліць», «Праклятая вышыня», «Круглянскі мост», падпалі пад жорсткі ідэалагічны разнос. І на пачатку перабудовы, калі В.Быкаў не з пазіцый сацыялістычнага рэалізму апісаў у «Кар'еры» сям'ю святара Бараноўскага, аўтара цкавалі з усіх бакоў, абвінавачваючы ў «гульні ў божаньку».

Амаль усе ягоныя творы апошняга дзесяцігоддзя сталі, можна сказаць, падзеяй у нашай літаратуры. Гэта і аповесці «У тумане», «Аблава», «Сцюжа», і апавяданні «На чорных лядах», «Жоўты пясочак», «Сцяна», «Народныя мсціўцы»... Гэта і зусім нядаўнія, створаныя ўжо ў Фінляндыі, аповесць «Ваўчыная яма», апавяданне «Труба», сучасная казка для дарослых «Хвастаты» і прыпавесць «Камень». Яны спараджаюць спрэчкі і роздум, іх чытаюць і цытуюць. А назва невялікага, але ёмістага апавядання «Ружовы туман» стала крылатым выразам. Ён ужываецца ў сучасным друку са значэннем «стан таталітарна-савецкага ўспрымання рэчаіснасці».

Пра аповесць «Пакахай мяне, салдацік», апублікаваную спачатку ў часопісе «Полымя» (1996, №4), а потым у кнізе «Сьцяна» (1997), выказваліся ўжо неаднойчы - на старонках «Полымя», «Маладосці», «Роднага слова», «Літаратуры і мастацтва». Але, думаецца, у водгуках ахоплены далёка не ўсе бакі гэтага шматграннага твора. Аповесць наўрад ці можна разглядаць у рэчышчы ранейшай быкаўскай «лейтэнанцкай прозы». Тут гаворыцца ўжо не пра гераізм, не пра пакутнікаў вайны і не пра яе вялікае бязладдзе, а зусім пра іншае, раней, ва ўмовах цэнзуры і самацэнзуры, амаль не чапанае. Гэты твор, як пісаў Н.Гілевіч, «рэч пазнавальна быкаўская, у нечым для гэтага вялікага мастака новая» (ЛіМ. 1998. 13 лістап.).

А сам аўтар сказаў пра аповесць, што «... у ёй ёсць адзін новы момант. Мне хацелася паказаць неадназначнасць нашай перамогі. Хацелася паказаць, што яна тоіць у сабе нямала будучых канфліктаў» (Народная воля. 1998. 23 мая). І яшчэ адно выказванне аўтара - у гутарцы з карэспандэнтам украінскай парламенцкай газеты «Голос України» (1996. 9 крас.): «Гэта аповесць пра мінулую вайну, дакладней, пра адзін яе момант на завяршальным этапе. Дзеянне адбываецца ў Аўстрыі ў дзень

Перамогі. Гаворка ідзе, умоўна кажучы, пра адну з першых сутычак расійскага камунізму з заходняй дэмакратыяй».

Яшчэ не так даўно крамольная і страшэнна небяспечная думка пра тое, што камунізм і фашызм - гэта браты-блізняты, сёння ў многіх не выклікае ніякага сумнення. У аповесці «Пакахай мяне, салдацік» гэта думка як цвёрдае, неаспрэчнае перакананне ўкладваецца ў вусны старога аўстрыйскага прафесара біялогіі Шарфа. Калі лейтэнант Барэйка паведаміў у доме прафесара пра заўтрашнюю капітуляцыю немцаў, доктар Шарф віншуе з канцом вайны і крыху загадкава дадае, што цяпер «важна не памыліцца», бо «пасля цяжкой вайны непазбежны і цяжкі мір». Барэйку не надта ясна, што маецца на ўвазе, але ён тут жа чуе: «Рускія павінны зразумець, што нацызм і камунізм ёсць *два канцы адной палкі*».

Шарф, па словах Франі, не любіў фашыстаў і, здаецца, някепска быў праінфармаваны пра бальшавіцкія парадкі. Пра многае, трагічнае і нялюдскае, відаць, даведаўся і ад Франі, якая, два гады назад вывезеная з Беларусі ў Нямеччыну, рабіла ў сям'і Шарфаў прыслугай. Ды і сам стары прафесар «меў гонар» сутыкнуцца тварам у твар з расійскімі чэкістамі. Напалоханы імі, ён і цяпер яшчэ «дрэнна пачуваецца». Яны, як толькі ўдзень у аўстрыйскі гарадок увайшло савецкае войска, са змяркання аж да чатырох гадзін ночы дапытвалі Шарфа ў ягоным катэджы. А ад Франі, як яна прызнаецца Барэйку, «адабралі падпіску, што будзе маўчаць». Барэйка дзіву даецца: «Няхай гэта ў нас - у войску, у тыле. Ды пры чым тут аўстрыякі? Пры чым нарэшце Франя?» І яшчэ: няўжо для «смертнікаў»-малойчыкаў, якія ўсюды толькі і шукаюць ворагаў, «і гэты стары прафесар біялогіі - таксама вораг? Шпіён? Дыверсант? Ці, можа, яны самі вярбуюць шпіёнаў? » Хутчэй за ўсё, так яно і было, ды толькі наўрад ці ўдалося ім зламаць Шарфа. Але яны такое не даруюць...

Лейтэнант спачатку не разумее, чаму ні Франя, ні гаспадары не дзякуюць яму «за вызваленне ад фашысцкай няволі». Пасля ён пачуе ад Франі, якая за два гады жыцця ў доктара Шарфа і фрау Сабіны пазбавілася ад многіх «саўковых» поглядаў і далучылася да хрысціянскай маралі: «Замест немцаў тут жа заваладаюць рускія». Так, адна акупацыя замяніцца другой, толькі куды даўжэйшай - на цэлыя дзесяцігоддзі. Праўда, Аўстрыі крыху пашанцавала. Там «расійскаму камунізму» не ўдалося стварыць у сваёй зоне нешта накшталт ГДР, і ў 1955 годзе з аўстрыйскіх земляў выйшлі акупацыйныя войскі чатырох дзяржаў, а Аўстрыя была прынята ў ААН.

Не бачыў Барэйка ні радасных сустрэч, ні кветак, ні ўдзячнасці «за вызваленне» і ў іншых гарадках, праз якія рухаўся артылерыйскі полк. Толькі скрозь з балконаў дбайна дагледжаных дамкоў «звісалі белыя прасціны - знакі капітуляцыі». А часам старыя, дзеці і жанчыны махалі з расчыненых вокнаў і «ўсміхаліся, а некаторыя плакалі - відаць было і такое».

У гэтай аповесці чытач знаходзіць нямала «дробных аскалёпкаў» вялікай праўды пра мінулую вайну, пра што раней аўтар не пісаў ды і не мог пісаць па зразумелых прычынах.

Сапраўдныя працаўнікі вайны, якія на сваіх плячах выносілі ўвесь яе цяжар, слушна ацэньваюць словам «нахлебнікі» армейскіх камсоргаў, парторгаў, асабістаў. Аднаго з іх, палкавога «смершаўца», найчасцей можна было ўбачыць толькі на маршах ці на фарміроўках, але праз пару месяцаў на фронце ён «атрымаў два ордэны, як і наш камбат, які топае па перадавой ад самага Харкава і два разы паранены». Дарэчы, у эсэ «Вайна і перамога» В.Быкаў піша, што ў «смершы» ці ў трыбунале можна было паспяхова прайсці не адну вайну, а падставай для ўзнагароджання такіх нахлебнікаў былі колькасныя паказчыкі расстраляных «ворагаў народа».

Яшчэ адзін нахлебнік - маёр-прапагандыст «з мудрагелістым прозвішчам». Ён, калі насустрач акрай дарогі маршыравала калона раззброеных нямецкіх салдат і афіцэраў, двойчы выскокваў з кабіны і кідаўся ў нямецкі натоўп. «Аднаго разу, вярнуўшыся, кінуў на сядзенне новы, сталёвага колеру афіцэрскі плашч, а ў другі, мабыць, таксама разжыўся гадзіннікам». Рабаўніцтвам займаюцца і некаторыя салдаты, сяржанты, хоць на пачатку аповесці чуем грозны голас камбрыга: «Мне грабежнікі непатрэбны!» Асабліва «шчыруе» тылавое начальства, на машынах вывозячы нарабаванае. Барэйка бачыў, што амаль увесь кузаў адной з такіх машын «заняты нейкай старасвецкай шафай ці буфетам з пазалочанымі выкрунтасамі на шкляных дзверцах; ля самай кабіны тырчалі яшчэ тры нейкія скрынкі».

Эпізадычны персанаж «праныра санінструктар Пятрушын» хоць нідзе ў творы не называецца тайным супрацоўнікам «смершаўцаў», але па розных дэталях можна меркаваць, што гэта менавіта так. Яго пабойваюцца афіцэры. «Камбат з гэтым сяржантам чуўся ў надта прыязных адносінах». Сам Пятрушын, будучы «на добрым падпітку», пахваляўся, што «начальнік санслужбы заўжды вітаецца з ім за руку». Пасля сутычкі са старшыной-разведчыкам Барэйка адчуў, што нешта «тут усунулася тайнае і малапрыемнае. Ці не пашчыраваў тут наш санінструк-

гар, іначай чаму яны скіравалі адразу да гэтага катэджа?» Ды і пра тое, што Барэйка «знюхаўся» з зямлячкай Франяй, палкавы асабіст уведаў, няйначай, праз Пятрушына. Зрэшты, можа, і не толькі праз яго, бо, як пісаў В.Быкаў у артыкуле «Будучыня рэспублікі» са спасылкай на апублікаваныя ў Маскве крыніцы, «напярэдадні вайны… сексотаў было ў нас 10 мільёнаў».

У аповесці напамінаецца пра, здаецца, зусім ужо забытую праўду аб вялізнай эканамічнай і ваеннай дапамозе нашаму войску з боку саюзнікаў. Амаль увесь аўтатранспарт палка складаецца з аграмадных «студабекераў», начальства ездзіць на амерыканскіх «вілісах» і «доджах». Адна сцэнка з твора: «Я чакаў Кананка, які хутка прынёс цагліну салдацкага хлеба і банку свіной тушонкі, — усё паклаў на край цеснага століка.

— О, амерыкен, — ціха зазначыў стары, згледзеўшы пяціканцовыя зоркі на банцы.

— Ленд-ліз, — сказаў я».

Дакладна, ярка і праўдзіва апісваецца сустрэча савецкіх і амерыканскіх вайскоўцаў ля ракі, што стане мяжой паміж дзвюма зонамі. Кідаецца ў вочы дэмакратычнасць, вольнасць, натуральнасць у паводзінах амерыканцаў: «Яны адразу кідаліся ў абдымкі з першым, хто ім трапляўся насустрач - салдат ці афіцэр, гучна ляскалі па плячах, штось на ўсё горла крычалі на незразумелай мове». Іхняй весялосці паддаліся і нашы салдаты, яны «перамяшаліся з амерыканскімі, якіх прымалі сапраўды як братоў, — гаманілі, абдымаліся і пілі разам з імі».

У творы закранаецца і партызанская тэма - праз успаміны Франі. Яе бацьку, віднага чэкіста, знішчылі свае ж перад вайной, а маці павесілі гітлераўцы. (Зноў: *два канцы адной палкі.)* З месяц прапартызаніла Франя ў атрадзе асобага прызначэння, прыйшоўшы туды разам з іншымі дзяўчаткамі, што «любілі радзіму і ляцелі на вайну, бы матылькі на агонь». Нахабныя камандзіры гэтага атрада «любілі пакарыстацца дзяўчатамі», а адзін з іх, «труцень такі мардаты», хваліўся: «Ля калодзежа жыць, ды вады не напіцца?» Яны рабілі подзвігі за кошт чужых жыццяў, кідаючы такіх, як Франя, «па адной і дзесяткамі ў пашчу вайны». Дзяўчына не магла болей вытрываць і ўцякла ад гэтакіх партызанаў, а пасля яе павезлі ў Германію. Спасцігшы ідэю Бога («Ніводзін народ, нават самы адсталы, не жыве без Бога»), Франя галоўным у жыцці прызнае дабрыню і чалавечнасць, а класавую барацьбу называе самаедствам і амаль гэтак жа, як і Шарф, лічыць, што вінаватыя не толькі Гітлер, «але і другія не лепшыя» (мае на ўвазе бальшавікоў).

Як і ў іншых быкаўскіх творах, асноўны сюжэтны рух у гэтай аповесці абмяжоўваецца невялікімі часавымі і прасторавымі рамкамі. Але разам з тым яны значна пашыраюцца за кошт устаўных эпізодаў, успамінаў, роздуму галоўнага героя.

Фабула аповесці нескладаная. Камандзір артылерыйскага ўзвода малады лейтэнант Змітрок Барэйка сустрэўся ў аўстрыйскім гарадку з васемнаццацігадовай зямлячкай-беларускай Франяй, і яны пакахалі адно аднаго. Усяго некалькі гадзін правялі яны разам - у шчырых размовах, успамінах і ўзаемнай сімпатыі. Перад світанкам артылерысты атрымалі загад пакінуць гарадок і паходнай калонай рухацца на захад. Барэйка развітваецца з Франяй, «застылай, бы знямелай»: «Ты чакай! Я вярнуся...» І ў яго душа «бы штось адчувала», «шчымела нутраным невыразным болем». Затым, мінуўшы яшчэ адзін гарадок і праехаўшы дзесяткі кіламетраў, артылерысты сустракаюцца з саюзнікамі-амерыканцамі. Пад вечар Барэйку, як і іншых захмялелых, «змарыў п’яны сон». Кажуць: душа душу чуе, а сэрца сэрцу вестачку падае. І Барэйку, як толькі на золку прачнуўся, ахапіла нястрымнае памкненне ўбачыць каханую дзяўчыну і забраць яе з сабой. Не папрасіўшы дазволу ў камбата, лейтэнант на спадарожнай машыне, а пасля веласіпедам дабіраецца да знаёмага катэджа.

Аповесць заканчваецца трагічным фіналам. Жудасную карціну забойства, дзікунскага разгрому і рабаўніцтва ўбачыў Барэйка. А найперш - мёртвую, згвалчаную Франю, застрэленага ў галаву доктара Шарфа, нежывую фрау Сабіну. «Панішчаны, здзіўлены і збянтэжаны» лейтэнант спрабуе ўразумець, хто ўчыніў усё гэта і за што, шле пракляцце гэтым «гадам і нелюдзям»: «Хто б яны ні былі - наглыя ці немцы! Бальшавікі ці фашысты».

Як бачым з гэтых слоў, Барэйка ставіць бальшавікоў і фашыстаў на адну роўніцу. Паступова, але няўхільна ён пачынае спасцігаць новы для яго заходні свет, тое, што на свае вочы пабачыў у Аўстрыі, яшчэ раней - у Венгрыі, а таксама пры сустрэчы з амерыканцамі. Здаецца, ён ужо блізкі да таго, што гаварыў Шарф пра «два канцы адной палкі». Ды яму пасля і прыгадаліся «словы, сказаныя небаракам доктарам Шарфам».

Лейтэнант просіць суседніх жыхароў дапамагчы пахаваць забітых, слухае ў кірсе шчымлівую мелодыю адпявання, сам закопвае Франіну труну, з рэшты жвіру майструе кароценькі пагорачак. Пахавалі ж у той дзень за кірхай нямала людзей. Ці гэта былі ахвяры пазаўчарашняга нямецкага мінамётнага

абстрэлу, ці такія ж ахвяры начнога разбою, як і Франя, — Барэйка не ведаў. Ён, аднак, адчуваў, што мясцовыя людзі здагадваюцца, хто віноўнік злачынства ў доме Шарфа. Ды і самому яму, «падумаўшы, няцяжка было здагадацца, хто мог тое ўчыніць». Вядома ж, нашы «пераможцы».

Думаецца, што аўтар знарок не канкрэтызуе забойцаў, пакідае гэта на роздум чытачу. А яму, чытачу, найперш прыгадваецца злавесная пагроза старшыны з разведроты гвардзейскай арміі. Той з трыма памагатымі хацеў заняць катэдж доктара Шарфа, але, наткнуўшыся на непахіснасць Барэйкі і насцярожаныя позіркі яго артылерыстаў, мусіў адступіць, напаследак прыгразіўшы: «Горка пашкадуеш, мудак!» А такія малойчыкі слоў на вецер не кідаюць. Ды і Варэйку тады ж падумалася: «Тое мне, мабыць, проста не абыдзецца, яшчэ можа быць ліха».

І ліха здарылася. «Ці гэта помста, ці рабаўніцтва? Ці, можа, палітыка?» - задумваецца Барэйка. Можа, і палітыка, — згаджаецца чытач.

Ужо толькі з палітыкай звязаны і яшчэ адзін канфлікт, які «тоіць у сабе» наша перамога.

Многія аповесці В.Быкава, у адпаведнасці з яго творчай манерай, маюць цьмяную варыянтную канцоўку. Прыгадаем, напрыклад, «Круглянскі мост», дзе герой аповесці, арыштаваны і пасаджаны ў яму, яшчэ спадзяецца, што яго незайздросны лёс будзе станоўча вырашаны з прыездам «справядлівага камісара». Двухварыянтны фінал маюць і «Воўчая зграя», «Пайсці і не вярнуцца». Нечаканая і на першы погляд таямнічая канцоўка і ў аповесці «Пакахай мяне, салдацік»: сюды, да Франінай магілы, «я павінен быў вярнуцца. Я меў цвёрды намер на тое. І - не вярнуўся ніколі». Думаецца, аднак, што тут канцоўка ўсё ж адназначная, хоць і не выказаная маленькім дадаткам-сказам пра прычыну, чаму «не вярнуўся». Гэты «дадатак» трагічна гучыць на адной з папярэдніх старонак аповесці, дзе гаворыцца, што «пасля вайны з твайго жыцця могуць зрабіць пекла. Калі не захочацца і жыць». Менавіта такі лёс, безумоўна, напаткаў і Варэйку.

У згаданым эсэ В.Быкава «Вайна і перамога» чытаем: «Упаўнаважаныя «смерша» валодалі магутнай нябачнай сілай, ад іх прыхільнасці залежалі лёс і службовая кар’ера камандзіраў». З гэтай «магутнай нябачнай сілай» адзінаццаць разоў сустракаемся на старонках аповесці. Знешне нібыта прыцягальныя, «лагодны», «усмешысты» маёр і «вялікі аматар спеваў», «заўсёды жвавы капітан» пагрозліва навісаюць над усімі і ўсім.

Яны «ўсё нешта шчыруюць, уведваюць, мабыць, нешта камусь рыхтуюць». І лейтэнант Барэйка ў полі іх зроку.

У свой час ён трапіў у «харкаўскае акружэнне» і хоць выйшаў адтуль не адзін, а з групай, але заведзеная на яго «справа» наўрад ці здадзена ў архіў. Яшчэ адна «пляма»: Барэйкавы бацькі пражывалі на акупаванай тэрыторыі, партызанілі, а пасля недзе прапалі пад Ушачай. Да таго ж асабісту ўжо вядома, што лейтэнант «знюхаўся з зямлячкай» і некалькі гадзін прабыў у доме таго самага Шарфа, якога нядаўна дапытвалі «смершаўцы». Пакуль ішла вайна, лейтэнант патрэбны быў як яшчэ адна «баявая адзінка», а цяпер, калі для «гэтых нястомных барацьбітоў са шпіёнамі» наступіла зорная гадзіна, яго можна і трэба пакараць, ізаляваць і доўга-доўга перавыхоўваць на вялікіх будоўлях камунізму. А тут яшчэ, ні ў каго не пытаючыся, лейтэнант пакінуў полк і паўдня прабыў «у самавольнай адлучцы». Чужое ж каханне асабістам грош цана. І над галавой Барэйкі неадступна згусціліся хмары. Таму пра яшчэ адзін жахлівы фінал у аповесці хоць і не гаворыцца, але ён відавочны і непазбежны ва ўмовах таталітарызму.

Як відаць са сказанага, вайна і маральнасць, вайна і каханне, Савецкі Саюз і Захад і яшчэ шмат якія пытанні - у цэнтры гэтай аповесці. І вырашаюцца яны з глыбіннай праўдай, насуперак кананічным прынцыпам сацрэалізму і былым прапагандысцкім стэрэатыпам, па якіх адно бязмежна ўсхвалялася, а другое старанна замоўчвалася. Дарэчы, што-ніштo з нядаўна агучанага пісьменнікам у яго публіцыстыцы тут якраз і знайшло сваё адлюстраванне ў мастацкіх вобразах. Месца ж дзеяння ў творы добра знаёмае лейтэнанту-артылерысту Быкаву, які вайну закончыў у Аўстрыі.

Пра творчасць В.Быкава напісаны беларускімі і рускімі літаратуразнаўцамі каля дзесятка кніг, сотні артыкулаў і рэцэнзій. Есць у гэтых працах нямала назіранняў і абагульненняў, звязаных са стылем пісьменніка, яго творчай манерай. Што да мовы яго твораў, то яна амаль не даследавалася, хоць, несумненна, заслугоўвае пільнай увагі і глыбокага вывучэння.

Хацелася б закрануць толькі адну з моўных асаблівасцей аповесці «Пакахай мяне, салдацік» - яе лексічнае багацце. Пад багаццем маўлення, як вядома, разумеюць аптымальную насычанасць тэксту самымі неабходнымі і адзіна мажлівымі словамі і выразамі. Кожнае слова нясе нейкую пэўную інфармацыю, таму чым радзей паўтараюцца аднолькавыя словы, тым маўленне багацейшае. Чытаючы і перачытваючы, напрыклад,

першыя старонкі аповесці В.Быкава, бачыш, што тут амаль усе паўназначныя словы маюць адзінкавую частотнасць. Паўтараюцца толькі службовыя словы і асабовыя займеннікі, а таксама словы, якія ў межах часткі твора выконваюць істотную канструктыўную ролю (напрыклад: вайна, гармата, міна, веласіпед, асфальт). Такое выкарыстанне лексічных сродкаў належным чынам стасуецца з вядомым законам аб павелічэнні інфармацыйнай каштоўнасці знака з памяншэннем яго частотнасці.

Лексічнае багацце і разнастайнасць маўлення бачым і ў сказах з простай мовай. Так званая аўтарская мова, якая паказвае, каму належыць тая ці іншая рэпліка, найчасцей мае форму двухсастаўнага сказа. Прыкладна толькі ў трэцяй частцы такіх сказаў у ролі выказніка выступае дзеяслоў «сказаў». У астатніх выпадках гэта або іншыя дзеясловы маўлення і думкі або дзеясловы, якія характарызуюць манеру маўлення, мэтанакіраванасць выказвання ці абазначаюць пачуцці, міміку, рухі, унутраны стан таго, хто гаворыць. Вось толькі некалькі прыкладаў: вымавіў, абвясціў, аб'явіў, зазначыў, прамычаў, бурчэў, адказаў, паўтарыў, скончыў, папярэдзіў, паклікаў, схлусіў, прапанаваў, папытаўся, пацвердзіў, ахаладзіў, згадзіўся, узрадаваўся, дзівіўся, сумеўся, жахнуўся, зазлаваў, вызверыўся, раз'юшыўся, засумняваўся.

Чуйны да змяненняў, што адбываюцца ў лексічным складзе мовы, аўтар выкарыстоўвае нядаўна ўзніклыя словы (*апавед, напрыканцы, наступства, святар)* ці вернутыя з забыцця *(гарбата).*

У творы нідзе няма нічога лішняга. Кожнае слова на сваім месцы. Усюды дакладнасць, канкрэтнасць, сцісласць, «ашчадны быкаўскі радок» (Р.Барадулін).

## ПУШКІНІЯНА

### I. Паспешлівая выснова

Цяпер у нашай літаратуры атрымаў пашырэнне параўнальна новы від празаічных твораў ці жанр, які называюць па-рознаму: мініяцюра, карацелька, абразок. З некалькімі дзесяткамі навел-карацелек пад агульнай назвай «Калейдаскоп» пазнаёміла чытачоў і Лідзія Арабей (ЛІМ. 10 кастрычніка 1997 г.). Паколькі далей гаворка пойдзе пра адну з гэтых карацелек (пад загалоўкам «Уважать себя заставил...»), пададзім яе цалкам:

«Я пыталася шмат у якіх паэтаў, празаікаў - як разумеюць яны пушкінскія радкі з «Яўгенія Анегіна»:

Мой дядя самых честных правил,
Когда не в шутку занемог,
Он уважать себя заставил...

Вось гэта як разумеюць - «уважать себя заставил»? І ўсе мне казалі, што разумеюць буквальна (па-беларуску трэба - літаральна. - І.Л.): прымусіў сябе паважаць. А на самай справе ў часы Пушкіна гэта была ідыёма, па сэнсе такая, як «приказал долго жить», «сыграл в ящик». Карацей кажучы - памёр. І гэта трэба ведаць у першую чаргу перакладчыкам».

Пры ўсёй пашане да вядомай пісьменніцы мусіш насцярожыцца: катэгарычнасць яе сцвярджэння рызыкоўная. Калі *Он уважать себя заставил* абазначае «ён памёр», то ці ж кантактуе гэта з двума папярэднімі радкамі і як тады разумець чарговы, чацвёрты радок гэтай анегінскай страфы? А ён такі:

И лучше выдумать не мог.

Атрымліваецца няўвязка, лагічная нестыкоўка, неяк канцы з канцамі не сыходзяцца. І гэта пярэчыць творчай манеры Пушкіна, для якога, паводле ягонага вызначэння, дакладнасць і сціслацсь — найпершыя вартасці літаратуры.

Далей ідзе радок:

Его пример другим наука.

Тут ужо міжволі ўсклікнеш: «Барані божа! Якая жорсткасць!.. Няхай людзі жывуць...»

Не, як з папярэдніх радкоў, так і з далейшага тэксту гэтай жа страфы выразна відаць, што дзядзька не памёр, што ён толькі хворы:

Но, боже мой, какая скука
С больным сидеть и день и ночь,
Не отходя ни шагу прочь!
Какое низкое коварство
Полуживого забавлять,
Ему подушки поправлять,
Печально подносить лекарство,
Вздыхать и думать про себя:
Когда же черт возьмет тебя!

Уся пададзеная вышэй страфа рамана - гэта думкі «маладога гулякі» Анегіна, які па раптоўным выкліку свайго хворага дзядзькі імчаўся да яго, употай спадзеючыся стаць спадкаемцам дзядзькавага маёнтка. Пакуль Анегін едзе («летит в пыли на почтовых»), аўтар робіць рэтраспектыўны экскурс, знаёміць

чытача са сваім героем, расказвае пра яго мінулае. І толькі ў 52-й страфе вяртае нас да таго, з чаго пачаў свой раман. Аказваецца, як ні спяшаўся Анегін, але, «прилетев в деревню дяди»,

Его нашел уж на столе,
Как дань готовую земле.

У згаданай карацельцы сцвярджаецца, што ў часы Пушкіна была ідыёма *уважать себя заставил* са значэннем «памёр». Не, не было такой ідыёмы, таму яе і не падаюць тагачасныя акадэмічныя слоўнікі рускай мовы (1794, 1822, 1847). Калі б яна была, яе абавязкова ўключыў бы ў свае дзве знакамітыя працы У.Даль, які, дарэчы, быў сябрам Пушкіна і на руках якога памёр паэт пасля дуэлі. Калі б нават такая ідыёма і існавала, то ў кантэксце прыведзенай страфы яна недарэчы.

Л.Арабей сваё, нібыта пераноснае, ідыяматычнае, але, як паказана, недакладнае разуменне спалучэння *уважать себя заставил* раіць «ведаць у першую чаргу перакладчыкам». Штосьці не чуваць, каб хто-небудзь з нашых паэтаў зноў узяўся за пераклад «Яўгенія Анегіна», пасля таго як гэта зрабіў (лічаць: на высокім узроўні) А.Куляшоў. Гэты пераклад паэт уключаў і ў Зборы сваіх твораў. Вось першыя радкі рамана ў перакладзе А.Куляшова:

Мой дзядзька правіл без заганы,
Калі не жартам занямог,
Усіх прымусіў да пашаны
І лепей выдумаць не мог.

Як бачым, А.ІСуляшоў таксама ўспрыняў сэнс памянёнага спалучэння літаральна і адназначна. Як і павінна быць.

Памылковае ж атаясамліванне гэтага спалучэння з неіснуючай ідыёмай не на карысць не толькі перакладчыкам, але і звычайным чытачам, асабліва студэнтам ды вучням, якіх у такім разе можна ўвесці ў зман.

### 2. А Пушкін быў і такім...

Як вядома, яшчэ ў 1997 годзе прэзідэнцкім Указам № 502 1999 год абʼяўлены ў нашай краіне годам А.С.Пушкіна. Зразумела, у іншых рэспубліках былога Савецкага Саюза такіх указаў не было і не магло быць. Адразу ж, яшчэ задоўга да юбілею, сталі праводзіцца святочныя імпрэзы. Напрыклад, у Акадэміі навук наладзілі навуковую канферэнцыю, прысвечаную Пушкіну. На старонках газет і часопісаў друкуюцца ад-

паведныя хвалебныя артыкулы. Нібыта па просьбах працоўных, уносяцца розныя прапановы. Вось і член-карэспандэнт Пятроўскай акадэміі навук і мастацтваў Альберт Багдасараў на старонках «Настаўніцкай газеты» (22.10.1998 г.) прапанаваў прысвоіць імя Пушкіна адной з вышэйшых навучальных устаноў. Чытаючы гэта, падумалася, што, відаць, Брэсцкаму універсітэту (былому педінстытуту), хоць ён толькі нядаўна пазбавіўся ад гэтага імя, як і іншыя універсітэты: БДУ - ад імя Леніна, Гомельскі - ад імя Чкалава, Мінскі - ад імя Горкага. І сапраўды выйшла так, як падумалася: сёння Брэсцкі універсітэт зноў носіць імя Пушкіна. А ў Мінску паставілі помнік паэту.

Чым жа так дарагі для нас, беларусаў, Пушкін? Ці ўсё мы ведаем пра яго і ці пра ўсё, звязанае з яго творчасцю, расказвалі нам у школе і паведамляюць цяпер па радыё, тэлебачанні, у кнігах, газетах, часопісах?

Пазнаёмлю чытачоў з нетрадыцыйнымі думкамі пра погляды паэта, адлюстраваныя ў яго творах, закрану што-нішто з таго, над чым наўрад ці задумваліся многія з тых, хто праходзіў А.С.Пушкіна ў сярэдняй ці вышэйшай школе.

А на бязмежных абшарах былога Саюза вывучаць творчасць Пушкіна пачыналі з першага класа (у нашай рэспубліцы пры так званым двухмоўі і цяпер тое самае). Чыталіся, а то і завучваліся на памяць яго вершы, пасля вершаваныя казкі (дарэчы, цікавыя і зробленыя на высокім мастацкім узроўні), затым праходзіліся вялікія празаічныя творы («Дубровский» і «Капитанская дочка»), трагедыя «Борис Годунов» і раман у вершах «Евгений Онегин». У кожным класе толькі і паўтаралася: Пушкін, Пушкін... А яшчэ - шматлікія оперы, балеты, кінафільмы, зробленыя паводле яго твораў. Ды яшчэ назвы вуліц у гарадах (і беларускіх у тым ліку), установы яго імя... Вольна ці нявольна ствараўся своеасаблівы культ Пушкіна.

Калі сёння запытацца ў вучня ці дарослага чалавека, якіх ён ведае рускіх пісьменнікаў, то ў адказ найперш пачуеш: «Пушкін». Яго прозвішча, можна сказаць, увайшло ў побыт, ператварылася з уласнага ў агульнае. Бадай, кожны чуў, а то і гаварыў: «А хто за цябе - Пушкін будзе рабіць?!» Кантралёр у тралейбусе на зайца можа сказаць: «А білет за цябе Пушкін купіць?» І ў літаратуры гэта знайшло адлюстраванне. У рамане І.Пташнікава «Мсціжы» персанаж гаворыць: «Не хочаш - Пушкін за цябе не зробіць». У п’есе А.Дударава «Злом» чытаем: «— Ну што ў вочы свеціш? — Гэта ты мне? — Не, Пушкіну».

Або ў аповесці Л.Калодзежнага «Пад халодным небам»: «— Што дазваляеш сабе? — Я? — Не Пушкін жа».

Бясспрэчна, Пушкін - вялікі паэт рускага народа. Ён быў ужо і пры жыцці прызнаны сучаснікамі як аўтар шматлікіх шэдэўраў мастацтва. Гэта стваральнік рускай літаратурнай мовы і пачынальнік новай, рэалістычнай літаратуры, вялікі рэфарматар. Пушкін для рускай культуры, мовы і літаратуры тое самае, што, скажам, Т.Шаўчэнка для ўкраінскай, а Я.Купала для беларускай.

Не шкадуючы эпітэтаў і метафар, Пушкіна называюць «вечна жывой з'явай», «нязгасным светачам духоўнасці», «жывой душой народа»... Пішуць і пра яго сусветную вядомасць. Але наўрад ці так гэта. Яго добра ведаюць у краінах СНД, а ў далёкім замежжы, будзем шчырымі, яго вельмі мала хто ведае і чытае. Там з рускіх пісьменнікаў найбольшай папулярнасцю карыстаюцца Л.Талстой, Ф.Дастаеўскі ды А.Салжаніцын. Як засведчана ў «Беларускай Савецкай Энцыклапедыі», Л.Талстой, паводле звестак ЮНЕСКА, займае адно з першых месцаў сярод пісьменнікаў па колькасці моў свету, на якія перакладзены яго творы. Яшчэ і такое супастаўленне: поўны збор твораў Пушкіна складае 10 тамоў, а Талстога - 90 тамоў. Але тым не менш у гэтай жа энцыклапедыі Л.Талстому прысвечана 2 старонкі, а Пушкіну - 4, партрэт Пушкіна займае цэлую старонку (уклейку глыбокага друку), а фотакартка Талстога - пашпартнага памеру (тры на чатыры). Дзейнічае ўсё той жа культ Пушкіна.

Адзін з персанажаў аповесці В.Быкава «Абеліск» гаворыць, што цяпер «любы студэнт ці нават старшакласнік, толькі завядзі з ім гаворку пра Талстога ці там Дастаеўскага, адразу табе выпаліць усе іх хібы, памылкі і абмежаванні». У падручніках па рускай літаратуры для сярэдняй і вышэйшай школы Леў Талстой падаецца як постаць, уся творчасць якога ў «кричащих противоречиях». З аднаго боку, гэта геніяльны мастак і мысліцель, «глыба», «матёрый человечище», аз другога — «помещик, юродствующий во Христе», «истеричный хлюпик», які гаворыць: «я не кушаю больше мяса и питаюсь теперь рисовыми котлетками». Розныя хібы і заблуджэнні вышукваюцца і ў творчасці Дастаеўскага, Тургенева, Ясеніна і інш. І толькі Пушкін як бы карыстаецца імунітэтам недатыкальнасці і зззяе, як сонейка. А між тым у яго творчасці ёсць нямала сапраўдных хібаў, якія стараюцца не заўважаць або сарамліва абыходзяць. А можа, і для тых, хто піша пра Пушкіна, гэта зусім не хібы, а ідэалогія, тоесная з іхняй.

Пра Пушкіна напісаны дзесяткі кніг, сотні артыкулаў. Але ніхто ні слова не гаворыць пра яго непахісныя велікарускія імперскія перакананні.

Выключэнне складае хіба толькі адна праца. Яе аўтар Г.П.Фядотаў (1886-1951) - выдатны рускі гісторык, філасаф культуры. У 1925 г. ён эміграваў з Савецкага Саюза, вёў выкладчыцкую дзейнасць у Парыжы, пасля ў ЗША. У 1947 г. апублікаваў у замежным рускім выданні эсэ «Лёс імперый», перадрукаванае не так даўно маскоўскім часопісам «Знамя» (1992, № 3-4). Аўтар характарызуе імперыю як дзяржаву, што экспансіяй выйшла за свае этнічныя, нацыянальныя межы, закранае шмат розных праблем, пераканаўча абгрунтоўвае непазбежнасць распаду СССР - апошняй сусветнай імперыі. Ёсць там і такія здзіўляльныя прадказанні пра лёс Расіі пасля развалу імперыі: яна «страціць данецкі вугаль, бакінскую нафту... Велікаросія ды яшчэ з прыдачай Беларусі (напэўна) і Сібіры (яшчэ доўга) усё яшчэ агромністае цела, з вялізным насельніцтвам...» Пушкіна аўтар называе «апошнім песняром Імперыі», які шчыра верыў, што хутка ўсе народы Расіі, у тым ліку і нядаўна захопленыя («и финн, и ныне дикий тунгус, и друг степей калмык»), будуць чытаць яго па-руску, а «ўсе этнаграфічныя перажыткі зробяцца здабыткам музеяў і спецыяльных часопісаў».

У вершы «Памятнік», які цытаваўся вышэй, ёсць словы паэта пра тое, што ён у свой «жестокий век восславил Свободу». Але якую свабоду? Свабоду для каго? Паэт і ведаць не хоча, што не можа нацыя быць свабоднай, калі яна заняволівае іншыя нацыі. А гэта ж пры жыцці Пушкіна былі заваяваныя Фінляндыя, Бесарабія, Грузія, Арменія, Азербайджан, шматлікія народы Каўказа.

Паэт нічуць не сумняваўся, што рускія выконваюць вялікую місію, цывілізуючы тубыльцаў - захопленыя «дзікія» або «напаўдзікія» народы. Ён быў добра знаёмы з П.Песцелем і падзяляў яго выказаныя на старонках «Русской Правды» погляды наконт таго, што абрусенне ўсіх іншародных плямёнаў будзе садзейнічаць «узвядзенню Расіі на вышэйшую ступень працвітання, велічы і магутнасці» і што «на цэлай прасторы расійскай дзяржавы» павінна быць «адна толькі мова руская».

Ёсць у Пушкіна і выказванне пра мову. Удумаемся, як ён з шавіністычнай пропаведдзю сваёй нацыянальнай выключнасці гаворыць пра непараўнальную веліч рускай мовы. Яна, маўляў, «как материал словесности, имеет неоспоримое превосходство перед всеми европейскими». Канешне, кожны цыган сваю

кабылу хваліць. Але ж хіба можна гэтак прыніжаць іншыя мовы і беспадстаўна ўзвялічваць сваю? Ні ў Гётэ, ні ў Байрана і ні ў якага іншага пісьменніка язык не павярнуўся б сказаць такое. Усе развітыя літаратурныя мовы аднолькава багатыя і аднолькава роўныя, і няма і не можа быць сярод іх «раўнейшай». Наш літаратар, журналіст, настаўнік цалкам салідарны з Францішкам Багушэвічам, які пісаў, што беларуская мова «такая людская і панская, як і французская, альбо нямецкая, альбо і іншая якая».

Ды, зрэшты, такое празмернае, але мэтанакіраванае праслаўленне «великого, могучего, правдивого и свободного русского языка» пачалося не з Пушкіна. Адзін з яго папярэднікаў, Ламаносаў, выказаўся, здаецца, не горш: «Карл Пятый, римский император, говаривал, что ишпанским языком с Богом, французским с друзьями, немецким с неприятелем, итальянским с женским полом говорить прилично. Но если бы он российскому языку был искусен, то конечно, к тому присовокупил бы, что им со всеми оными говорить пристойно, ибо нашел бы в нем великолепие ишпанского, живость французского, крепость немецкого, нежность итальянского, сверх того богатую и сильную в изображениях краткость греческого и латинского языков».

Часта цытуюць радкі з верша «Он между нами жил», у якіх гаворыцца «о временах грядущих, когда народы, распри позабыв, в великую семью соединятся». Але, вядома ж, маецца на ўвазе сям’я са старэйшым братам на чале, пад эгідай рускіх. У апалагетычна-імперскім вершы «Клеветникам России» аўтар хоць і задае пытанні, але яны рытарычныя, не патрабуюць адказу: «Славянские ль ручьи сольются в русском море? Оно ль иссякнет? Вот вопрос». Ох, як і сёння марыць многія з «славянскіх сабораў» пра зліццё славянскіх ручайкоў у рускім моры ды настойліва ўбіваюць нам у галаву прыдуманую тысячагадовую агульнасць гісторыі, культуры, мовы ў рускіх і беларусаў, навязваюць нам чужую мову, чужую гісторыю, чужых герояў, замяняюць ранейшы інтэрнацыяналізм сучасным інтэрславізмам.

Пушкін з гонарам малюе вялікадзяржаўны вобраз сваёй неабсяжнай краіны-імперыі, якая распасцерлася «от Перми до Тавриды, от финских скал до пламенной Колхиды, от потрясенного Кремля до стен недвижного Китая». Каўказскія яшчэ не захопленыя грамады гор — гэта «гнездо разбойничьих племен, черкесской вольности ограда». У паэме «Кавказский пленник» бачым праслаўленне заваёўніка: «Тебя я воспою, герой, о

Котляревский, бич Кавказа! Куда ни мчался ты грозой - твой ход, как черная зараза, губил, ничтожил племена...» І пагрозы: «Всё русскому мечу подвластно», «На негодующий Кавказ поднялся наш орел двуглавый». І яшчэ: «Поникни снежною главой, смирись, Кавказ: идет Ермолов!» Дарэчы, апошнія радкі пра Ярмолава закранулі У.Маякоўскага, які пэўны час быў прыхільнікам заклiку «скінуць Пушкіна з карабля сучаснасці» і ў гэтай сувязі зазначыў (Полн. собр. соч., т.12, 1959. С.435): «Як жа на Каўказ перадаць гэтыя радкі, якія ўсхвалялі рускага генерала, занявольніка Грузіі, у імя існавання адзінай, непадзельнай царскай Расіі?»

Ваяўніча-агрэсіўна паводзіў сябе Пушкін падчас польскага паўстання 1830-1831 гг. (гл. пра гэта ў 4-м раздзеле «Пушкініяны»).

У паэме «Медный всадник» «апошні пясняр Імперыі» апраўдвае захопніцкую палітыку цара. На толькі што заваяваных землях Фінскага заліва стаіць Пётр Першы і думае: «Отсель грозить мы будем шведу, здесь будет город заложен назло надменному соседу. Природой здесь нам суждено в Европу прорубить окно, ногою твердой стать при море». Радок «в Европу прорубить окно» пасля стаў крылатым выразам, пачаў ужывацца са значэннем 'устанавіць дзелавыя і культурныя сувязі з еўрапейскімі краінамі' - насуперак яго сапраўднаму сэнсу, звязанаму з агрэсіяй («грозить мы будем шведу», «ногою твердой стать при море»).

Між іншым, гэты выраз сатырычна пераасэнсоўваецца ў п'есе Я.Купалы «Тутэйшыя». Усходні вучоны пытаецца ў Янкі Здольніка, ці не збіраюцца беларусы набыць сабе мора, «прорубіць себе куда-нібудзь окошко - в Еўропу ілі Азію». Янка адказвае: «Нам і без мора, пане вучоны, хапае дзе тапіцца, як павее пошасцяй праз усходнія ці заходнія «окошкі». Услед «вучоныя» запісваюць, што пра пашырэнне сваіх межаў, пра Дарданелы, Індыйскія моры і якія-небудзь «окошкі» беларусы не думаюць і думаць не жадаюць. Тут вяртаецца гэтаму выразу яго першасны, у народным разуменні сэнс, звязаны з захопам чужых земляў. Менавіта такое ж разуменне выразу адбілася і ў вядомай гумарэсцы пра цара Пятра Першага і князя Меншыкава. Цар кажа: «Здесь нам природой суждено в Европу прорубить окно! А может, еще и в Азию прорубим!» А князь: «На два окна занавесочек не хватит!» (З гісторыі, аднак, вядома, што хапіла...)

Згаданы раней папулярны прадстаўнік дзекабрысцкага руху П.Песцель рашуча выступаў за тое, каб беларусаў і маларосаў

«за сапраўдных рускіх лічыць і ад гэтых апошніх ніякімі асобнымі назвамі не аддзяляць». Гэтыя думкі падзяляў і Пушкін. Пра беларусаў ён пісаў: «Народ, издревле нам родной». «Ну што паробіш, быў Пушкін дзяржаўнікам, імпершчыкам», — так каментуе гэтыя пушкінскія словы С.Букчын у артыкуле «Пушкін і Лукашэнка» (Свабода. 14.10.1997 г.).

Адносіны паэта да ўкраінцаў добра выяўляюцца пры чытанні паэмы «Полтава». Мазепа, гэты, як пісаў прафесар В.Антановіч, «дужа шчыры і гарачы патрыёт Украіны, які заўжды дбаў пра поўную незалежнасць свайго краю», паказаны ў паэме як «изменник русского царя», «злодей», «Иуда». Паводле Пушкіна, «забыт Мазепа с давних пор; лишь в торжествующей святыне раз в год анафемой доныне, грозя, гремит о нем собор». Але сёння на Украіне не лічаць Мазепу здраднікам і аддаюць яму належнае - у назвах вуліц, у выявах на грошах-грыўнях і г.д.

Як бачым, Пушкін, сын сваёй эпохі, быў яшчэ і такі, калі глядзець на яго без прывычнага хрэстаматыйнага глянцу. Выказаныя тут думкі не змяншаюць нашай агульнай павагі да славутага рускага паэта. Трэба толькі бачыць не адзін бок медаля. З песні, як кажуць, слова не выкінеш.

### 3. «Руку правую потешить...»

Калі «Наша слова» (26.08.1998 г.) апублікавала мой артыкул «І яшчэ трохі пра Пушкіна», я, прызнацца, чакаў, што будзе хоць колькі адмоўных водгукаў. Але не дачакаўся, бо, відаць, усе нашы чытачы хоць, на жаль, і нешматлікія, але аднадумцы.

Затое ў тутэйшым знаёмым асяроддзі па-рознаму ўспрынялі надрукаванае.

Былі і такія дзівацкія рэплікі, далекаватыя ад сутнасці пытання: «А навошта вам было ўспамінаць Дастаеўскага? Гэта ж псіх!» Вось ён - адзін з ярлыкоў, прышытых вялікаму пісьменніку школьнымі, інстытуцкімі ці яшчэ якімі працаўнікамі ідэалагічнага фронту. Я мусіў сказаць: «Напішыце хоць адзін абзац так, як Дастаеўскі, і тады можна рабіць экспертызу псіхічных здольнасцяў».

Некаторыя гаварылі, што ў любога пісьменніка можна пры вялікім жаданні знайсці розныя хібы і заблуджэнні і што я, маўляў, панавыкопваў з твораў Пушкіна ўсё сапраўды непрыглядначе, якое паказвае паэта без прывычнага хрэстаматыйнага

глянцу. Не! Па-першае, далёка не ў кожнага пісьменніка знойдзеш падобнае, а па-другое, я выбраў і падаў толькі нязначную долю таго, што можна было б падаць.

У шмат якіх іншых творах Пушкіна, не названых у папярэднім артыкуле, можна няўзброеным вокам бачыць тую ж самую непахіснасць ягоных імперскіх перакананняў, непрымальных для чалавека з не «саўковым» мысленнем. Не будзем забываць, што свой жыццёвы шлях паэт закончыў у падараваным яму царом яшчэ ў 1833 г. прыдворным званні «камер-юнкера Яго Імператарскай Вялікасці». Здаецца, пасля Пушкіна ніхто з пісьменнікаў не меў прыдворных званняў.

У манаграфіях, артыкулах, падручніках сцвярджаецца, што пушкінская творчасць «садзейнічае ўмацаванню дружбы паміж народамі нашай вялікай краіны». А чытаючы творы пісьменніка, натыкаешся на ягонае высакамернае, пагардлівае стаўленне да татараў, башкіраў, чэркесаў і інш.

Вуснамі свайго станоўчага героя з аповесці «Капитанская дочка» пісьменнік гаворыць, што нядаўна далучаная да імперыі вялізная і багатая Арэнбургская губерня «обитаема была множеством полудиких народов» і што іх «штохвілiннае абурэнне», «легкадумнасць і жорсткасць патрабавалі з боку ўрада бесперапыннага нагляду для ўтрымання іх у падпарадкаванні».

І сёння ў нашых школах, у Б класе, вывучаецца «Сказка о мёртвой царевне и семи богатырях». Яна змешчаная ў падручніку-хрэстаматыі, падрыхтаванай беларускімі аўтарамі (Т.Мушынская і інш.) і выдадзенай у Мінску. Перад тэкстам твора гаворыцца, што ў пушкінскіх казках прываблівае не толькі фабула, але найперш «маральны змест». Прыгадаем, які ж тут «маральны змест».

Маладая, прыгожая царэўна, асуджаная на смерць злоснай царыцай-мачахай, цудам выратоўваецца. Доўга праблукаўшы па лесе, яна заходзіць у церам. Гаспадароў дома няма, але царэўна зразумела, што «тут люди добрые живут». Праз нейкі час і яны з'яўляюцца - «семь богатырей, семь румяных усачей». Паводзяць яны сябе ў найвышэйшай ступені інтэлігентна, па-джэнтльмэнску і выклікаюць павагу ў чытача. Але паглядзім, чым яны займаюцца. Паэт як бы між іншым расказвае пра іх сталы занятак: «Перед утренней зарёю братья дружною толпою выезжают погулять, серых уток пострелять, руку правую потешить, сорочина в поле спешить, иль башку с широких плеч у татарина отсечь, или вытравить из леса пятигорского черкеса».

Аж мароз па целе прабягае ад гэтых радкоў, ад гэтакай пацехі правай рукі. Д-о-обры занятак у гэтых «добрых людзей». І «маральны змест» казкі таксама, нічога не скажаш, «добранькі». Ніяк не кладуцца ў гэтую мараль адсечаная ў татарына «башка с широких плеч», забітыя сарачын і чэркес.

Можа, у падручніку пад тэкстам казкі ёсць якое-небудзь асуджэнне разбою? Не, няма. Ёсць толькі пытанні да вучняў: «Хто з герояў асабліва спадабаўся? Хто выклікаў у вас іншыя пачуцці? Менавіта якія? Як багатыры адносіліся да царэўны? Чаму?» І ўсё. Каментарыі, як гаворыцца лішнія.

У паэме «Полтава» хоць і гаворыцца, што «Украйна глухо волновалась, давно в ней искра загоралась», паэт увесь час на баку цара Пятра Першага. І не асуджае яго нават за такі дзікі ўчынак. Аднойчы, яшчэ задоўга да Палтаўскай бітвы, гетман Украіны Мазепа баляваў з царом у ягонай стаўцы і «слова смелае сказаў». Суровы цар пры шматлікіх гасцях з пагрозай ухапіў Мазепу за сівыя вусы. Перанёсшыся ў сённяшні час, няцяжка ўявіць, які быў бы сусветны рэзананс і адпаведная рэакцыя, калі б, скажам, Ельцын на віду ў людзей схапіў за вусы якога-небудзь губернатара ці, не дай бог, свайго суседа-прэзідэнта.

На тэрыторыі Еўропы, апрача славян (рускія, украінцы, беларусы, палякі, чэхі, славакі, сербы, харваты, славенцы, балгары, македонцы), жывуць яшчэ дзве вялікія групы роднасных народаў. Адна з іх - германская (англічане, немцы, галандцы, шведы, датчане, нарвежцы, ісландцы). Другая - раманская група (французы, італьянцы, іспанцы, партугальцы, румыны, малдаване). Але ніхто не чуў, каб які-небудзь англійскі дзяржаўны дзеяч ці пісьменнік змагаўся за аб'яднанне ўсіх германскіх народаў у адзін саюз. Больш таго, Англія і Германія як у першай, так і ў другой сусветнай вайне былі не саюзнікамі, а супраціўнікамі. Гэтак жа сама ніколі не імкнуліся і не імкнуцца да аб'яднання французы з іспанцамі, італьянцамі і іншымі раманскімі народамі. А вось там, дзе ў модзе тэорыя панславізму, — там дзяржаўныя дзеячы толькі і мараць пра саюз, федэрацыю ці канфедэрацыю, там і майстар прыгожага пісьменства думае пра час, калі ж «славянские ручьи сольются в русском море» (А.Пушкін). Ні Гётэ, ні Байран і ніхто іншы ніколі б падобнае не напісаў.

Нядаўна ў часопісе «Нёман» пабачылі свет успаміны Івана Насовіча (1788-1877) - славутага лексікографа і фальклрыста, аўтара першага «Слоўніка беларускай мовы» (1870), «Зборніка беларускіх прыказак» (1874), шэрагу іншых значных прац. Ёсць у гэтых «Успамінах майго жыцця» і такі эпізод.

У 1839 годзе І.Насовіч, выкладаючы рускую славеснасць у Свянцянскім дваранскім вучылішчы, аднойчы быў вельмі ўражаны. Усе вучні яго класа катэгарычна адмовіліся завучваць на памяць верш Пушкіна «Клеветникам России». Так паўтаралася тры дні запар. Нарэшце, настаўнік зразумеў, у чым справа. «— Скажыце шчыра, гэтыя вершы супраціўныя вашаму патрыятызму? Ці так? — «Так, пан настаўнік!» - крыкнулі ўсе».

Вось якія былі тады вучні! «Не то, что нынешнее племя», як пісаў Лермантаў з іншай нагоды.

Праз чвэрць стагоддзя Мураўёў-Вешальнік, крывавы кат, бязлітасны душыцель паўстанцаў Кастуся Каліноўскага, сказаў: «Што не змог зрабіць рускі штык, даробіць руская школа». Ён, як гаворыцца ў «Нарысах гісторыі Беларусі», амаль цалкам замяніў мясцовых настаўнікаў і чыноўнікаў выхадцамі з цэнтральных расійскіх губерняў, прывабіўшы павышэннем акладаў на 50 працэнтаў і перспектывай хуткай кар'еры.

Такое выхаванне цягнулася многа-многа дзесяцігоддзяў. І як вынік гэтага - амаль кожны сённяшні школьнік ці студэнт завучвае ўсё, што скажуць, прымае за чыстую манету ўсё надрукаванае або паказанае па тэлевізары. Што ні падносяць, тое і есць.

### 4. «Прадаўшыся цару за шчодрыя дары...»

**16** лютага 1999 года незалежная гродзенская газета «Пагоня» змясціла мой артыкул «А Пушкін быў і такім...» У ім, аддаючы належнае Пушкіну як знакамітаму рускаму паэту, я збольшага паказаў і адваротны бок медаля, спыніўся на непахісных велікарускіх імперскіх перакананнях паэта, якія ва ўсіх іншых працах пра Пушкіна старанна не заўважаюцца або сарамліва замоўчваюцца.

Паэт, напрыклад, шчыра верыў, што хутка ўсе народы Расіі, у тым ліку і нядаўна захопленыя («и финн, и ныне дикий тунгус, и друг степей калмык») абрусеюць. Ён нічуць не сумняваўся, што рускія выконваюць вялікую місію, цывілізуючы тубыльцаў - заваяваныя «дзікія» або «напаўдзікія» народы, высакамерна, пагардліва ставіўся да татараў, башкіраў, чэркесаў ды іншых, з шавіністычнай прапаведдзю сваёй нацыянальнай выключнасці гаварыў пра непараўнальную веліч рускай мовы (яна, маўляў, мае «бясспрэчную перавагу перад усімі еўрапейскімі мовамі»), марыў пра час, калі «славянские ручьи сольются в русском море», усхваляў агрэсіўную палітыку рускіх цароў, славіў генералаў-заваёўнікаў Ярмолава, Паскевіча,

Суворава і іншых. У артыкуле крыху закранаася і ваяўнічая пазіцыя Пушкіна падчас падзей 1830-1831 гг. у Польшчы.

Некаторыя з чытачоў пры сустрэчы са мной пыталіся, ці вядома, як паставіўся Адам Міцкевіч да антыпольскіх пушкінскіх выпадаў, і дадавалі, што абодва ж паэты ў свой час сябравалі.

Зварот да шматлікіх кніг, звязаных з жыццём і творчасцю паэтаў, дазваляе адказаць на гэта пытанне. Пра Пушкіна ёсць двухтомнік з успамінамі сучаснікаў, а таксама дакументальная кніга В.Верасаева «Пушкін у жыцці». Што-ніштто можна знайсці і пра Міцкевіча. Асноўная ж крыніца - поўныя зборы твораў гэтых пісьменнікаў.

Спачатку - коратка пра Міцкевіча. Яго слушна лічаць не толькі геніем паэзіі, пісьменнікам сусветнага значэння, але і змагаром польскай і еўрапейскай дэмакратыі. Будучы студэнтам Віленскага універсітэта, ён стаў адным з арганізатараў тайных таварыстваў патрыятычнай моладзі - філаматаў і філарэтаў. Пасля заканчэння універсітэта чатыры гады настаўнічаў у Коўне, працягваючы актыўную грамадскую дзейнасць. У многіх рамантычных творах Міцкевіча яго маладыя сучаснікі шукалі і знаходзілі тое, што якраз адпавядала іхнім патрыятычным імкненням і вялікай мэце - вызваліць Польшчу ад чужаземнага гнёту.

У кастрычніку 1823 года царскія ўлады арыштавалі Міцкевіча і яго таварышаў з філамацка-філарэцкіх арганізацый, а праз год выслалі «ва ўнутраныя губерні Расійскай імперыі». Жывучы ў Адэсе, Маскве, Пецярбурзе, паэт зблізіўся з будучымі дзекабрыстамі Рылеевым і Бястужавым, пазнаёміўся са многімі рускімі пісьменнікамі, напісаў шмат новых твораў. Ссылка цягнулася чатыры з паловай гады. У маі 1829 года паэт атрымаў дазвол на выезд з Расіі. Як толькі даведаўся ён, што лістападаўскай ноччу 1830 года ў Варшаве ўспыхнула паўстанне, жаданне быць разам з паўстанцамі ахапіла паэта. Ён выязджае з Рыма і праз Францыю і Германію прабіраецца да граніцы Каралеўства Польскага. Некалькі месяцаў сочыць ён за гераічнай, але няроўнай барацьбой, прабіцца ж да сваіх не рызыкнуў.

Пасля Міцкевіч амаль увесь час жыве ў Парыжы. А думкі паэта - у родным абяскроўленым краі, дзе адны загінулі ў баях, а другіх царскія ўлады вывезлі на катаргу ці ў ссылку. Там, у Парыжы, Міцкевіч быў душой польскай эміграцыі, асабліва яе левага крыла. Пэўны час ён чытаў курс лекцый па славянскіх літаратурах, рэдагаваў інтэрнацыянальную газету. У 1848 годзе ён арганізаваў польскі легіён на падтрымку барацьбітоў за свабоду Італіі.

З Пушкіным ён пазнаёміўся ўвосень 1826 года. У паэме «Дзяды» («Урывак часткі 3-яй») прыгадваецца, як у дажджлівую пецярбургскую ноч, укрыўшыся адным плашчом, стаялі яны ля помніка Пятру Вялікаму і, хоць упершыню сустрэліся толькі некалькі дзён таму, гутарылі, «як з братам брат». Адзін з іх - «сын Захаду, чужынец невядомы», «царскім самавольствам гнаны». Другі - «рускі, вольнасці пясняр», які «словам палымяным Поўнач абуджаў». Дарэчы, у памянёным «Урыўку...» Міцкевіч зусім інакш ставіцца да Пятра Першага, чым Пушкін у паэме «Медный всадник» і іншых творах. Не захапляецца ім і не ўсхваляе яго, а паказвае, як цар, «пранікшы ў чужыя землі, залажыў імперыі апору, сабе сталіцу, а не горад людзям», як ён у балота, «у нетры плывуноў... утапіў цэлы ста тысяч мужыкоў, і стала кроў асновай той сталіцы».

Міцкевіч пісаў, што ведаў Пушкіна «даволі блізка і даволі доўга; знаходзіў у ім характар занадта ўражлівы, а часам легкадумны, але заўсёды шчыры, высакародны». І яшчэ: «Калі ён гаварыў пра знешнюю ці ўнутраную палітыку, то можна было прыняць яго за чалавека, які пасівеў у занятках дзяржаўнымі справамі і штодзённа чытае справаздачы ўсіх парламентаў».

Як зазначыў адзін з сучаснікаў Пушкіна, «па адукаванасці, па шматбаковай вучонасці Міцкевіча Пушкін не мог параўнаць сябе з ім». Сам Пушкін быў у незвычайным захапленні ад Міцкевіча і аднойчы сказаў: «Нядаўна Жукоўскі гаворыць мне: ці ведаеш, брат, Міцкевіч жа заткне цябе за пояс. - Ты не так гаворыш, — адказаў я, — ён ўжо заткнуў мяне». Асабліва захапляўся Пушкін выключнай здольнасцю Міцкевіча імправізаваць. На адной з такіх імправізацыі як піша А.Адынец, Пушкін сарваўся з месца і, кудлацячы валасы, амаль бегаючы па зале, усклікнуў: «Які геній! Якое свяшчэннае полымя! Што я поруч з ім?»

Пасля таго як Міцкевіч паехаў у пажыццёвую эміграцыю, дарогі іх разышліся. Міцкевіч да скону дзён быў паэтам-ваяром, а Пушкін з «песняра вольнасці» становіцца «апошнім песняром Імперыі» (так ацаніў яго Г.П.Фядотаў).

У 1824 годзе Пушкіна, як ён пісаў пасля, «за два радкі нерэлігійныя» ў пісьме, перахопленым паліцыяй, зволілі са службы і выслалі ў сяло Міхайлаўскае (маёнтак яго маці) пад нагляд губернскага начальства і духоўных улад. Праз два гады паэт піша новаму цару Мікалаю Першаму пісьмо, у якім «са шчырым раскаяннем і цвёрдым намерам не супярэчыць сваімі поглядамі агульнапрынятаму парадку» просіць дазволу ехаць

у Маскву ці Пецярбург. Цар выклікае паэта да сябе, гутарыць з ім, вызваляе яго ад ранейшага пакарання, дае права жыць, дзе хоча. «Пішы і пішы, я буду тваім цэнзарам, кончыў цар і, узяўшы яго за руку, вывеў у сумежны пакой, напоўнены царадворцамі: — Вось вам новы Пушкін, пра старога забудзем». Як сведчыць А.П.Пяткоўскі, тады ж цар, ідучы разам з Пушкіным і ласкава паказваючы на яго сваім прыбліжаным, сказаў: «Цяпер ён мой!»

За Пушкіным яшчэ працягваецца тайны нагляд, але шэф корпуса жандараў Бенкендорф ужо дакладвае цару, што Пушкін «усюды гаворыць пра Вашу Вялікасць з удзячнасцю і найглыбейшай адданасцю». Яшчэ праз пэўны час у чарговым данясенні галоўны жандар паведамляе: «Пушкін, пасля сутрэчы са мной, гаварыў у Англійскім клубе з захапленнем пра Вашу Вялікасць і прымусіў усіх, хто з ім абедаў, піць за здароўе Вашай Вялікасці. Ён усё-такі вялікі шалапут, але калі ўдасца скіраваць яго пяро, то гэта будзе выгадна». І вось паэт ужо піша вернападданніцкі верш «Стансы» ў гонар імператара. Некаторыя сябры Пушкіна ў такіх яго стасунках з царом бачылі здраду іх ранейшым агульным інтарэсам. П.Вяземскі, А.Тургенеў і іншыя асабліва асуджалі паэта за яго апалагетычныя вершы «Клеветникам России» і «Бородинская годовщина». Пра ўслаўленую Пушкіным перамогу над польскімі паўстанцамі Вяземскі гаварыў: «Курам на смех быць у крайняй узбуджанасці ад здзіўлення, бачачы, што льву ўдалося, нарэшце, накласці лапу на мыш».

Супастаўляючы розныя сведчанні сучаснікаў Пушкіна і яго ўласныя пісьмы, можна ўзнавіць гісторыю з'яўлення на свет гэтых апалагетычных твораў. Жаданне Бенкендорфа і цара «скіраваць пяро» Пушкіна ў патрэбным для іх напрамку добра адчуваў і сам паэт. 21 ліпеня 1831 года ён праз таго ж Бенкендорфа прапануе цару свае паслугі: «Калі гасудару імператару пажадана будзе скарыстаць пяро маё, то буду старацца з дакладнасцю і стараннасцю здзяйсняць волю Яго Вялікасці і гатоў служыць яму па меры маіх здольнасцей». Прапанову прынялі з задавальненнем.

І вось ужо, як засведчыў П.Барценеў, Пушкін «піша па жаданні гасудара» сваё пасланне «Клеветникам России». Сын цара, будучы імператар Аляксандр Другі, таксама пакінуў сведчанне: «Калі Пушкін напісаў гэту оду, ён перш за ўсё прачытаў яе нам». Абодва вершы, створаныя ў духу вялікадзяржаўнасці і імперскага мыслення, апублікаваны ў жніўні 1831 года.

І тут жа як з рога дастатку пасыпаліся на аўтара шчодрыя «благодеяния Его Величества» (гэта словы самога Пушкіна).

14 лістапада гэтага ж года «государь император высочайше повелеть соизволил»: адстаўнога калежскага сакратара Аляксандра Пушкіна прыняць на службу тым жа чынам і прызначыць у дзяржаўную Калегію замежных спраў. Праз 20 дзён яшчэ адзін імператарскі Указ: «пожаловать» калежскага сакратара Пушкіна ў тытулярныя саветнікі. Адначасова Пушкін прызначаецца прыдворным гістарыёграфам (для напісання гісторыі Пятра Вялікага). Дададзім: з найвялікшым па тагачасных мерках акладам (жалаваннем) у 5000 рублёў у год, куды большым, чым атрымліваў на той жа пасадзе папярэднік Пушкіна - славуты гістарыёграф М.Карамзін. Для параўнання прыгадаем, што М.Гогаль у той самы час меў, выкладаючы ў вышэйшай навучальнай установе, «брыдкае жалаванне універсітэцкае 600 рублёў» (гадавых).

Пісьмовыя кантакты з царом Пушкін ажыццяўляў праз Бенкендорфа. Захавалася аж 58 такіх пісьмаў. У адным з іх паэт паведамляе, што хоць ён за сваю службу і атрымлівае вялізную суму жалавання, але яму не хапае грошай для пражывання ў Пецярбурзе і што ён за чатыры гады пасля жаніцьбы мае шмат даўгоў. Хутка паэту з казны выдалі ў пазыку 30 тысяч рублёў.

Зрэдку паэт сустракаўся і з самім царом: то ў царскасельскім садзе, то ў іншых мясцінах. Аднойчы імператар з сям'ёй ехаў у экіпажы і, убачыўшы ішоўшага ля дарогі Пушкіна, гучна прывітаў яго па-французску. Паэт пачціва адказаў на прывітанне. Сустрэчы сталі вельмі частымі, пасля таго як найвысачэйшым Указам «всемилостивейше пожаловали» тытулярнага саветніка Аляксандра Пушкіна ў званне «камер-юнкера двара нашага». Праўда, паэт быў не зусім задаволены гэтым самым нізкім прыдворным званнем, якое, як ён запісаў у «дзённіку», «даволі непрыстойнае майму ўзросту», аднак не адмовіўся ад камер-юнкерства і заставаўся ў гэтым званні да апошніх дзён жыцця.

Калі паэт пасля дуэлі з Дантэсам памёр, імператар распарадзіўся: 1) заплаціць з казны ўсе даўгі нябожчыка (а гэта, як пасля падлічылі, аж 120 тысяч рублёў. - І.Л.), 2) закладзены маёнтак бацькі ачысціць ад даўгоў, 3) удаве пенсіён і дачцэ да замужжа, 4) сыноў у пажы і па 1500 рублёў на выхаванне кожнага да ўступлення на службу, 5) творы выдаць за казённы кошт на карысць удавы і дзяцей, 6) аднаразова - 10 тысяч рублёў.

Між іншым, калі гаворка ідзе пра Льва Талстога ці, скажам, Тургенева, то звычайна не забываюць напомніць, што яны мелі ўласныя маёнткі, а пра Талстога дадаюць яшчэ, што гэта «помещик, юродствующий во Христе». Пра Пушкіна ж пішуць толькі, што ён з дваран. А між тым ён таксама меў маёнтак у сяльцы Кісцянёве Ніжагародскай губерні - 220 прыгонных сялян мужчынскага полу з жонкамі і дзецьмі. Праўда, ён, як толькі атрымаў гэту спадчыну ад бацькі, адразу заклаў у ламбард 200 душ за 38000 рублёў. У пісьме Пушкіна да К.Рылеева чытаем: «Ты злуешся, што я фанабэрузся 600-гадовым дваранствам (маё дваранства яшчэ старэйшае)».

Вернемся цяпер да нацыянальна-вызваленчага польскага паўстання 1830-1831 гг. і рэакцыі Пушкіна на гэтыя падзеі. «Паведамленне аб польскім паўстанні, — пісаў паэт 9 снежня 1830 года, — мяне зусім ашаламіла. Нашы спрадвечныя ворагі будуць канчаткова знішчаны... Любоў да айчыны ў душы паляка заўжды была пачуццём безнадзейна змрочным. Успомніце іх паэта Міцкевіча». І яшчэ ў адным пісьме (21.01.1831 г.) прыгадваецца Міцкевіч: «Мы атрымаем Варшаўскую губерню, што трэба было ажыццявіць ужо 33 гады таму. З усіх палякаў мяне цікавіць адзін Міцкевіч. У пачатку паўстання ён быў у Рыме, баюся, ці не прыехаў ён у Варшаву, каб прысутнічаць пры апошніх сутаргах сваёй айчыны». Упэўненасць Пушкіна, што «Варшаву возьмуць без выстрале», не спраўдзілася. «Пясняр Імперыі» нервуецца, хоча сам адправіцца ў Польшчу. То Барценеву, то Нашчокіну на поўным сур'ёзе гаворыць, што «кіне ўсё і паедзе біцца з палякамі». Чамусьці, аднак, не паехаў.

І далей з пільнай, неаслабнай увагай сачыў Пушкін, як царызм душыў паўстанцаў і, як існы вялікадзяржаўны, блізка да сэрца прымаў няўдачы рускага войска. 1 верасня 1831 года ў пісьме да П.Вяземскага Пушкін паведамляе яму некаторыя падрабязнасці пра бітву пад Астралэнкай (14 мая), пра тое, як па-геройску паводзіў сябе польскі галоўнакамандуючы Ян Скржынецкі: «Ён, ранены ў плячо, выпусціў з рук палаш і сам зваліўся з каня, уся ягоная світа кінулася да яго і зноў пасадзіла на каня. Тады ён заспяваў «Ешчэ Польска не згінэла», і світа яго пачала паўтараць...» І далей: «Усё гэта добра ў паэтычных адносінах. Але ўсё-такі іх трэба задушыць, і наша марудлівасць выклікае пакуту». Вось ён які, Пушкін...

Затое, як акрыяў паэт, калі даведаўся, што «Польши участь решена»: «Победа! Сердцу сладкий час! Россия! Встань и возвышайся! Греми, восторгов общий глас!..» На ўрачыстасць на-

ват выклікаецца цень продкаў: «Восстав из гроба своего, Суворов видит плен Варшавы; вострепетала тень его от блеска им начатой славы!» Гэта той самы Сувораў, які ў 1794 годзе заліў беларускую і польскую землі крывёю, задушыў паўстанне Касцюшкі, а крыху раней - паўстанне Пугачова.

Прыкра і крыўдна было Міцкевічу, што той, каго ён называў «песняром вольнасці», цяпер служыць царызму і славіць яго захопніцкую палітыку. У выгнанні, далёка ад заняволенай радзімы піша Міцкевіч верш «Рускім сябрам». Першым прыгадвае Рылеева. Яго ўжо няма. «Павесіў цар яго. Бяда народам тым, што губяць гэтак во сыноў сваіх вялікіх». Другі - Бястужаў, прарок-ваяр. Яго руку «да тачкі цар дзесь з польскай прыкаваў, іх паяднаўшы кроўна». Гэтыя двое, ахвяры дэспата-цара, называюцца ў вершы пайменна.

Трэці - безыменны, але лёгка ўгадваецца. Ён пакараны «больш страшнай - Божай карай», «ён зганьбіў імя, прадаўшыся цару за шчодрыя дары, б'ючы чалом перад дзвярамі залатымі. І славячы яго падкупленым пяром, раскошы рад, з мяне, з пакут выгнанцаў-брацціяў смяецца ў маім доме, а перад царом, нібы заслугу, выстаўляе груз пракляццяў».

Пушкін, прачытаўшы гэты верш, змешчаны ў зборніку, выдадзеным у Парыжы, пачаў быў пісаць адказ Міцкевічу. Менавіта як адказ паэта на верш «Рускім сябрам» каменціруецца гэты твор у польскай крытыцы і ў адпаведных тамах шматлікіх выданняў твораў Пушкіна. Верш пачынаўся радком «Он между нами жил...», але так і застаўся не дапісаным да канца, пры жыцці Пушкіна не друкаваўся, пабачыў свет толькі ў пасмяротным выданні 1841 года. Ёсць у вершы радкі, у якіх выразна бачыцца тактыка, уласцівая і многім сённяшнім палітыкам: скажаш ім горкую праўду ў вочы — адразу ўключаць цябе ў стан падкупленых ворагаў: «Наш мирный гость нам стал врагом - и ядом стихи свои, в угоду черни буйной, он напояет. Издали до нас доходит голос злобного поэта...»

Міцкевіч як бы прадчуваў такі рэзананс. Ягоны верш «Рускім сябрам» завяршае страфа: «Калі ж хто з вас мяне пачне дзе праклінаць, я адкажу: так брэша пёс дваровы, які таму, хто захацеў ашыйнік звыклы зняць з ягонай шыі, рукі абкусаць гатовы».

Яшчэ адзін штрых да неардынарнай постаці Адама Міцкевіча.

Паручнік Дантэс, які прыехаў з Францыі ў Расію «на лоўлю шчасця і чыноў», за выклік на дуэль і забойства Пушкіна быў разжалаваны ў радавыя, пазбаўлены расійскага грамадзян-

ства і высланы за граніцу. Калі Міцкевіч дачуўся пра смерць Пушкіна, то апублікаваў у замежным друку пісьмо, у якім пісаў, што лічыць сваім абавязкам адпомсціць за смерць свайго сябра Пушкіна і выклікае Дантэса на дуэль. Але чамусьці яна не адбылася.

На заканчэнне паяснім яшчэ, чаму Г.П.Фядотаў называе Пушкіна «апошнім песняром Імперыі». Гэты выдатны рускі гісторык і філосаф (большую частку свайго дарослага жыцця прабыў у эміграцыі) пісаў: «Пасля Пушкіна, пасварыўшыся з царамі, руская інтэлігенцыя страціла смак да імперскіх праблем, да нацыянальных і міжнародных наогул... Яна абуралася гвалтоўнай русіфікацыяй або хрышчэннем іншародаў, але абурэнне адносілася да метадаў, а не да мэты. Асіміляцыя прымалася як непазбежны вынік цывілізацыі».

Можна, аднак, прыгадаць асобныя, хоць і рэдкія выключэнні. Так, І.С.Аксакаў на старонках часопіса «Дни» горача падтрымліваў дзейнасць Мураўёва-Вешальніка ў «Северо-Западном Крае».

Быў аднойчы зрыў і ў М.А.Някрасава. Ратуючы ад закрыцця свой часопіс «Современник», ён 16 красавіка 1866 г., прыняўшы ўдзел у афіцыйным ушанаванні Мураўёва-Вешальніка, прачытаў у яго гонар хвалебны верш, які пачынаўся радкамі: «Бокал заздравный поднимая, еще раз выпить нам пора здоровья миротворца Края. Так много ж лет ему! Ура!» Пасля, аднак, Някрасаў да скону дзён балюча перажываў свой дагаджальніцкі грэх. Ён пісаў: «Не торговал я лирой, но бывало, когда грозил неумолимый рок, у лиры звук неверный исторгала моя рука...» Паэт не адзін раз раскайваўся ў сваім няправільным кроку.

У Пушкіна ж раскаяння не было. І не магло быць.

**P.S.** Нядаўна адзін з досыць дасведчаных чытачоў (Ю.Пацюпа), азнаёміўшыся з маімі публікацыямі пра Пушкіна, змешчанымі ў незалежных газетах, прынёс мне дзве кнігі, у якіх былі і артыкулы пра паэта. Прачытаўшы іх, я не ўнёс ніякіх змяненняў у сваю «Пушкініяну» і толькі яшчэ больш умацаваўся ў слушнасці маіх думак.

Адна з кніг належыць пяру вядомага савецкага вучонага Дз.Благога: «От Кантемира до наших дней. Т.1» (М., 1979). У ёй ёсць артыкул «Мицкевич и Пушкин» (с. 289-318). Тут падрабязна аналізуюцца літаратурныя ўзаеміны і ўзаемадзеянні абодвух паэтаў. Але аўтар старанна абыходзіць вострыя вуглы

і, напрыклад, толькі ў агульным плане паведамляе: «На горкія папрокі, якія Пушкін пачуў у вершы Міцкевіча «Рускім сябрам», ён адказаў горкімі радкамі «Он между нами жил...» З пазіцый сацыялістычнага рэалізму глядзіць аўтар на многія факты, падзеі. А таксама і на героя пушкінскай «Полтавы» Мазепу, які «дзеля сваіх карыслівых мэт імкнуўся па-здрадніцку разарваць брацкія «узы», што добраахвотна назаўсёды звязалі паміж сабой рускі і ўкраінскі народы».

Другі артыкул змешчаны ў часопісе крытыкі і літаратуразнаўства «Вопросы литературы» (1992. Вып. 3. С. 209-237): *Л.Фризман.* Пушкин и польское восстание 1830-1831 годов. Артыкул быў напісаны ў 1962 годзе, апублікавалі ж яго толькі праз 30 гадоў, хоць аўтар настойліва дабіваўся яго друкавання.

Тут з глыбокім веданнем справы, пры апоры на расійскія і замежныя першакрыніцы, разгледжана тагачасная палітычная сітуацыя ў Расіі, Польшчы і Заходняй Еўропе. Расія 1830 1831 гадоў характарызуецца як «еўрапейскі жандар і галоўная апора міжнароднай рэакцыі», прыводзяцца адпаведныя цытаты з Маркса, Энгельса, Герцэна. Паказана, як на баку польскіх паўстанцаў стаялі вядомыя еўрапейскія дзеячы Бланкі, Беранжэ, Берне, Гейне, Гюго, Кошут...

Пра Пушкіна ж сказана, што ён «дапускаў гвалтоўнае аб’яднанне славян, прычым аб’яднанне пад эгідай рускага цара («в русском море»)». «Адмоўныя адносіны да незалежнасці Польшчы склаліся ў Пушкіна задоўга да 1830 года... У паляках паэт бачыў спрадвечных ворагаў Расіі, незалежнасць Польшчы супярэчыла, на яго думку, інтарэсам рускай дзяржаўнасці». Л.Фрызман хацеў сваім артыкулам «нагадаць некаторыя гістарычныя факты, якія ігнараваліся пры даследаванні творчасці Пушкіна на працягу многіх гадоў, ігнараваліся таму, што яны супярэчылі прадузятай і памылковай канцэпцыі, якая стала, на жаль, агульнапрынятай».

Ёсць у артыкуле і згадка пра верш Някрасава з праслаўленнем у ім Мураўёва-Вешальніка. Але «калі някрасаўская ода Мураўёву была няўдалым тактычным манеўрам, то вершы Пушкіна - гэта творы глыбока шчырыя, яны выяўлялі яго вынашаныя думкі, якім ён застаўся адданым да канца свайго жыцця і ў якіх ніколі не раскайваўся».

## УСЕ МОВЫ РОЎНЫЯ, А СВАЯ - НАЙДАРАЖЭЙШАЯ

**17** верасня 1998 года «Народная воля» апублікавала артыкул І.Васілеўскага «Народ не хочет разговаривать на этой деревенской, мужицкой мове». Тут аголена, адкрытым тэкстам выказваецца абразлівае стаўленне аўтара (ён беларус) да яго-най і нашай мовы. Рэдакцыя «Народнай волі», друкуючы гэты матэрыял і адказ А.Трусава, звярнулася да чытачоў з просьбай выказаць «свае думкі па закранутай праблеме».

Прадоўжым гаворку, распачатую на старонках газеты.

Шкада, што І.Васілеўскі, не задумваючыся, занадта вольна абыходзіцца з разнастайнымі фактамі, прыцягваючы іх у якасці аргументаў супраць «аматараў беларускай мовы». Так, ён піша, што ў Беларусі «пражывае, па словах нашага прэзідэнта, 2,5 мільёна рускіх» і што гэта амаль трэць насельніцтва рэспублікі. Апрача таго, дадае І.Васілеўскі, тут жывуць украінцы, палякі, яўрэі і людзі іншых нацыянальнасцяў, і «такім чынам, для больш чым паловы насельніцтва рэспублікі беларуская мова не з'яўляецца роднай». Але гэта, мякка кажучы, не зусім праўда.

Перада мною табліца з вынікамі перапісу насельніцтва Беларусі ў 1989 годзе. Усё насельніцтва тады складала 10 152 000. Беларусы - 7 905 000, рускія - 1 342 000, палякі - 418 000, украінцы - 291 000, яўрэі - 112 000, іншыя - 84 000. Як бачым, на долю беларусаў прыпадае 78 працэнтаў насельніцтва, а на долю ўсіх астатніх - 22 працэнты. Кожнаму зразумела, што гэтыя 22 працэнты далёка не «больш чым палова насельніцтва», як сцвярджае І.Васілеўскі.

Дададзім у дужках вядомыя сёння вынікі перапісу 1999 года. З 10 мільёнаў 45 тысяч чалавек 81 працэнт жыхароў аднеслі сябе да карэннай нацыі - беларусаў, 11 працэнтаў - да рускіх, амаль 4 працэнты - да палякаў, 2 працэнты - да ўкраінцаў, 0,3 працэнта - да яўрэяў. Роднай мовай назвалі мову сваёй нацыянальнасці амаль 82 працэнты насельніцтва краіны. Нягледзячы на русіфікацыю, 3,7 мільёна чалавек гавораць дома па-беларуску.

Дарэмна І.Васілеўскі, не будучы мовазнаўцам, бярэцца не за сваю справу: робіць экскурс у лексікалогію, супастаўляе шэсць рускіх слоў з адпаведнымі беларускімі *(уже - ужо, это - гэта...)* і прыходзіць да высновы, што яны амаль аднолькавыя, толькі вымаўляюцца беларусамі «гораздо хуже, чем на русском языке». Працягваючы такія ж параўнанні, напрыклад,

рускага слова *белый* з польскім *бялы,* украінскім *білый,* чэшскім *білы,* балгарскім *бял,* І.Васілеўскі мог бы зрабіць тую ж самую выснову: маўляў, палякі, украінцы, чэхі, балгары знявечылі рускае (першароднае!) слова, каб пасля заяўляць, што і ў іх ёсць нейкая свая мова.

А справа тут не такая простая, як думаецца нашаму паважанаму аўтару. У кожнай з дванаццаці славянскіх моў ёсць каля дзвюх тысяч агульнаславянскіх слоў. Яны скаліся яшчэ ў эпоху агульнаславянскага моўнага адзінства *(вада, рука, брат* і інш.). Ёсць у гэтых мовах і яшчэ тысячы агульных слоў, запазычаных з іншых, неславянскіх моў (*характар, спорт, аперацыя* і г.д.). Разам з тым кожная з гэтых моў мае свае дзесяткі тысяч слоў, характэрных толькі для пэўнай з гэтых моў.

Яны складаюць нацыянальную спецыфіку пэўнай мовы, звычайна іх няма ў іншых мовах. Напрыклад, амаль усе словы з наступных радкоў Я.Купалы - уласна беларускія: «Час склікаці ўжо грамаду на вялікую нараду, на вялікі сход». Палова слоў прыходзіцца на ўласна беларускія ў такіх радках Г.Бураўкіна: «У кіраўнічых суровых прамовах бэсціцца зноў беларуская мова: быццам бы наскія словы не здатны выказаць талент і розум выдатны».

І.Васілеўскі, як ён сам піша, нарадзіўся і вырас у Беларусі, тут закончыў сярэднюю школу, пасля аж 30 гадоў жыў у Расіі і ўвесь час «тосковал по своей милой и родной Беларуси». Апошнія 18 гадоў жыве ў Салігорску. І гэты беларус, якому пры жыцці ў Расіі «снились почти каждую ночь» родныя мясціны, піша, што беларуская мова на фоне рускай «выглядит убого и примитивно». Цяжка нават уявіць, каб гэтак абразліва гаварыў пра сваю родную, матчыну мову які-небудзь чэх ці эстонец, грузін або француз.

Але гэта можна вытлумачыць і незайздросным лёсам нашай нацыі. Аж тры стагоддзі нас то паланізавалі, то русіфікавалі. Беларуская мова перажыла, кажучы словамі паэта, «панскія здзекі, чэкісцкія чысткі, рогат імперскі, вырак фашысцкі». Усімі сродкамі нам уводзілі ў вушы, што наша мова «хамская, деревенская, мужицкая», убівалі ў галаву, што ёсць «великий, могучий, правдивый и свободный русский язык». Мы завучвалі ў школе словы Пушкіна пра непараўнальную веліч рускай мовы, якая «имеет неоспоримое превосходство перед всеми европейскими». Завучвалі і не задумваліся над тым, што нам, як той казаў, лапшу на вушы вешаюць.

А ці ёсць на свеце вялікія мовы і што ўкладваецца ў паняцце «вялікая»? Калі пад ім разумець пашыранасць, то самая вялікая ў гэтым сэнсе кітайская мова, бо на ёй гавораць 880 мільёнаў чалавек, затым ідуць англійская (450 млн.), іспанская (266 млн.), хіндзі (182 млн.), руская (160 млн.). Усе сучасныя развітыя літаратурныя мовы свету, і беларуская ў тым ліку, аднолькава роўныя, і няма абсалютна ніякіх падстаў вышукваць сярод гэтых роўных моў «раўнейшую». Звернемся да «Руска-беларускага слоўніка». Тут кожнае рускае слова перадаецца нашым эквівалентам - уласна беларускім ці запазычаным з іншых моў. І так у кожнай развітай літаратурнай мове. Дарэчы, зазначым, што сярод вядомых навуцы сучасных 4200 моў толькі каля пяцісот моў належаць да развітых, вывучаных, даследаваных. І беларуская ў іх ліку. Найбуйнейшы ж у свеце лексікон - англійскі «Вялікі Оксфардскі слоўнік» (600 тысяч слоў).

Існуе мова як асноўная адзнака нацыі - жыве і народ. Калі ж знікае мова, то знікае і народ, асімілюючыся з іншым народам. У Савецкім Саюзе з 1926 па 1979 год перасталі існаваць 93 этнасы. Прыгадаем запавет Ф.Багушэвіча: «Шмат было такіх народаў, што страцілі найперш мову сваю.., а потым зусім замёрлі. Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі».

І.Васілеўскі ўспамінае, як, перасяліўшыся ў Расію, мусіў перайсці на рускую мову, «так как в России на белорусском языке никто не разговаривает, а если бы кто и стал это делать, то его посчитали бы за ненормального человека». Вось такая, памяркоўная рэакцыя аўтара на гэту ненармальную з’яву. У Расійскай Федэрацыі і сёння амаль тое самае. Хоць гэта і федэрацыя, куды ўваходзяць не толькі рускія, але і башкіры, татары, удмурты, мардоўцы, комі, тувінцы, якуты, тунгусы, калмыкі і дзесяткі іншых народаў, якія спакон вякоў кампактна пражываюць на сваёй зямлі, але дзяржаўная мова ў Расіі адна - руская. У нас жа не федэрацыя, а, як засведчана ў Канстытуцыі, унітарная дзяржава. Сама логіка падказвае, што ў такой дзяржаве павінен захоўвацца прыярытэт карэннай нацыі. Але, насуперак гэтаму, у нас дзве дяржаўныя мовы - беларуская і руская. Пры гэтым, будзем шчырымі, адна з іх на становішчы падчаркі. І ў нас сёння да таго, хто загаворыць па-беларуску ў аўтобусе або на вуліцы, ставяцца вельмі непрыхільна, злосна раяць яму размаўляць на «человеческом языке».

Ёсць у І.Васілеўскага і такое выказванне: «А на какой мове мы будем разговаривать, это другим народам, извините, до лам-

почки». Напрошваецца адна паралель. 5 жніўня 1998 года на сустрэчы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь з членамі Рады Саюза беларускіх пісьменнікаў, як пададзена ў апублікаванай стэнаграме, А.Р.Лукашэнка сказаў: «А для сапраўднага генія, талента - на якой мове пісаць - не мае рашаючага значэння». Адзін з членаў Рады асмеліўся запярэчыць: «Сапраўдны геній -- толькі на роднай мове».

Наша мова перажывае надзвычай цяжкі час. Застаецца толькі спадзявацца на лепшую будучыню. А пакуль што прыходзяць на памяць занатаваныя ў зборніках беларускіх прыказак і прымавак горкія афарызмы: «І ў сваёй хаце не вольна», «Прыйшлі ў нашу хату і б'юць нашага тату». І яшчэ: «Б'юць і плакаць не даюць». Або словы С.Ясеніна: «В своей стране я словно иностранец».

## БОГ І ВЯЛІКАЯ ЛІТАРА

Шмат гадоў назад Салжаніцын гаварыў, што толькі ў Савецкім Саюзе *Бог* пішуць з малой літары, але затое *КДБ* пішацца аж з трох вялікіх літар. Цяпер жа шмат хто кінуўся ў іншую крайнасць: у газетах, часопісах, кнігах пішуць, напрыклад: *яй-Богу, кожны Божы дзень.* Здаецца, яшчэ адзін крок, і станем пісаць: *па-Боску, Божы адуванчык* (стары, нямоглы чалавек), *нябожчык, бязБожнік, уБогі, даліБог.* Зрэшты, апошняе слова ў перыяд фармавання беларускай арфаграфіі «Наша ніва» (1906, № 5) падае так: *далі Бог.* Але перш чым гаварыць пра гэтую крайнасць ды шукаць пэўнага выйсця з яе, варта зрабіць кароткі экскурс у гісторыю пытання.

Слова *Бог,* як абазначэнне вярхоўнай істоты, стваральніка і кіраўніка свету і як увасабленне праўды і спагадлівасці, з даўніх часоў стала па розных прычынах (рэлігійных, маральных, этычных і іншых) адным з найбольш ужывальных у самых разнастайных маўленчых сітуацыях. Такое стаўленне да Бога народ замацаваў і ў прыказцы «Без Бога ні да парога». Сотні разоў гэтае слова (і, зразумела, у напісанні з вялікай літары) скарыстоўваецца ў творах В.Дуніна-Марцінкевіча, Ф.Багушэвіча, іншых аўтараў дасавецкага часу. Гэтак жа часта і стылістычна абумоўлена ўжываецца яно ў п'есах Я.Купалы «Паўлінка», «Раскіданае гняздо», вершах і паэмах, а таксама публіцыстычных артыкулах 1919-1920 гг., напісаных падчас польскай акупацыі; напрыклад, у артыкуле «Як у казцы»: *Бога свайго, новага Бога, усёмагутны Бог.*

У першыя дзесяцігоддзі бальшавіцкага атэізму становішча рэзка змянілася. Пачаўся рашучы наступ на рэлігію - «опіум для народа». Як зазначае У.Конан у артыкуле «Біблейскія вобразы і хрысціянскія матывы ў паэзіі Янкі Купалы», «у 20-30-я і наступныя гады адбылося поўнае абязбожванне дасавецкай спадчыны Янкі Купалы, Якуба Коласа, Змітрака Бядулі. Гэта значыць, яе фальсіфікацыя ідэалагічнаю цэнзураю і прымусоваю самацэнзураю. Вось чаму сёння так важна звярнуцца да першапублікацый і рэстаўраваць аўтэнтычнасць літаратурнай класікі». Тут дарэчы прыгадаць і шматлікія факты іншага характару, звязаныя з маніпуляцыяй у дачыненні да зямных багоў. М.Лужанін (Полымя. 1997. № 4) супастаўляе прыжыццёвае выданне твораў Я.Коласа з выданнем 1972 г., паказвае, як кан'юнктурна падганялі паэтавы радкі пад новыя ідэалагічныя ўстаноўкі: замест «Каб Сталінскім шляхам прабіцца ў вышыні...» зрабілі «Каб Ленінскім шляхам...», замест «свеціць па старонцы Сталінскае сонца» стала «...Ленінскае сонца» і г.д.

Свабода творчасці была пастаўлена пад кантроль камуністычнай партыі. На ўсю моц дзейнічаў прынцып партыйнасці літаратуры і мастацтва. *Бог* амаль знікае са старонак друку. Так, у трагікамедыі Я.Купалы «Тутэйшыя», напісанай у 1922 г. і апублікаванай у 1924 г., гэта слова сустракаецца толькі як кампанент у складзе фразеалагізма «ні богу свечка ні чорту качарга» і крыху перайначанай прыказкі «Бачыў бог, што не даў свінні рог, а рэгістратару панавання», а з усіх іншых яго твораў савецкага часу ўжываецца толькі аднойчы - у вершы «Піянерскае». Каб апублікаваць твор, нельга было не лічыцца з ідэалагічнымі патрабаваннямі. Пішучы, аўтар чуў голас унутранага рэдактара. Слова *бог* (ужо з малой літары) калі і выкарыстоўвалася зрэдку, то звычайна ўкладвалася ў вусны старога чалавека ці адмоўных персанажаў. У «Дрыгве» Я.Коласа яно ўжываецца пры апісанні ксяндзоў, у маўленні польскага салдата, войта Бусыгі і адзін раз (відаць, выпадкова) у мове дзеда Талаша як кампанент выразу *дзякуй богу.*

Атэістычная прапаганда насіла ваяўнічы, наступальны характар. З песні слова не выкінеш: не заставаліся ўбаку і пісьменнікі. Карыкатурна, у сатырычным асвятленні падаюцца Бог і біблейскія святыя ў паэме «Біблія» К.Крапівы. А ў яго «Камсамольскіх прыпеўках» чытаем: «Мы саб'ём і чорту рогі, богу вырвем бараду». Або вось як дзед выхоўвае ўнука ў аповесці М.Лынькова «Міколка-паравоз» (твор стаў хрэстаматыйным): «— Немцы ж гэтыя... У іх жа царскія арлы... Ды з імі

бог яшчэ гэты… на кожным поясе напісана… - А ты, унуча, яшчэ раз плюнь і на арлоў, і на бога… І арлам галовы скруцім… А дасць бог, і богу шыю звернем…»

У першыя занадта цяжкія месяцы Айчыннай вайны Сталін, каб прыдбаць дадатковага саюзніка, мусіў пайсці на супрацоўніцтва з праваслаўнай царквой. Пачалося паслабленне ў барацьбе з рэлігіяй. Дзе-нідзе ажывалі ўцалелыя цэрквы, адчынены былі некалькі духоўных семінарый і акадэмія. Часткова была знята няпісаная забарона на ўжыванне слова *бог* (з малой літары). Нават артылерыю з блаславення «Бацькі ўсіх народаў» назвалі «богам вайны». Паслабленне працягвалася і ў пасляваенныя дзесяцігоддзі. Але кіраўнічы бязбожнік усё роўна не губляе сваёй сутнасці. Як толькі В.Быкаў у 1985 г. не з пазіцый сацыялістычнага рэалізму апісаў у рамане «Кар’ер» сям’ю свяшчэнніка Бараноўскага, аўтара пачалі цкаваць з усіх бакоў, абвінавачваючы ў «гульні ў божаньку».

На пачатку 90-х гадоў была ліквідавана манаполія кампартыі на ўладу. Падзьмуў вецер часу ў іншы бок, і цяпер амаль усе былыя бязбожнікі сталі шчырымі вернікамі, а некаторыя ваяўнічыя атэісты, не пакаяўшыся, пасябравалі з вышэйшымі духоўнымі асобамі. І цяпер у вусных выказваннях і друку слова *бог* стала адным з самых высокачастотных. Дык ці заўсёды гэта слова і вытворныя ад яго трэба пісаць з вялікай літары? Давайце паразважаем.

Бясспрэчна, калі яго ўжываюць для абазначэння вярхоўнай істоты, яно ўспрымаецца як індывідуальная назва, як уласнае імя і таму павінна пісацца з вялікай літары: *І благаславіць нас на змаганне Бог* (Н.Гілевіч); *Пра гэта знаем толькі я і Бог* (В.Зуёнак); *Марыя дзякуе Богу за тое, што ў самыя цяжкія хвіліны ён выратаваў яе* (ЛІМ); *Ён не згубіў веру ў Бога* (ЛІМ).

Вялікую літару трэба захоўваць і ў некаторых прыметнікавых спалучэннях, дзе прыметнік звязваецца ў нашай свядомасці як утварэнне ад слова *Бог* у яго першасным, зыходным значэнні: *Божая воля, Боскі гнеў, Богаў сын* (Ісус). У астатніх выпадках гэтыя прыметнікі, як і вытворныя назоўнікі і дзеясловы, трэба падаваць з малой літары: *богабаязны, богаслужэбны, богаадступніцтва, богаслужэнне, богатварыць, божкаць, божканне* і інш. Дарэчы, гэтак жа іх пісалі і ў дасавецкі перыяд. Так, у «Слоўніку беларускай мовы» І.Насовіча знаходзім: *божы дзень, не божкай, не божкайся.* Тое самае і ў рускай мове, напрыклад, у двухтомнай працы М.Міхельсона «Русская мысль и речь» (1903): *божья коровка.*

У нашай мове, як і ў некаторых іншых, слова *Бог* развіло ў сабе зафіксаванае слоўнікамі пераноснае значэнне «выдатны спецыяліст у якой-небудзь справе», якое трэба пісаць з малой літары: *хвалёны бог электразваркі* (У.Краўчанка).

Асобнай гаворкі патрабуюць фразеалагізмы з кампанентам *бог.* А іх каля сотні. Сярод іх ёсць і такія, у якіх кампанент *бог,* калі яго апрадмечваць, вяртаць яму зыходны сэнс, знаходзіцца з рэлігійнага пункту гледжання, у не зусім сумяшчальным суседстве (пачуўшы іх, праваслаўны святар, бадай, скажа: «Не богохульствуй!»): *у бога цяля ўкрау, бачыць шкляннога бога, браць бога за бараду, браць на бога, ад бога выспятка, бог бацька, не нашага бога, (страляць) богу ў вокны, як у бога за пазухай* і інш. Яны здаўна трывала прыжыліся ў мове як цікавыя, арыгінальныя знаходкі, іх не выцесніш ніякімі ўказамі ці дэкрэтамі, ды ў гэтым і няма патрэбы.

Як вядома, галоўнай, вызначальнай прыметай фразеалагізма з'яўляецца яго семантычная цэласнасць, унутранае сэнсавае адзінства, нераскладальнае на асобныя значэнні кампанентаў. Састаўныя часткі фразеалагізма толькі знешне падобныя на словы, але гэта цені, прывіды слоў, бо не маюць асобнага лексічнага значэння. І калі іх разглядаць як звычайныя словы, то з іх значэнняў немагчыма вывесці цэласны змест фразеалагізма, бо іх паасобныя значэнні даюць не суму значэнняў, а зусім іншы, новы сэнс. Напрыклад, у сказе «А цяпер бог ведае, ці ўладкуюся дзе-небудзь» выраз *бог ведае* абазначае «невядома». Або яшчэ прыклад: *Пакуль тая бульба, то вы закусіце чым бог паслаў* (П.Місько). У выразе *чым бог паслаў,* што значыць «тым, што ёсць», ніяк нельга атаясамліваць назоўнікавы кампанент са словам *Бог* у яго першасным значэнні, а *паслаў* разумець як «адправіў па пошце ці праз пасланца». Гэты фразеалагізм, як і любы іншы, семантычна не звязваецца з сістэмай значэнняў, уласцівых адпаведным аднагучным словам, таму ў тлумачальных слоўніках ён выносіцца ў канец слоўнікавага артыкула і падаецца за знакам ромба як асобная моўная адзінка.

Параўнаем сэнсавы змест яшчэ некалькіх выразаў: *напрамілы бог* - «вельмі шчыра і настойліва»; *давай бог ногі* - «паспешліва пабег, знік»; *у бога цяля ўкрау* - «горшы за іншых, правінаваціўся ў чым-небудзь». *Дай бог (божа)* - гэта і «вельмі добра», і «вельмі добры», і «вельмі вялікі», і «вельмі многа»: *Упарыць жа ясень трэба дай бог* (І.Пташнікаў); *Гаспадарка дай божа* (Т.Хадкевіч); *Сямейка - дай божа* (М.Лобан); *Насушылі баравікоў дай божа!* (С.Александровіч).

Апрача выразаў з кампанентам *бог*, ёсць нямала іншых, састаўной часткай якіх выступае былы ўласны назоўнік: *пецъ Лазара, садом і гамора, кануць у лету, перайсці рубікон* і г.д. Становячыся часткай фразеалагізма, імя ўласнае, як піша вядомы даследчык славянскай фразеалогіі В.Макіенка, «страчвае сувязь з канкрэтнай асобай ці аб'ектам, г.зн. вычэрпвае сваю анамастычную функцыю. Яно... пачынае абагульняць, значыць, выконваць функцыю імя агульнага». Такі кампанент павінен пісацца з малой літары, калі трымацца логікі, а не традыцыі і «фанатычнага кансерватызму» (Л.Булахоўскі) у арфаграфіі. Напісанне такіх кампанентаў з вялікай літары перашкаджае ўспрыманню фразеалагізма, бо штучна нібы аднаўляе этымалагічнае значэнне яго частак - асобных слоў, без патрэбы актуалізуе гэтыя часткі. Іншая справа, калі такая актуалізацыя кампанента робіцца знарок - для дасягнення пэўнага мастацкага эфекту: *І атэісты богу душу аддаюць* (ЛІМ); *—Сам бог прынёс вас сюды, Іван Кірылавіч. - Нешта я не заўважыў, каб ён мяне нёс. Сам узбіраўся на трэці паверх* (К.Крапіва); *Не будзем вас затрымліваць. З богам, як кажуць, хоць і ўсе мы тут атэісты* (І.Чыгрынаў).

З малой літары трэба пісаць і выразы з кампанентам *божы,* бо ў іх складзе ён страціў свой першапачатковы сэнс: *баранчык божы, божы адуванчык, божы палец, конь божы, божая сляза, іскра божая, на божай пасцелі* і інш.

Што да прыказак, то, паколькі яны неаднатыпныя з семантычнага боку, гэта бярэцца пад увагу пры іх напісанні. Калі прыказка мае алегарычны сэнс, г.зн. у ёй гаворыцца пра адно, а маецца на ўвазе зусім іншае, то кампанент *бог* варта падаваць з малой літары: *Смачны жабе арэх, ды зубоў бог не даў; На табе, божа, што нам нягожа; У бога дзён многа; Дай божа нашаму цяляці ваўка спаймаці.* Калі ж прыказка ўжываецца ў прамым значэнні, слова *Бог* трэба пісаць з вялікай літары: *Бог лесу не зраўняў, не тое што людзей; На Бога спадзявайся, а сам не давайся; Як трывога, тады да Бога; Беражонага і Бог беражэ.*

Як відаць са сказанага, у адных выпадках трэба пісаць *Бог,* а ў другіх - *бог.* Выказаныя тут меркаванні, магчыма, і патрабуюць некаторай карэкціроўкі. Хацелася б, каб Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа дзеля прыпынення разнабою ў напісаннях афіцыйна ўнёс пэўныя змены ў арфаграфічныя нормы.

А што да памянёнага напачатку *КДБ,* то ў нашай рэспубліцы (і, здаецца, толькі ў нашай) ён уцалеў і, як і раней, пішацца з трох вялікіх літар. Без ніякіх выключэнняў.

## ПРА НАШ ПРАВАПІС

Бадай, як ніхто з іншых беларускіх пісьменнікаў, словам і справай падтрымліваючы Беларушчыну, Васіль Быкаў яшчэ ў 1993 годзе, цвяроза ацэньваючы палітычную сітуацыю ў нашай краіне, гаварыў аб праблематычнасці ажыццяўлення той высакароднай задачы культурнага адраджэння нацыі, якую паставілі перад сабой на самым пачатку сваёй дзейнасці БНФ і іншыя палітычныя партыі. Гэта задача, не падмацаваная нацыянальнай самасвядомасцю народа, паводле В.Быкава, «ужо ўпачатку абяцала марудна і безвынікова сканаць». І яшчэ яго ж прарочае выказванне (ЛІМ. 19 сак. 1993 г.): «Нацыянальна 'свядомая частка грамадства наіўна кідаецца ў спрэчку наконт пераваг дзвюх граматык - Тарашкевічавай і наркомаўкі, дыскутуючы аб разыходжанні ў трактоўцы мяккасці падвоеных зычных, а ў той час камуністычныя ўлады прыбіраюць пад сваю апеку ўвесь друк, маючы на мэце канчаткова ўсталяваць расійскае аднамоўе».

У 1993 годзе мне давялося быць сябрам дзяржаўнай камісіі па ўдакладненні правапісу (яе ўзначальваў Н.Гілевіч), і я таксама рашуча змагаўся за мяккі знак і іншыя змены ў арфаграфіі.

Калі не быць занадта ўпартымі, дык сёння трэба прызнаць неабачлівасць, памылковасць тагачасных дзеянняў, звязаных з акцэнтаваннем празмернай увагі на правапісе, з самачыннай заменай слоў, да якіх усе прывыклі за многія дзесяцігоддзі, іншымі *(газэта, райкам, альфабэт, кампутар).* Прыгадаем, што, напрыклад, на Украіне не спяшаліся і не спяшаюцца ставіць моўныя пытанні на першы план.

Ёсць у Васіля Зуёнка, шчырага прыхільніка беларускасці, верш «Мяккі знак» (1994). Ён пачынаецца з таго, як баба, калі загарэлася хата, стала ратаваць не кубел з пражаю, а «з лямантам цягнула матавіла». Гаворыцца тут і пра зацятыя спрэчкі: «мяккі знак вяртаць ці не вяртаць». А заканчваецца верш так: «І над мовай дзьмухаюць кадзілам, правяць пахавальную імшу, ну, а мы - выносім матавіла, калі трэба ратаваць душу...»

Сёння, калі лёс самой нацыі крайне незайздросны, наўрад ці варта зноў вяртацца да пытання, як палепшыць правапіс. Не той сёння час. Не да гэтага. Ды і наогул у любой краіне хваравіта ўспрымаюць адыход ад арфаграфічнай традыцыі. У арфаграфіі пануе, як пісаў Л.Булахоўскі, «фанатычны кансерватызм». Усюды змены ў правапісе робяцца не самачынна, а толькі на дзяржаўным узроўні. Можна прывесці такі прыклад. Нядаўна ў

Германіі афіцыйна ўступілі ў сілу новыя правапісныя нормы, але працэс іх засваення завершыцца толькі ў 2003 годзе. Прыняццю правілаў папярэднічалі шматгадовыя спрэчкі, усебаковае абмеркаванне і, нарэшце, рашэнне Федэральнага канстытуцыйнага суда, які даў згоду на ўвядзенне новых правілаў. Цяпер там замест ранейшых 212 правілаў будзе толькі 112.

У нас нярэдка пра Тарашкевічу пішуць і такія аўтары, якія, мякка кажучы, не вельмі добра знаёмыя з самой «Беларускай граматыкай для школ» Б.Тарашкевіча. А між тым аўтар гэтай граматыкі ў прадмове да 5-га выдання (1929) пісаў, што ён выразна бачыць «цэлую чараду яшчэ спрэчных пытаньняў (у аканьні, у правапісе чужаземных слоў і інш.), бачыць патрэбу і магчымасьць спрашчэньня правапісу, але не бярэцца праводзіць якія-колечы зьмены такім індывідуальна-партызанскім спосабам», бо «гэта павяло-б толькі да шкоднага хаосу». Ён прызнаваў неабходнасць правапіснай рэформы і слушна лічыў, што апрацаваныя паасобнымі людзьмі адпаведныя праекты павінны «прайсьці праз публічнае сіта грамадзкай і навуковай крытыкі перш, чым маюць быць уведзены ў жыццё аўтарытэтам культурных установ. Бо тутака пасьпех, запраўды, можа быць людзей на сьмех».

Далей спынюся на некаторых недакладнасцях, якія ёсць у артыкуле М.Булавацкага «Апошні, а можа і першы бастыён свабоды» (Наша слова. 9.09.1998 г.).

Тут сцвярджаецца, што ў выніку згаданай ўжо рэформы беларуская мова набыла неўласцівыя ёй «суфіксы *-уч, -юч, -ўш»,* «напалову страціла пераднаціскное «я», прыняла безнаціскныя «э» і «о»: *сацыялізм, камунізм, комітэт».*

На самай жа справе гэта не так. Дзеепрыметнікі з суфіксамі *-уч-, -юч-, -ўш-* ужываліся і да рэформы, у «Граматыцы...» Б.Тарашкевіча гэта ілюструецца адпаведнымі прыкладамі: чытаючы(й), чытаючая, чытаючае, чытаючага, чытаўшы(й), купляўшы(й), купляўшая, купляўшае; праўда, сказана, што дзеепрыметнікі ў форме цяперашняга часу (з суфіксамі *-уч-, -юч )* ужываюцца рэдка. Прыкладна тое самае знаходзім і ў сучасных падручніках і навуковых граматыках.

Што да правіла пра пераднаціскное «я», то яно было занадта складанае. Літара «я» пісалася на месцы «е» не толькі ў першым складзе перад націскам *(бя да, ня-ма, ля жыць),* але і ў другім складзе перад націскам, «калі ў першым няма «а» або «я» *(ля-су-на, ня-ву-чо-ны, ня была, бяз дзі-ця-ці)».* Больш таго, «калі ў слове націск на прыстаўцы (найчасцей *вы-),* то яканьне

можна азначаць так, як быццам слова стаіць бяз прыстаўкі: *ляцець — выляцець, пясьці — выпасьці, нясу — выплеў».* І яшчэ: каранёвае «ё» ў такіх выпадках замяняецца на «я»: *нёс - вынес, вёз — вывяз, вёў - вывяў, лёт — вылят, дзёр — выдзяр.* Сам аўтар «Граматыкі...», як ужо цытавалася вышэй, адчуваў, што правіла пра аканне (яканне) мае патрэбу ў спрашчэнні.

Некалькі слоў пра безнаціскныя «э» і «о». У адпаведнасці з рэформай правапісу, наша мова не «прыняла», як піша М.Булавацкі, а, наадварот, пазбавілася шматлікіх ненаціскных «э» і асабліва «о». Вось як пісалі да 1933 года (некалькі прыкладаў з п’есы Я.Купалы «Тутэйшыя», апублікаванай у 1924 годзе, і зборніка апавяданняў К.Крапівы «Людзі-суседзі» выдання 1928 года): *рэнэгат, дэгэнэрат, мэтаморфоза, пропозыцыя, профэсар, цэрамонія, сэзонны, организм, пэрсона, унівэрсытэт, сэанс, арыгінальны, пралетарскі, псыхапатолёгічны, мэтодолёгія, фізыолёгія, інжэнэр, ідэолёгія, поэтычны, рэволюцыя.* Няўжо і сёння многія хацелі б вярнуцца да такіх напісанняў? Правапісная рэформа падпарадкавала правілам акання ўсе словы іншамоўнага паходжання. Было, аднак, зроблена выключэнне для адзінаццаці так званых інтэрнацыянальна-рэвалюцыйных слоў з усімі ад іх вытворнымі: *рэволюцыя, совет, большэвік, комуна, соцыялізм, комунізм, піонер, комсамол, пролетарый, Комінтэрн, Профінтэрн.* У 1957 годзе і гэтыя словы падпалі пад агульнае правіла аб аканні.

Ёсць у артыкуле М.Булавацкага і разважанні пра неабходнасць асобных знакаў-літар для абазначэння на пісьме злітных гукаў «дз» і «дж». Кожны з гэтых гукаў у нас абазначаецца спалучэннем дзвюх літар, якое называецца дыграфам або лігатурай. У алфавітны пералік яны не ўключаюцца, бо кожная састаўная частка дыграфа ўжо заняла ў алфавіце сваю нішу. І яны нармальна выконваюць сваю функцыю. Аналагічнае можна бачыць і ў некаторых іншамоўных алфавітах. Напрыклад, у польскай мове алфавіт складаецца з 33 літар, а па-за алфавітам ёсць яшчэ 7 дыграфаў, у тым ліку *dz, dż* для абазначэння афрыкатаў. У нямецкай мове фанема «ш» абазначаецца спалучэннем трох літар - *sch,* а для перадачы на пісьме фанемы «ч» выкарыстоўваецца спалучэнне з чатырох літар - *tsch.* Таму і ў нас наўрад ці трэба прыдумваць яшчэ нейкія знакі-літары для перадачы афрыкатаў.

Думаецца, што ў нашым правапісе пры зусім іншай, спрыяльнай сітуацыі будуць зроблены пэўныя змены, але толькі так, як гэта робіцца ў дэмакратычным грамадстве і як пра гэта пісаў у раней прыведзенай цытаце бацька нашай першай граматыкі.

# ПРА ГВАЛТ НАД МОВАЙ

Пачну з фактаў палітычнага ўмяшання ў моўную практыку. Яно пачалося на пачатку 30-х гадоў і доўжыцца ўжо многія дзесяцігоддзі. Рэформу беларускай мовы, праведзеную ў 1933 годзе, сёння згадваюць амаль усе. А было ж і яшчэ нямала невядомых шырокаму колу ці забытых ужо бальшавіцкіх атак на нашу мову - мову-гаротніцу. «Колькі душылі яе і травілі, а не складае падбітае крылле, а ўсё жыве і ніяк не канае - песня азёрная, казка лясная...» (Г.Бураўкін).

Мала хто ведае, чым кіраваліся нашы «бацькі нацыі», калі ў 1957 і 1959 гадах пры «ўдакладненні і частковых зменах існуючага беларускага правапісу» ўзаконілі замест *у* канчатак *а* для слоў *камунізм, сацыялізм, марксізм, ленінізм.* Мне расказваў пра гэта член-карэспандэнт АН Беларусі Міхаіл Раманавіч Суднік, які ў 1957 годзе ўзначаліў акадэмічны Інстытут мовазнаўства і ўдзельнічаў у складанні новых «Правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі». А змусіла яго падзяліцца са мною ўспамінамі такая нагода.

У 1978 годзе выйшла з друку перапрацаванае і дапоўненае выданне «Арфаграфічнага слоўніка» М.П.Лобана і М.Р.Судніка. Я апублікаваў у «Настаўніцкай газеце» рэцэнзію на гэты слоўнік. Адзначыў некаторыя хібы, выказаў асобныя пажаданні. Было, у прыватнасці, і такое: «Рэкамендуючы пісаць словы *камунізм, сацыялізм, марксізм, ленінізм* з канчаткам *а* ў родным склоне, аўтары чамусьці не прынялі пад увагу самы істотны крытэрый пры вызначэнні моўнай нормы - маўленчую практыку апошніх гадоў. У газетах, часопісах, іншых выданнях паслядоўна выкарыстоўваецца ў гэтых словах канчатак *у»* (далей ішлі пацверджанні-прыклады з аўтарытэтных крыніц - новай Канстытуцыі, газеты «Звязда»). Праз нейкі час, будучы ў Мінску, я заглянуў па справах у Інстытут мовазнаўства. Убачыўшы мяне, М.Р.Суднік завёў гаворку пра рэцэнзію, з некаторымі маімі заўвагамі згаджаўся, іншыя аспрэчваў. А наконт *камунізму-у)* сказаў прыкладна гэтак: «Не так тут усё проста, як вам здаецца. Вы ж наўрад ці ведаеце, што перш чым пабачылі свет новыя «Правілы...», іх шмат тыдняў разглядалі ў галоўным штабе камуністаў - ЦК, а потым і нас запрасілі туды. Усё высокае начальства было там, усе паказвалі сябе нібыта вялікімі знаўцамі мовы, уносілі папраўкі. Асабліва абурыла некаторых тое, што ў праекце «Правілаў...» у лік *абстрактных назоўнікаў,* сярод іншых з суфіксам *-ізм- (рэалізм, патры-*

*атызм, феадалізм, дарвінізм...),* трапілі і гэтыя чатыры словы. «Як гэта вы, — саромілі яны нас, *сацыялізм,* які мы ўжо даўно пабудавалі, які стаў для ўсіх працоўных нашых рэальнасцю, *лічаце нейкай абстракцыяй?! І камунізм* не *абстрактна-разумовае* паняцце, а наша рэальнае, блізкае заўтра! Што, і *ленінізм* для вас *абстрактнасць?*!» Нехта з нас асмеліўся быў сказаць, што граматыка ў паняцце «абстрактныя назоўнікі» ўкладвае свой пэўны сэнс, але - дзе там! І слухаць не хочуць, і рота разявіць не даюць. Так і мусілі ўвесці ў «Правілы...» гэтыя чатыры словы як выключэнне - з канчаткам а».

А вось другі факт гвалтоўнага ўмяшання.

Улетку 1938 года на самую высокую партыйную пасаду ў Беларусь прысылаюць з Масквы чарговага сталінскага стаўленіка ў Мінску - П.К.Панамарэнку (родам з Краснадарскага краю). Азнаёміўшыся са справамі, Першы сакратар ЦК КП(б)Б піша Сталіну вялізны сакрэтны ліст «О белорусском языке, литературе и писателях». Гэты жахлівы дакумент з былога партыйнага архіва 15 кастрычніка 1993 года апублікавала на сваіх старонках «Літаратура і мастацтва». Яго немагчыма пераказаць... Запынім увагу толькі на двух момантах.

З пісьменнікаў тады засталося ка волі толькі 14 чалавек. Астатніх або знішчылі, або вывезлі далёка-далёка. Пра Янку Купалу і Якуба Коласа Панамарэнка, просячы рады ў Сталіна, піша, што «іх трэба або арыштаваць, або, улічваючы абставіны, прыняць, пагаварыць.., заклікаць іх да сумленнай працы.., скарыстаць у мэтах разлажэння групы, адрыву найбольш чэсных і ліквідацыі рэшткаў нацдэмаўшчыны». Відаць, Сталін даў дазвол пакуль што не арыштоўваць, а «скарыстаць у мэтах разлажэння...»

У лісце да «бацькі Сталіна» Панамарэнка просіць падтрымаць пачатую «вялікую работу па ачыстцы беларускай мовы», здзекуецца з дзесяткаў нашых слоў *(уздым, змагар, лазня, сябр, гонар, казачны...),* а наконт лозунга «Пролетарии всех стран, соединяйтесь» даносіць, што нацдэмы замянілі слова «соединяйтесь» словам «злучайцеся», «а в народе «злучайцеся - злучка», всё равно, что и по-русски *«случайтесь - случка».*

Пра гэту «злучку» згадвае і Аўген Калубовіч - пісьменнік, вучоны-гісторык, асветнік, які пасля трохгадовага зняволення за «палітыку» працаваў настаўнікам, а з 1939 года быў кансультантам-метадыстам па беларускай мове ў Наркамаце асветы. Але паколькі ў ягоных успамінах фігуруе Грэкава, спачатку некалькі слоў пра яе. Надзея Грэк - мінчанка з няпоўнай сярэдняй адука-

цыяй. Калі ж пры Панамарэнку яе, ва ўзросце 28 гадоў, «абралі» сакратаром ЦК, а пасля і старшынёй Вярхоўнага Савета БССР, перарабілася на рускую *Надежду Грекову.*

А цяпер дадзім слова А.Калубовічу (яго ўспаміны змяшчаліся ў часопісе «Маладосць», у дзесятым нумары за 1992 год): «Грэкава загадала ўнесці ў правапіс дзве зробленыя ёю «папраўкі» ў лозунг «Пралетарыі ўсіх краін, злучайцеся!» Па-першае, слова «злучайцеся» замяніць на «яднайцеся», бо вось яна як сакратар ЦК часта падпісвае «дырэктывы» калгасам, што ўжо пара пачынаць «злучную кампанію для ската», таму заклік «злучайцеся!» у дачыненні да пралетарыяту «неяк нядобра гучыць». Па-другое, у слове «яднайцеся» пачатковае «я», хоць і стаіць у першым складзе перад націскам, павінна пісацца праз «е», бо могуць быць выпадкі, тлумачыла Грэкава, калі слова гэтае пры пісьме ці друку трэба пераносіць, і тады пры падзеле яго можа выйсці «яд-». Для палітычнага лозунгу гэта недапушчальна, ЦК партыі на гэта не можа згадзіцца».

Ёсць у Калубовіча і пра тое, як па ініцыятыве той самай Грэкавай (Грэк) ды яшчэ Папкова (сакратара Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР) Менск сталі пісаць праз «і», *вобласць* - без прыстаўнога «в», бо «з ім гэта слова рэжа вуха, як бы яно - ад *вобла».*

Добрым словам успамінае Калубовіч дацэнта Кастуся Гурскага, тагачаснага вучонага сакратара акадэмічнага Інстытута літаратуры і мовы. Як хваліцца сам Гурскі, ён на аргумент Папкова, што *вобласць* - «як бы ад *вобла»,* нібыта сказаў, што тады і *камсамол* - як бы ад *камса.* Не ведаў Калубовіч, што гэты ж Гурскі, на словах асуджаючы Грэкаву і Папкова, амаль у той жа час піша дакладную на імя Панамарэнкі. Яна не так даўно апублікавана (Полымя. 1994. № 10). У ёй чытаем: «Ворагі народа, шпіёны і дыверсанты, ажыццяўляўшыя шкодніцтва ў БССР, скажалі беларускую мову і ў прыватнасці беларускі правапіс, імкнучыся скарыстаць лінгвістычны фронт у сваіх гнюсных мэтах. Правапіс быў прадметам іх шматгадовай шкодніцкай работы. Пачаць хоць бы з таго, што першы правапіс у 1918 г. адпрацаваў і склаў шпіён і правакатар Тарашкевіч. Асноўныя яго «прынцыпы» застаюцца ў сіле і па сённяшні дзень, у прыватнасці хоць бы перадача акання на пісьме... У беларускім правапісе існуе правіла, згодна з якім ненаціскныя «о», «е» пішуцца праз «а», «я»... Гэта правіла таксама мае толькі варожы сэнс. Галоўная яго мэта - стварыць штучны бар’ер паміж рускай і беларускай мовай... Такое правіла губіць

пісьменнасць па рускай мове ў беларускіх школах, бо вучні павінны траціць двайную энергію на засваенне рускай арфаграфіі, якая штучна адрозніваецца ад беларускай...»

Панамарэнка, саноўны навічок у мовазнаўстве, улічыў падказку дацэнта Гурскага і даводзіць Сталіну да ведама, што ў Беларусі «ўведзена як непарушны прынцып аканне, г.зн. напісанне «а» не пад націскам замест «о» і «я» замест «е». Напрыклад, «горад», «вялікі», замест рускіх «город», «великий»... Ці, напрыклад, «Ворошилов», пішацца «Варашылаў». Гэта розніца, як і многае іншае штучна ўведзенае, абцяжарвае засваенне рускага і беларускага правапісаў беларускімі школьнікамі, бо дзве мовы ў школе вучаць неаднолькавым правілам».

Праўда, Панамарэнка і яго памагатыя не паспелі механічным адміністрацыйным шляхам ліквідаваць аканне, а заадно дзеканне ды цеканне - гэтыя спрадвечныя істотныя рысы беларускай мовы. Можа, перашкодзіў пачатак другой сусветнай вайны. Не да таго было...

Калі зазірнуць у гісторыю, дык мусіш пагадзіцца, што гвалт над нашай мовай пачаўся задоўга да Панамарэнкі, яшчэ ў дасавецкія часы. Аж тры стагоддзі нас то варылі ў катле паланізацыі, то смажылі на патэльні русіфікацыі. Пачынаючы з другой паловы мінулага стагоддзя, русіфікатарскі махавік гвалту набывае ўсё большы разгон. Уключаюцца тры асіміляцыйныя рычагі ўздзеяння: рускае начальства, руская школа, праваслаўная царква.

Яшчэ генерал Мураўёў, ахрышчаны мянушкай «Вешальнік», пасля задушэння паўстання 1863-1864 гадоў гаварыў (ва ўнісон з графам Уваравым): «Што не змог зрабіць рускі штык, даробіць руская школа». Гэты крывавы кат, як гаворыцца ў «Нарысах гісторыі Беларусі» (Мн., 1994. С. 334), не давяраючы мясцовым настаўнікам і чыноўнікам, асабліва каталікам, амаль цалкам замяніў іх выхадцамі з цэнтральных расійскіх губерняў, прывабіўшы павышэннем акладаў на 50 працэнтаў і перспектывай хуткай кар'еры. І пачалося «даробліванне»...

У савецкі час яно набывала ўсё большыя тэмпы. Абнавіліся рычагі ўздзеяння. Месца праваслаўнай царквы заняў марксізм-ленінізм.

Добра разумеў агромністую ролю новай «рэлігіі» і рускай школы ва ўмовах Беларусі і той жа Панамарэнка. Толькі ён не гаварыў пра гэта так аголена, як Мураўёў ці граф Увараў. У ліку чарговых задач, пра якія Панамарэнка паведамляе Сталіну, на першы план ставіцца: «разгарнуць глыбокую работу па

падняцці ідэйна-палітычнага ўзроўню інтэлігенцыі, па яе палітычным выхаванні, паклаўшы ў аснову гэтай работы вывучэнне марксізму-ленінізму, гісторыі ВКП(б) па выпушчаным падручніку «Кароткі курс гісторыі ВКП(б)».

Другая задача: «Пачаць вялікую работу па ачыстцы беларускай мовы... ад усяго наноснага, антынароднага. Пачаць работу па выпраўленні граматыкі». Яшчэ адна задача: «Павялічыць колькасць рускіх школ, ліквідаваўшы каласальную перагружанасць гэтых школ, і задаволіць поўнасцю жаданне насельніцтва навучаць дзяцей на рускай мове, канешне, за кошт новых школ, таму што рэарганізацыя некаторай колькасці беларускіх школ у рускія хоць і з'яўляецца практычна мэтазгоднай, але палітычна недапушчальная».

Звернем увагу на апошнія словы. Тады яшчэ, у канцы 30-х гадоў, рэарганізацыя беларускіх школ у рускія лічылася «палітычна недапушчальнай». Але гэта быў часовы тактычны манеўр. Стратэгія ж маячыла ў формуле трыяды: адна дзяржава - адзін народ (савецкі) - адна мова (сумненняў не было, якая гэта мова).

Масавы перавод беларускіх школ у рускія пачаўся ў 60-я гады і да гарбачоўскай перабудовы дасягнуў свайго апагею. I ўсё рабілася нібыта не толькі са згоды, але і па жаданні саміх бацькоў. Ды, зрэшты, яно і праўда: бацькі не аказвалі супраціву. Яны дбалі пра лёс дзіцяці, разважалі: куды ж яно прыткнецца пасля заканчэння беларускай школы, калі ўсё вакол паруску?! I заводы, і ўстановы, і тэхнікумы, і універсітэты... Праўду кажуць, што няма лепшага спосабу звесці мову, чымся пазбавіць яе практычнай карысці.

Не трэба забываць і пра магутнае агітацыйна-прапагандысцкае ўздзеянне, якое вялося на ўсіх узроўнях у адным накірунку - навязаць чужую мову, чужую гісторыю, чужых герояў.

Вялікадзяржаўнікі, прышлыя і «свае», ушчэнт «разбэсцілі вялікі мой народ», — пісаў Пімен Панчанка. 21 жніўня 1989 года ён занатаваў у сваім дзённіку: «Высмеялі народ, беларускую мову, не вучылі чвэрць веку роднай мове (забаранілі) нашых дзяцей, а пасля кажуць: «Ніхто не разумее беларускай мовы, ніхто не хоча на ёй размаўляць і вучыцца».

Сёння некаторыя, асабліва з тых, што і самі прычыніліся да вынішчэння беларускай мовы, нібыта з клопатам паціскаюць плячыма: «А чаму ж гэта яна апынулася на мяжы вымірання?» У адказ просяцца словы Янкі Брыля: «Кот з'еў мыш і азіраецца, куды яна падзелася. Так і з беларускай мовай».

На пачатку 90-х гадоў, пасля таго як развалілася апошняя ў свеце імперыя, і ў нас пачалося было адраджэнне Бацькаўшчыны. Беларусь стала суверэннай краінай. У новай Канстытуцыі беларуская мова замацоўвалася як дзяржаўная. 76 працэнтаў першакласнікаў пайшлі ў 1994-1995 навучальным годзе ў беларускія школы. Але вельмі ж хутка прыліў змяніўся адлівам. Усё вярнулася на кругі свае. Пасля двух вядомых рэферэндумаў на Беларусь глядзець у свеце з непрыхаванай іроніяй. З'явіўся і анекдот. Здаецца, яго дарэчы тут прыгадаць: «Праз нейкі час пасля таго, як у Беларусі адбыліся адзін за другім два рэферэндумы, у чукчаў паміраў шаман. Пазбіраліся яны ўсе, чакаюць, што ён скажа напаследак, якія запаветы дасць. І вось шаман сабраўся з сіламі і кажа: — Першае: беражыце стрэльбы паляўнічыя, бо без іх мы нішто... Другое: беражыце аленяў, бо для нас гэта і адзенне, і абутак, і мяса, і чумы. Трэцяе: беражыце беларусаў, каб не вымерлі. Бо, не дай бог, гэта здарыцца, тады ўвесь свет самай нікчэмнай нацыяй будзе лічыць нас - чукчаў».

А гвалт над мовай працягваецца. Толькі ён цяпер двухбаковы. З аднаго боку, як і раней, дзейнічаюць улады. А з другога - льюць ваду на млын улад тыя, што лічаць сябе самымі шчырымі беларусамі і адзінымі сапраўднымі знаўцамі беларускай мовы. Але гаворка пра гэта - у наступных нататках.

## СУЧАСНЫ ГВАЛТ НАД МОВАЙ

Адзін з вершаў Г.Бураўкіна (без назвы) пачынаецца радкамі:

Чорнай навалай коціцца зверху
Гвалт небывалы,
Раз'ятраны вэрхал.
У кіраўнічых суровых прамовах
Бэсціцца зноў беларуская мова:
Быццам бы наскія словы не здатны
Выказаць талент і розум выдатны.

У гэтых словах паэта чуваць балючы водгук на той гвалт нечувалы, што «коціцца зверху». А найперш гэта рэакцыя на выказванне нашага прэзідэнта, які праз некалькі месяцаў пасля клятвы (па-беларуску) на Канстытуцыі прамовіў 1 снежня 1994 года на «великом, могучем, правдивом» (цытуецца па газеце «Имя», № 22): *«Люди, которые говорят на белорусском языке, не могут делать ничего, кроме как разговари-*

*ваць на белорусском языке, потому что по-белорусски нельзя выразить что-то большое. Белорусский язык - бедный язык. В мире существует только два великих языка - русский и английский».*

Цяжка ўявіць, каб у якой-небудзь іншай краіне яе кіраўнік так абразліва і здзекліва выказаўся пра мову свайго народа. А мы, людзі памяркоўныя, з аслабленай нацыянальнай ментальнасцю, моўчкі праглынулі горкую пілюлю, некаторыя ж, «тожа беларусы, з пароды рэнегатаў і дэгенератаў» (Я.Купала), пляскалі ў ладкі ад захаплення.

А вось і некаторыя катастрафічныя вынікі «чорнай навалы». У рэзалюцыі Кангрэса дэмакратычных сілаў Беларусі (30.01.1999 г.) і іншых публікацыях падаюцца гаваркія лічбы. Колькасць першакласнікаў, якія вучыліся па-беларуску, скарацілася з 75% у 1993-1994 навучальным годзе да 28% у 1997-1998 навучальным годзе, а ў сталіцы паказчыкі проста жахлівыя: адпаведна з 58% да 4,8%. У Магілёве ж у 1997-1998 навучальным годзе наогул не праводзілі набор у першыя беларускія класы. За апошнія пяць гадоў зачынена каля 600 беларускіх школ. Дайшло да таго, што ў сваёй краіне праз пікеты бароняць сваю мову.

Як піша прафесар Л.Лыч, «амаль усе сферы нашага нацыянальнага духоўнага жыцця апынуліся ледзь не на самай апошняй мяжы асіміляцыі». А гэта словы Ніла Гілевіча: «Даходзіць да нечуванага нахабства, да публічнага здзеку з усяго народа: у газетах, што выходзяць у суверэннай дзяржаве Беларусь, публікуюцца матэрыялы, адкрыта скіраваныя супроць беларускай нацыянальнай ідэі і беларускай дзяржаўнасці, матэрыялы, якія не толькі заклікаюць ліквідаваць нашу дзяржаву, загнаць яе ў склад Расійскай Федэрацыі, але і адкрыта абвяшчаюць, што наогул ніякага асобнага самастойнага беларускага этнасу, беларускага народа, не было і няма і што ніякай асобнай самастойнай беларускай мовы не было і няма. Удумаемся толькі, што гэта такое! Дзесяцімільённаму славянскаму народу публічна крычаць у твар «цябе няма!», публічна абражаюць і здзекуюцца самым нахабным чынам, і няма каму за яго заступіцца: дзяржава і не чуе, і не бачыць, дзяржава не хоча прызваць яўна ашалелых ворагаў беларушчыны да парадку, прыцягнуць да адказнасці. Які і дзе ў свеце ўрад пацярпеў бы такое? Нідзе - ніякі. Толькі ў адной краіне свету магчыма такое - у Беларусі. Дык што гэта, дазвольце спытаць, за дзяржава? І што за дзяржаўныя мужы ёю кіруюць?»

«Частуецца пойлам атрутным народ наш з катлоў тэлерадыё» (В.Зуёнак). І вынікі атрутнага частавання відавочныя. Гадоў пяць-шэсць таму можна было чуць беларускую мову ва ўстановах, на вуліцы, у аўтобусах, тралейбусах... Людзі адчулі сваю нацыянальную годнасць, вярталіся да вытокаў, многія ўжо не саромеліся і без аглядкі пачыналі гаманіць на мове дзядоў і прадзедаў. А цяпер? Загавары па-беларуску, дык і міліцыя можа затрымаць, і «тожа беларусы» касавурацца. Як піша чытачка «Нашага слова» (6.01.1999 г.) Я.Судзілоўская, у краме ці ў іншым грамадскім месцы яе размову на тытульнай мове прыпыняюць лямантам: «Бэнээфаўка!»

Сёння над намі навісае рэальная пагроза страціць дзяржаўную незалежнасць у выніку далучэння Беларусі да Расіі. Што чакае нашу мову ў такім разе? Канчатковы заняпад і знікненне?

Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны ў статуце вызначыла асноўныя мэты сваёй дзейнасці так: аднаўленне ў грамадстве стаўлення да роднай мовы як да *нацыянальнай святыні,* пашырэнне яе ўжытку ва ўсіх сферах жыцця, усебаковае развіццё і захаванне яе чысціні і самабытнасці. Але ў газеце ТБМ «Наша слова», як, дарэчы, і ў некаторых іншых выданнях, можна назіраць і адваротную з'яву. Страчваючы адчуванне часу і прасторы, асобныя аўтары разважаюць на старонках газеты пра магчымасць пераходу з сучаснага шрыфту на лацінку, пра вяртанне да тарашкевіцы. Ужываюць і настырна прапагандуюць асобныя словы і іх формы, лічачы толькі іх самабытнымі, сапраўднымі, чыста беларускімі і рашуча адмаўляючы іншыя - прывычныя, нарматыўныя.

Два словы пра лацінку. Ёю карысталіся, паралельна з «грамадзянкай», на пачатку стагоддзя. І «Наша ніва» да 1913 года друкавалася двума шрыфтамі. А пасля з-за матэрыяльных цяжкасцяў і па іншых прычынах перайшла на «грамадзянку» - рэфармаваную кірыліцу. Перад гэтым было апытванне чытачоў. Абсалютная большасць (і Я.Купала таксама) - за кірыліцу. У № 42 за 1912 год газета паведамляла: «Калі нельга друкаваць двума шрыфтамі, трэба выбраць адзін: рускі. Так пісалі ўсе свядомыя беларусы, апрача невялікай жмені». Кірыліцай друкавалі Ф.Скарына, С.Будны і іншыя ў Вялікім княстве Літоўскім на працягу стагоддзяў. Так што наўрад ці варта гаварыць пра пераход на лацінку не толькі сёння ці заўтра, але і наогул.

Правільна кажуць, што двойчы ў адну раку ўвайсці немагчыма. Так і з тарашкевіцай. Гэта ўжо пройдзены этап. У XX стагоддзі арфаграфічнае рэгуляванне праводзілася ва ўсіх сла-

вянскіх мовах; напрыклад, у польскай мове тройчы (1918, 1936, 1957 гг.). Калі ў Расіі ў 1918 годзе спецыяльным дэкрэтам бальшавікі адмянілі напісанне цвёрдага знака на канцы слоў, выключылі з алфавіта *яць, фіту,* унеслі многія іншыя змены, то ні тады, ні цяпер нікому і ў галаву не прыходзіць зноў вярнуць, скажам, той жа цвёрды знак. І ў нас няма патрэбы, як гаварыў В.Вітка, «рэанімаваць правапіс, якога не прыняла і даўно адкінула жывая народная мова».

Канешне, пры зусім іншай, спрыяльнай палітычнай сітуацыі што-нішто можна было б вярнуць. Вось і Г.Бураўкін у гутарцы з карэспандэнтам «ЛіМа» гаворыць: «Я, напрыклад, рашуча за выкарыстанне мяккага знака, а вось з іншым не спяшаўся б. На «наркамаўцы» вырасла некалькі пакаленняў. Сярод тых, хто пісаў на ёй, выдатныя таленты - Куляшоў, Мележ, Караткевіч, Панчанка...»

А той правапіс, якім карыстаецца сённяшняя «Наша ніва», — гэта ўжо далёка не тарашкевіца. Гэта толькі яе варыянт, абноўлены і дапоўнены Антонам Лёсікам, Янам Станкевічам і інш. Некаторым аўтарам «Нашага слова» (№№ 1, 2 за 1999 г.) хацелася б, каб газета перайшла на Тарашкевічу, бо гэты правапіс, на іх думку, робіць беларускую мову мяккай, мілагучнай. Але гэта толькі здаецца. Якая ж мілагучнасць ды мяккасць, скажам, у такіх прыкладах з сучаснай «Нашай нівы», як *мэтады, клясычны*? І тарашкевіца не такая ўжо лёгкая ды бездакорная.

Мне ўжо даводзілася гаварыць, што пра тарашкевіцу пішуць і такія аўтары, якія, мякка кажучы, не вельмі добра знаёмыя з самой «Беларускай граматыкай для школ» Б.Тарашкевіча.

Сённяшняя валтузня вакол Тарашкевіч - толькі на карысць таму гвалту над мовай, што чыніцца на дзяржаўным узроўні. Яшчэ ў 1993 годзе В.Быкаў з вышыні свайго генію бачыў, што, пакуль мы спрачаемся наконт тарашкевіцы і наркомаўкі, «камуністычныя ўлады прыбіраюць пад сваю апеку ўвесь друк, маючы на мэце канчаткова ўстанавіць расійскае аднамоўе».

У кастрычніку 1997 года ў Беларускім дзяржаўным універсітэце была праведзена міжнародная навуковая канферэнцыя «Беларуская мова ў другой палове XX стагоддзя». І на самой канферэнцыі, і ў спецыяльна прынятай рэзалюцыі гаварылася пра тое, як у апошнія гады рэзка абмежавалася сфера прымянення беларускай мовы і што гэта ставіць яе на мяжу вымірання. У рэзалюцыі сярод важкіх рашэнняў звяртаецца ўвага і на «недапушчальнасць грубых адхіленняў ад нормаў

беларускай мовы ў сродках масавай інфармацыі». Гэта рашэнне, слушнае для любога перыяду ў развіцці мовы, асабліва актуальнае ў сённяшняй сітуацыі.

Нярэдка ў нас у паняцце нормы ўкладваюць нешта расплывістае і неадназначнае. Аказваецца, напрыклад, што ў нас асобны носьбіт мовы можа сам ўстанаўляць норму, праводзіць унармаванне літаратурнай мовы, скарыстоўваць замест узаконенага слова нейкае іншае і безапеляцыйна толькі яго прызнаваць нарматыўным. Але ж ва ўсіх краінах свету нормы ўтвараюцца самой маўленчай практыкай людзей, «куюцца і назапашваюцца ў кузні гутарковага маўлення» (Л.У.Шчэрба), а не выдумляюцца асобным чалавекам, хто б ён ні быў: пісьменнік, мовазнаўца, журналіст і г.д.

Літаратурная мова як найвышэйшая форма нацыянальнай мовы таму і называецца літаратурнай, што пачынае сваё жыццё ў літаратуры, найперш мастацкай, а пасля становіцца агульнанародным здабыткам. У падмурку сучаснай беларускай літаратурнай мовы ляжыць мова В.Дуніна-Марцінкевіча, Ф.Багушэвіча, Я.Купалы, Я.Коласа і іншых літаратураў.

Каб мова як найважнейшы сродак зносін магла найлепшым чынам ажыццяўляць свае функцыі, яна павінна быць унармаванай. Паняцце нормы слушна лічаць цэнтральным у азначэнні літаратурнай мовы. Сучасная беларуская літаратурная мова такая ж унармаваная, як і іншыя развітыя літаратурныя мовы. Праўда, у ёй, як і ў любой іншай, ёсць аслабленыя ўчасткі, якія патрабуюць падтрымкі.

Норма - гэта сукупнасць правіл, прынятых у дадзены перыяд моўным калектывам і ўсвядомленых ім, як правільнае і ўзорнае ўжыванне моўных сродкаў. Ёсць нормы арфаэпічныя, акцэнталагічныя, словаўтваральныя, марфалагічныя, сінтаксічныя, фразеалагічныя, лексіка-семантычныя, стылістычныя, а таксама ўласцівыя толькі пісьмоваму маўленню арфаграфічныя і пунктуацыйныя. Моўныя нормы, як ужо гаварылася, складваюцца ў працэсе самой маўленчай практыкі і спачатку існуюць як «няпісаныя правілы», якія рэгулююць вымаўленне, націск, утварэнне слоў і іх формаў, ужыванне слоў, фразеалагізмаў, прыказак, пабудову словазлучэнняў і сказаў. Афіцыйнае прызнанне нормы называецца яе кадыфікацыяй. Кадыфікацыя - гэта «пісанае правіла», пісьмовая фіксацыя нормы ў нарматыўных граматыках, даведніках і слоўніках пры апоры на маўленчую практыку аўтарытэтных аўтараў, рэгулярнасць ужывання таго ці іншага варыянта і на іншыя крытэрыі, істотная пры кадыфікацыі нормы.

Кадыфікаваная, узаконеная норма становіцца абавязковай для ўсіх носьбітаў мовы.

У нас, аднак, для некаторых людзей моўныя нормы - не закон. Яны «ездзяць па левым баку». Напрыклад, на старонках «Нашай нівы» не толькі свой правапіс, удасканаленая тарашкевіца, але і шэраг «сваіх» слоў. Так, у літаратурнай мове ёсць *сёння* і *сягоння,* і ў Я.Купалы гэтак жа: «А сёння... Сёння што?», «А сягоння ўжо не тое». Гэтак жа ў Я.Коласа, З.Бядулі, К.Крапівы, Я.Брыля і іншых аўтарытэтных аўтараў. Тое самае і ў граматыцы Б.Тарашкевіча: *сягоньня* (с.30), *сёньня* (с.104). А ў «Нашай ніве» - толькі *сяньні.* Ужыванне ў якасці састаўнога іменнага выказніка канструкцыі «ёсць + творны склон» - непатрэбнае запазычанне з польскай мовы яе сінтаксічнай асаблівасці, не характэрнай для нашай як літаратурнай, так і дыялектнай мовы. Апошнім часам, аднак, заўважаецца нічым не апраўданая спроба перанесці гэту канструкцыю ў літаратурную мову: «Натуральнымі ёсць тэрміны...», «Недахопам слоўніка ёсць і тое, што ў ім падаюцца штучныя дублеты».

Сустракаецца гэта канструкцыя і ў «Нашым слове», асабліва часта ў гомельскага аўтара С.Балахонава (№№ 2, 4, 14 за 1999 г.): «Выкараненне з мовы рознага кшталту варварызмаў ё дужа важнаю справай», «Секс жа ёсць неадоймнаю часткай чалавечага бытнавання» і г.д. У артыкулах гэтага ж аўтара ёсць дзесяткі пазалітаратурных слоў: неадоймны, панятак, даведзіны, абдоймы, узвычленне, прыгнобіць, духова, гляд, пахацімства, бачына, міталёгія, наапошку... Згадзімся ж, што запісаным у статуце ТБМ «стаўленнем да роднай мовы як да *нацыянальнай святыні»* тут і не пахне. Замест «аднак» аўтар ужывае «адылі», а ў якасці злучальнага злучніка (замест «і») выступае «а»: *Міцкевічу а Пушкіну, прыхільнасцяў а непрыхільнасцяў; цікавае а нават карыснае* і інш. Такое ўжыванне «а» замест «і» ўжо як бы і ўзаконьваецца, бо ў нядаўнім нумары «Нашага слова» (№ 32) рускі тэкст «Мы ели даром огурцы и дыни, и лук, и репчатый лук, и чеснок» падаецца « ў беларускім сучасным» перакладзе так: «Мы елі дарма гуркі, а дыні, а пор, а цыбулю, а часнок». Гэтыя «адылі» і «а» - вузкадыялектныя словы, сустракаюцца яны толькі ў некаторых мастацкіх тэкстах М.Гарэцкага («возяць а возяць», «едуць а едуць»). Яны не замацаваліся ў літаратурнай мове, і калі дбаць пра літаратурныя нормы і чысціню маўлення, дык няма абсалютна ніякай патрэбы ажыўляць іх, жывасілам цягнуць на «бачыны» газеты. Дарэчы, С.Балахонаву вельмі хацелася б, каб «Наша слова» перайшло на тарашкевіцу.

Чытаеш такія штуковіны, і, прызнаюся, грэшная думка лезе ў галаву: а ці не робіцца гэта знарок, каб дыскрэдытаваць мову ў вачах і без таго маленькай жменькі не носьбітаў ды адпужаць ад яе тых, хто мог бы яшчэ далучыцца да гэтай жменькі... Сам бачыў, як у часе пікета многія беларусы (гаварылі са мной па-беларуску) востра і непрыязна рэагавалі на плакаты пікетчыкаў з надпісамі: «Адраджэньне», «Вызвольны рух» і іншыя. Абураліся: «А на якой мове тут напісана?»

«Цяпер, — піша В.Быкаў, — не трэба быць вялікім правідцам, каб зразумець важнасць для нацыі адзінай літаратурнай мовы, якую трэба ўсямерна шанаваць, берагчы...», а не разбураць «нацыянальнае адзінства літаратурнай мовы... моўным эксперыментатарствам, стылявымі і лексічнымі пошукамі на... перыферыі».

Хочаш не хочаш, а цяпер мушу весці гаворку пра «моўнае эксперыментатарства» майго калегі па працы П.Сцяцко - аўтара кнігі «Праблемы нормы, культуры мовы» (Гродна, 1998). Чытачам «Нашага слова» ён вядомы па рубрыцы «З чужой моўнай практыкі», якая з нумара ў нумар даецца ў газеце на працягу амаль двух гадоў. Ужо каторы год ён займаецца праблемамі нормы, хоць, як ужо згадвалася, наша мова ўнармаваная не горш за іншыя развітыя літаратурныя мовы. Тую мову, на якой пісалі Я.Купала і І.Мележ, пішуць В.Быкаў, Н.Гілевіч і Р.Барадулін, на якой друкуюцца «Полымя», «Маладосць», «Крыніца», «ЛІМ», П.Сцяцко называе «савецкім варыянтам» і замест яго стварае свой «сучасны варыянт». Пад змены падпадаюць вельмі ж многія нормы ў галіне фанетыкі і правапісу, словаўтварэння, марфалогіі і сінтаксісу, лексікі і фразеалогіі. Аўтар хоча «абеларусіць» мову, «вярнуць нашай мове яе натуральнае нацыянальнае аблічча», парушанае «падчас рэалізацыі бальшавіцкае ідэі на зліццё моваў». Свае «папраўкі» ён выказвае часцей за ўсё ў катэгарычнай і бясспрэчнай форме. Але яны ўсё ж, кажучы словамі Б.Тарашкевіча, павінны «прайсці праз публічнае сіта грамадскай і навуковай крытыкі».

Сярод лінгвістаў пытаннямі нормы і культуры маўлення займаюцца многія. Нярэдка выступае з грунтоўнымі артыкуламі А.Каўрус. Ён аналізуе свежыя маўленчыя з'явы, супастаўляе, аргументуе, але рашучых, канчатковых прысудаў, здаецца, ніколі не выносіць, пакідае іх на роздум чытачу. Апошнім часам ён друкуе ў часопісе «Роднае слова» сабраныя ім на працягу многіх гадоў «словы без прапіскі», якія хоць і сустракаюцца ў друкаваных тэкстах, але не трапілі ў акадэмічныя

слоўнікі. У прадмове да слоўніка гаворыцца, што гэтыя некадыфікаваныя словы могуць паспрыяць больш актыўнаму іх увядзенню ў навуковы ўжытак, у штодзённую моўную практыку.

П.Сцяцко ж амаль заўсёды адназначна навязвае чытачу сваю пазіцыю. Так, ён знайшоў адзінкавае ўжыванне слова *агмень* - у «ЛіМе» і ставіць яго ў загаловак чарговай нататкі. Аўтара не называе, бо, відаць, другарадны. А, як вядома, у акадэмічныя слоўнікі ўводзяць пэўнае слова ці яго асобнае значэнне толькі пры наяўнасці значнай колькасці апраўдальных цытат на яго ўжыванне ў маўленні некалькіх аўтараў, прычым, як прынята ў лексікаграфіі, не абы-якіх, а «аўтарытэтных аўтараў». *Агмень* супрацьпастаўляецца яго нарматыўнаму адпаведніку *ачаг,* апісанаму ў розных слоўніках (яны пералічваюцца і цытуюцца). А затым чытаем, што «нацыянальны беларускі друк і сёння карыстаецца словам *агмень,* бо яно этымалагічна больш празрыстае, чым пазычанае *ачаг*». І яшчэ адна выснова: «Трэба не збядняць слоўнік літаратурнай мовы, а ўзбагачаць яго адмысловымі словамі».

Зусім іншая пазіцыя ў аўтара, калі яму трапляе слова *воран.* Нататка атрымлівае назву «Крумкач, крук, груган - а не воран» і пачынаецца так: «Расейскае *воран...»* Потым ідуць звесткі з даўнейшых перакладных слоўнікаў (В.Ластоўскага, М.Байкова і Некрашэвіча), крытыкуецца «Беларуска-рускі слоўнік» як «самы асіміляцыйны даведнік» за тое, што толькі ён адзін і фіксуе гэта слова, гаворыцца, што яго падача ў слоўніку «спатрэбілася дзеля зліцця моваў». Між іншым, гэта слова ёсць і ва ўкраінскай мове. Здавалася б, хай яно будзе і ў нас, бо, як і *агмень,* не «збядняе слоўнік літаратурнай мовы, а ўзбагачае яго». Тым больш што ў фундаментальнай картатэцы Інстытута мовазнаўства аж 18 ужыванняў гэтага слова - у такіх аўтараў, як К.Крапіва, М.Танк, М.Лужанін, С.Александровіч, А.Вялюгін, А.Якімовіч, Я.Сіпакоў і інш. Ёсць гэта слова ў томе «Загадкі», у «Беларускіх народных прыказках і прымаўках» Ф.Янкоўскага, ужываў яго В.Дунін-Марцінкевіч у прыказцы «Воран ворану вачэй не выклюе». Прыхавалася яно і ў фразеалагізме *чорны воран.* А вось прыклад з нядаўняга верша Генадзя Бураўкіна (з прысвячэннем Рыгору Барадуліну): «Плыткая аглухлая Ушача мерыцца ўцячы за касагор... Крача воран. Чуеш, воран крача? Да чаго б яно, браток Рыгор?..»

У нашай літаратурнай мове, хутчэй за ўсё, з аднолькавай частотнасцю выкарыстоўваюцца *прабачыць, прабачаць, прабачэнне* і сінанімічныя з папярэднімі *выбачыць, выбачаць, выба-*

*чэнне.* Яны ёсць і ў «Слоўніку беларускай мовы» (1870) І.І.Насовіча. А П.Сцяцко лічыць, што адны з гэтых слоў (з прыстаўкай *пра)* «падагнаныя пад структуру расейскіх», а другія (з прыстаўкай *вы)* - «натуральныя словы». У якасці аргумента фігуруе сцвярджэнне, што сам аўтар «у жывой народнай мове на Гарадзеншчыне нідзе не чуў словаў з прыстаўкай *пра-,* а толькі з *вы ».* Але ж у нас, апрача Гарадзенскай, ёсць яшчэ аж пяць абласцей. У камедыях К.Крапівы «Хто смяецца апошнім» і «Мілы чалавек» я знайшоў такія ўжыванні: *выбачайце* - 5, *прабачце* — 4, *прабачэнне* — 3. Яшчэ два прыклады: «— Прабачце... - першы загаварыў Пракоп» (Я.Колас), «Ты мне іронію прабач» (Н. Гілевіч). Ёсць і прыказка: «А на чай прабачай».

Настойліва рэкамендуючы пэўную граматычную форму ці слова ў якасці ягонай нормы, аўтар нярэдка аргументуе гэта тым, што менавіта так гавораць у народзе, на Гродзеншчыне або ў яго роднай вёсцы. Па-першае, цяпер ужо больш слушна казаць «так гаварылі», чым «так гавораць», бо і ў сённяшніх вёсках тая самая трасянка. І там смажацца на той жа патэльні русіфікацыі. Па-другое, існуе агульная для ўсіх моў і прызнаная ўсімі заканамернасць: «Літаратурная мова, нават калі яна засноўваецца на якім-небудзь адным дыялекце, ніколі не застаецца тоеснай апошняму, а развівае свае ўласныя рысы — у галіне фанетыкі, марфалогіі, сінтаксісу і слоўніка» (Р.Оці).

Вось і ў нататцы «Кахля ці кафля» аўтар выступае толькі за *кахлю,* бо, маўляў, так фіксуецца ў слоўніках Насовіча, Ластоўскага, Бялькевіча, іншых складальнікаў, так і «ў народнай мове Гарадзеншчыны». А навошта нам у літаратурнай мове гэта архаіка? Гэта ж ледзь не тое самае, што заклікаць вярнуцца да пячорнага перыяду. У памянёнай інстытуцкай картатэцы, як аснове для нарматыўнага слоўніка, такія паказчыкі: *кафля* - 30, *кафляны* -19, *кахля* - ніводнага прыкладу. Нават каб хто адзін і ўжыў слова *кахля,* то гэта не падстава для яго падачы ў слоўніку. Жыццё слова ў літаратурнай мове, яго норма вызначаецца сумай аднародных ужываннняў, а не адзінкавым яго выкарыстаннем. І ў «Гістарычным слоўніку беларускай мовы» (Вып. 15. 1996. С.4) чытаем: «Кафель, кафля, кахель, кахля». Прыводзіцца 13 прыкладаў з пісьмовых помнікаў 16-17 стагоддзяў: 6 - на *кафля,* 3 - на *кахля* і па два на астатнія варыянты.

Не падабаецца Паўлу Уладзіміравічу прыметнік *сардэчны.* Замест яго, маўляў, трэба ўжываць *сэрцавы,* бо ўсе «вытворныя ад слова *сэрца...* не могуць мець гука *д*». А мова не слухае,

у яе ў адных словах гэты гук хаваецца, а ў другіх на паверхні: *сердаваць, засердаваць, сярдзіты* і інш. Ф.Янкоўскі ў «Беларускай фразеалогіі» (1968. С.45) дае прыклады з народных песень, запісаных Р.Шырмай у Карэліцкім і Пружанскім раёнах, са словам *сэрданька.* А вось лічбы з інстытуцкай картатэкі: *сардэчны* - 108, *сардэчна* - 29, *сардэчнасць* — 18. І ніводнай картачкі на *сэрцавы,* бо няма ў прыродзе такога слова. І сілком не навяжаш яго. У ТСБМ слова *сардэчны,* апісанае на аснове картатэкі, мае 7 значэнняў і 5 сэнсавых адценняў. Усе яны падмацоўваюцца ілюстрацыямі з твораў Я.Купалы, Я.Коласа, У.Дубоўкі, Я.Брыля і г.д. Факты, як кажуць, — рэч упартая.

Для стварэння пэўнага эфекту аўтар іншы раз не грэбуе і яўнай фальсіфікацыяй. Так, сцвярджаецца, што пасля арфаграфічнай рэформы 1933 года аж да 1958 года пісалі: *Броўко, Глебко, Гродно.* Але гэта няпраўда: пералічаныя словы заўсёды пісаліся з канцавым «а». Дастаткова звярнуцца да адпаведных старонак «Руска-беларускага слоўніка» (1953), каб пераканацца ў гэтым. Або глянуць на вокладкі кніжак П.Глебкі ці П.Броўкі, выдадзеных да 1958 года.

У літаратурнай мове *паўтарачкай* называюць розныя прадметы велічынёй ў паўтары адзінкі якой-небудзь меры, а таксама бутэльку ёмістасцю ў 0,75 літра. Напрыклад: *дошка не цалёвая, а паўтарачка; ложак-паўтарачка.* Або сказ з рамана Г.Данілевіча «Заходнікі»: «Адзін з п’яных старшынь прылюдна аглушыў другога п’янага паўтарачкай з-пад шампанскага». Грузавую ж машыну грузапад’ёмнасцю ў паўтары тоны называюць *паўтаратонкай* або *палутаркай* - словам, запазычаным (разам з самой машынай) з рускай мовы. У той жа картатэцы 11 ужыванняў на *паўтаратонку* і 16 - на *палутарку.* Так замацавалася ў мове, і тут ужо нічога не зробіш. А П.Сцяцко ў адным з артыкулаў настойвае, каб і машыну-палутарку называлі толькі *паўтарачкай* (як і бутэльку з-пад шампанскага). Але ж моўную норму не выдумляюць і не дыктуюць. Яна складаецца сама па сабе. Ф.Янкоўскі прыгадвае словы П.Глебкі: «Калі б норму літаратурнай мовы вызначалі галасаваннем, то я падняў бы абедзве рукі за «тамсама», бо «тамсама» - як і «таксама».

П.Сцяцко «ўзаконьвае» замест сотняў традыцыйных, нарматыўных слоў свае заменнікі: *шыпячыя, свісцячыя* (гукі) - «шыпенныя, свісценныя», *запазычанае* (слова) - «пазычанае», *сачыненне* - «укладанне», *скажоны* «скрыўлены, перакручаны», *процівагаз* - «газаахоўнік», *літаральны* «сцíслы, першасны», *наменнік* — «заступнік», *сасуды* - «судзіны», *насяко-*

*мыя-* «вусякі», *камандуючы* - «гетман», *вобыск* — «перартрус», *група* - «гурт» і г.д. Шматлікія назоўнікі на *-ій* тыпу *алюміній, цэзій, калій* падпалі пад абразанне, прычым з двух першых атрымаліся *алюмін, цэз,* а трэці замест чаканага *кал* ператварыўся ў *каль.*

Тут можна было б падаць яшчэ мноства аналагічных прыкладаў насільнага ўмяшання ў маўленчую практыку. Але хопіць і гэтых, бо і з іх відаць, што выпростванне, выпрамленне моўных нормаў не на карысць беларускай літаратурнай мове, якую ў сённяшніх неспрыяльных для яе варунках хто толькі не спрабуе «ўбрыкнуць». Як бы не здарылася, як у той прыказцы: «Выпрамлялі быку рогі, ды скруцілі спіну».

Здзіўляе ацэнка Паўлам Уладзіміравічам нашых акадэмічных слоўнікаў. Я, напрыклад, імкнуся выхаваць у студэнтаў любоў і пашану да слоўнікаў - нашых сяброў і надзейных памочнікаў. А П.Сцяцко глядзіць на слоўнікі зверху ўніз, прывівае чытачу нейкую пагардлівасць і непашану да іх.

Амаль у кожнай нататцы ён звяртаецца да «Руска-беларускага слоўніка» (1953). А калі падумаць, дык пры чым тут гэты слоўнік? Ён жа перакладны даведнік, разлічаны на перакладчыкаў з рускай мовы. Руская частка ў ім нарматыўная, а беларуская - гэта падбор больш-менш дакладных адпаведнікаў. Многія сучаснікі не ведаюць, што ён укладаўся ў цяжкіх умовах ваеннага часу і ў першыя пасляваенныя гады і што ў яго складальнікаў і рэдактараў не было пад рукамі ні картатэкі, ні даведачнай літаратуры. А без шматтысячнай картатэкі з ілюстрацыйным матэрыялам як асновы любога слоўніка, перакладнога і тлумачальнага, цяжка пазбегнуць памылак. І іх хапае. Так, у якасці адпаведнікаў рускага «повод» падаецца *прычына* (на першым месцы), а таксама *зачэпка, падстава.* У другім выданні гэтага слоўніка (1982) памылка была выпраўлена. Тут рускае «повод» перакладаецца беларускім *зачэпка,* пасля якога пастаўлена кропка з коскай, і далей ідзе так: «прычына, падстава; выпадак; нагода». І гэта абазначае, што, як сказана ў прадмове да слоўніка, першае беларускае слова - найбольш дакладны эквівалент рускага, а іншыя словы (пасля кропкі з коскай) - больш аддаленыя ў сэнсавых адносінах.

Калі Паўлу Уладзіміравічу трапляецца слова пад масць, тады ён не проста хваліць РБС-53, а дае яго поўную назву і з дадаткам, што слоўнік выдадзены пад рэдакцыяй славутых (слынных, знакамітых) пісьменнікаў і вучоных (акадэмікаў) Якуба Коласа, Кандрата Крапівы, Пятра Глебкі. Калі ж пера-

кладное слова не пад масць, тады абавязкова паўтараецца пра «зліццё моваў», «падгонку пад усесаюзны стандарт», пра тое, што РБС-53 змагаўся з «нацдэмаўшчынай» і што (з намёкам - падтэкстам) слоўнік выдадзены ў Маскве.

А ў Маскве яго выдавалі па вельмі простай прычыне: у пасляваенным напаўразбураным Мінску доўгія гады не было друкарскіх магчымасцей выдаць такую тоўстую і вялізную кнігу. Калі ж пабудавалі паліграфічны камбінат імя Я.Коласа, то сталі друкаваць не ў Маскве, а на месцы.

Неадназначна, у залежнасці ад абставін, ацэньваецца і «Беларуска-рускі слоўнік». Ён характарызуецца як «самы асіміляцыйны даведнік». Хацелася б нагадаць Паўлу Уладзіміравічу, што раней ён быў крыху іншай думкі пра гэтыя слоўнікі. У часопісе «Полымя» (1977. № 4. С.241) ён пісаў: «Вялікі Кастрычнік адкрыў для беларускага народу, як і для іншых народаў нашай краіны, небывалыя магчымасці для развіцця навукі, нацыянальнай культуры і мовы... Найбольшую каштоўнасць на сённяшні дзень з перакладных слоўнікаў маюць акадэмічныя «Руска-беларускі слоўнік» (1953) пад рэдакцыяй Я.Коласа, П.Глебкі і К.Крапівы і «Беларуска-рускі слоўнік» (1962) пад рэдакцыяй К.Крапівы».

Дзіву даешся, калі чытаеш (ЛІМ. 1998. 10 крас.) у водгуку на кнігу П.Сцяцко «Праблемы нормы...», што яе аўтар «не адзін дзесятак гадоў змагаецца за чысціню роднага слова». Гэта проста міф. Не, аўтар заўсёды ішоў у нагу з часам. Можна бясконца цытаваць ягоныя ранейшыя выказванні, дзе ён спяваў асанну «слаўнаму 60-годдзю БССР і Кампартыі Беларусі», прыпісваў усе лексікаграфічныя поспехі «Вялікаму Кастрычніку, які адкрыў для беларускага народа... шырокія магчымасці для развіцця навукі, культуры на роднай мове, даў неабмежаваны прастор для росквіту беларускай мовы, якая ў савецкі час стала раўнапраўнай сярод іншых моў народаў СССР».

Сёння рускую мову П.Сцяцко інакш і не называе, як расейская, а пад «чужой моўнай практыкай» мае на ўвазе менавіта «расейскую». Цікава толькі, а як у такім разе, захоўваючы сістэмнасць, замяніць дзесятак утварэнняў ад прыметніка *рускі: русізм* (расізм?), *русіст* (расіст?), *русіфікацыя* (расіфікацыя?), *русафіл* (расафіл?)?.. А ў 1985 годзе (пачалася ўжо гарбачоўская перабудова) П.Сцяцко, узначальваючы ў Гомельскім універсітэце кафедру рускага, агульнага і славянскага мовазнаўства, апублікаваў артыкул «Русский язык - неиссякаемый источник обогащения и развития языков народов СССР». Супа-

стаўляеш сённяшнія і ранейшыя погляды П.Сяцко і мусіш толькі разводзіць рукамі ды паціскаць плячамі: «Гэта ж трэба так умець...»

А.Каўрус у вялікім артыкуле (Полымя. 1999. № 1) некалькі старонак прысвячае і кнізе П.Сяцко «Праблемы нормы...», ацэньвае яе як «праект удасканалення мовы» (тут і далей выдзелена мной. - І.Л.), станоўча ставіцца да многіх пошукаў аўтара. Разам з тым робіць шэраг заўваг, напрыклад, пра тое, што наўрад ці мэтазгодна паўтараць амаль у кожным параграфе «дражлівы» чыннік «зліцця моваў», «зліцця нацыяў», што не варта катэгарычна ставіць пытанні тыпу «Наведаннік ці наведвальнік?», «Пакупнік ці купляннік?» і «рашуча адстойваць «народныя» варыянты... Калі памножыцца фактаў ужывання гэтых слоў, тады можна будзе падумаць і пра кадыфікацыю іх як літаратурнай нормы. Але гэта ўжо будзе пасля нас... Выходзіць, напрацоўкі П.Сяцко скіраваныя ў будучыню, у лепшы час, зробленыя, скажам так, на вырост нашай нацыянальнай свядомасці і беларускай дзяржаўнасці, на перспектыву».

Але калі б гэта быў толькі «праект...» і рабілася «на перспектыву». Аўтар ужо сёння рашуча ўкараняе ў практыку свае зробленыя індывідуальна-партызанскім спосабам напрацоўкі (студэнты ахрысцілі іх сяцкізмамі), папраўляе студэнтаў і калег, калі яны гавораць ці пішуць без уліку гэтых «напрацовак».

Дык не будзем жа такімі разумнікамі з найвялікшым жаданнем задавольваць свае «моватворчыя» амбіцыі. Лепей паслухаем В.Быкава, які не так даўно сказаў: «Настаў час.., калі нельга развіваць культуру. Важна хоць бы захаваць тое, што напрацавана ранейшымі пакаленнямі, закансерваваць яго (у тым ліку і мову), як кансервуюць руіны старых замкаў і цэркваў. Сапраўды, культура падобна да евангельскага зерня і павінна памерці, каб уваскрэснуць зноў...»

## СЕМ РАЗОЎ АДМЕРАЙ...

Перш чым зрабіць што-небудзь, старанна абдумай, — гэтаму вучыць адшліфаваная стагоддзямі народная прыказка «Сем разоў адмерай, адзін раз адрэж». Гэты афарызм павучальнага зместу дастасоўваецца і да друкаваных тэкстаў. На жаль, на старонках газет, часопісаў, кніг сустракаюцца неабдуманыя сцвярджэнні - штосьці адрэзанае без папярэдняга адмервання. Вось адзін прыклад.

У «Нашым слове» (№ 42 за 1999 год) змешчаны «Абразкі ад Уладзіміра Содаля». Адзін з іх называецца «Чырвонае-белае ўсё перадзелае». Аўтар распавядае, як ён, гледзячы па тэлевізары «Пінскую шляхту» В.Дуніна-Марцінкевіча, пачуў з вуснаў старога шляхціца Куторгі прыказку «Чырвонае-белае ўсё перадзелае». Яна, піша далей аўтар, «неяк кальнула ў самае сэрца: чырвонае-белае. Дык гэта ж колеры нашага гістарычнага сцяга! Ай ды Марцінкевіч! Бач, як хітра замаскаваў гэты сімвал! У Куторгавай моўнай гамане яго не адразу і запрыкмеціш, адчуеш праўдзівы яго сэнс. А сэнс гэты, як бачым, шматзначны: «Чырвонае-белае ўсё перадзелае!»

І далей У.Содаль дае волю думцы і фантазіі: «Мо згадка пра чырвонае-белае, што ўсё перадзелае, — гэта пра бел-чырвона-белы колер харугваў Кастуся Каліноўскага? Мо намёк на сімвал нашага змагання? Мо і напраўду чырвонае-белае ўсё перадзелае?!»

Баюся, што які-небудзь настаўнік, прачытаўшы гэты абразок, пачне і вучням уводзіць у вушы падобную трактоўку прыказкі, звязваючы яе з замаскаваным «намёкам на сімвалы нашага змагання».

Калі ж адарвацца ад тэлевізара і звярнуцца да тэксту самой п'есы, то ўбачыцца зусім іншая карціна. Ціхон Пратасавіцкі расказвае Куторгу, што ўжо ў ваколіцу ўехаў станавы прыстаў, асэсар Кручкоў на разбор судовай справы паміж Ціхонам і Цюхай-Ліпскім і што зараз ён усіх «абдзярэ, як ліпку». Кутарга адказвае: «Вот дзіва, — на тое ён і асэсар! Заўваж толькі - у яго і рукі даўжэй, як у другіх людзей. Ты ведаеш яго прыпавесць: чырвонае - белае ўсё перадзелае. Гдзе ўнадзіцца юрыста, вымеце хату дачыста... Не дасі, — цябе замучыць...»

Звернем увагу на напісанне гэтай прыпавесці-прыказкі. Тут пасля *чырвонае* стаіць не злучок, а працяжнік, а гэта, як кажуць, дзве вялікія розніцы. З кантэксту выразна і адназначна відаць: гэтай праказкай Кутарга характарызуе «дзейнасць» асэсара. Гаворка ідзе пра тое, што з дапамогай чырвонцаў, грошай, хабару ўсё можна перарабіць. У часы В.Дуніна-Марцінкевіча чырвонцам называлі залатую манету вартасцю ў тры рублі. П'еса і заканчваецца тым, як Кручкоў, абрабаваўшы шляхту, сабраўшы грошы ў мяшок, пакідае сцэну пад усеагульны вокліч «Віват, найяснейшая карона!» У памянёнай рэпліцы Куторгі нават і пад мікраскопам нельга заўважыць ніякіх намёкаў ні на сімвалы, ні на «колеры нашага гістарычнага сцяга». Чаго няма, таго няма. Або, як кажуць кітайцы: цяжка знайсці чорную кошку ў цёмным пакоі, асабліва калі яе там няма.

У сучасных газетах і часопісах побач з выхаднымі дадзенымі звычайна робяць агаворку, што ў адпаведнасці з Законам аб друку аўтары цалкам адказваюць за дакладнасць прыведзеных у публікацыі фактаў і звестак. Гэта і несумненны напамінак аўтарам пра іх маральную адказнасць перад чытачом.

Прыказка «Сем разоў адмерай...» прыходзіць на думку і тады, калі трымаеш у руках перакладны даведнік З.Санько «Малы руска-беларускі слоўнік прыказак, прымавак і фразем». Ён выйшаў у 1991 годзе (выдавецтва «Навука і тэхніка»). Пра хібы гэтага даведніка мне ўжо даводзілася пісаць у «Весцях АН Беларусі» (1993. № 1). Варта паўтарыць некаторыя моманты, звязаныя з падачай толькі фразеалагізмаў.

Складальнік слоўніка пры падборы фразеалагічных адпаведнікаў не размяжоўвае агульнанародныя, літаратурныя і вузкамясцовыя, дыялектныя выразы. Ён бярэ фразеалагічны матэрыял не з картатэкі, якая шматлікімі прыкладамі пацвярджае жыццё пэўнага выразу ў мове, і не з нарматыўных слоўнікаў, а, як сказана ў прадмове, з запісаў фалькларыстаў, часткова з мастацкай літаратуры, а таксама «ад сваіх бацькоў» і не зважае на тое, ці мае гэты выраз устойлівасць і ўзнаўляльнасць на агульнамоўным узроўні. З прыкладна 870 фразеалагізмаў, вынесеных у загалоўкі, не менш як чацвёртая частка прыпадае на выразы, якім складальнік беспадстаўна надае статус рускага першародства. Адпаведна адмаўляецца існаванне аднолькавага ці блізкага гучаннем беларускага фразеалагізма. Напрыклад, няма ніякіх падстаў не лічыць беларускімі такія фразеалагізмы: аршын з шапкаю, без задніх ног, як снег на галаву, валіцца з ног, у добры час, віляць хвастом, узяць за жабры, віць вяроўкі, ганяцца за двума зайцамі, даць дуба, жаваць жвачку, задзіраць нос, ні рыба ні мяса, мець зуб, памінай як звалі...

Нельга выкідаць з мовы тое, што ўстойліва ўсталявалася ў ёй, ужыванне чаго можа быць падмацавана дзесяткамі апраўдальных цытат і не парушае моўных законаў. Тое, што, напрыклад, выразы *ні рыба ні мяса, мець зуб, памінай як звалі* даўнымдаўно сталі нарматыўнымі адзінкамі беларускай літаратурнай мовы, я мог бы пацвердзіць больш як 70 ілюстрацыйнымі прыкладамі. Так, В.Дунін-Марцінкевіч аж 4 разы выкарыстаў фразеалагізм *памінай як звалі,* у тым ліку ў вершаванай аповесці «Халімон на каранацыі»: «Я хваць за талакно! Памінай як звалі!»

Выразы *ні рыба ні мяса, памінай як звалі* занатавалі як народныя Я.Чачот, І.Насовіч, М.Федароўскі. Гэтыя фразеалагізмы, а таксама *мець зуб* даюцца ў нашых акадэмічных слоў-

ніках - тлумачальным, беларуска-рускім, руска-беларускім. Дарэчы, выраз *ні рыба ні мяса* трапіў у беларускую мову як калька з нямецкай мовы, дзе склаўся ў перыяд рэфармацыі (XVI ст.), а выраз *меиь зуб* - калька з французскай мовы. Гэтыя фразеалагізмы, як і сотні іншых, сталі міжнароднымі. Амаль ва ўсіх еўрапейскіх мовах яны ўжываюцца з такім самым значэннем, граматычнай структурай, стылістычнай афарбоўкай і адрозніваюцца толькі гучаннем, кампанентным складам, а ў роднасных мовах супадаюць і гучаннем.

Як паказалі даследаванні Э.Саладухі і Ю.Саладуба, у любой развітай літаратурнай мове больш як трэцяя частка ўсяго фразеалагічнага фонду прыпадае на калькі і паўкалькі. Перааафарбоўваючыся пад нацыянальную ідыяматыку, яны арганічна ўваходзяць у маўленне, уліваюцца ў агульную плынь нацыянальнай мовы. Вось толькі некалькі прыкладаў скалькаваных выразаў: *божая каройка, вадзіць за нос, востры на язык* - з французскай, *браць быка за рогі* — з іспанскай, *асінае гнязо* - з англійскай, *скура ды косці* - з лацінскай, *ні богу свечка ні чорту качарга* - з польскай мовы.

У слоўніку З.Санько вельмі многія з падобных скалькаваных фразеалагізмаў (напрыклад, *делать из мухи слона* - з грэчаскай, *как на иголках* - з нямецкай, *на седьмом небе* - з французскай мовы) прызнаюцца, відаць, як рускія, і аўтар падбірае да іх беларускія адпаведнікі, хоць на самай справе такія выразы павінны перакладацца паслоўна.

Спынімся яшчэ толькі на двух выразах. Ёсць у беларускай мове фразеалагізм *у імгненне вока,* зафіксаваны ўсімі нашымі слоўнікамі. Ён ужываўся ў нас яшчэ ў XVI ст., напрыклад у «Катэхізісе» С.Буднага, і, магчыма, трапіў у рускую мову (*в мгновение ока)* як паўкалька з беларускай. У слоўніку ж З.Санько мы гэтага фразеалагізма не знойдзем, тут даецца *в мгновение ока* з такімі аналагамі: вокам маргнуць як змаргнуць, на вокамгненні, як у воку мгненне, як га.

У Я.Купалы ёсць верш «Не ўсе дома», дзе гэты выраз як рэфрэн паўтараецца аж 14 разоў. Гераіня камедыі «Паўлінка» гаворыць: «У Якіма не ўсе дома, бо поначы ходзіць да маладых дзяўчат». Не цураліся агульнавядомага выразу *не ўсе дома* К.Крапіва, Р.Мурашка, І.Мележ і іншыя пісьменнікі. Амаль аднолькава ён гучыць у рускай, украінскай, польскай, чэшскай мовах, у польскай мове зафіксаваны ўжо ў XVI ст. У слоўніку ж З.Санько выраз *не все дома* кваліфікуецца як рускі, да яго прыводзіцца набор беларускіх эквівалентаў, сярод якіх,

зразумела, няма *не ўсе дома.* Выходзіць, і Я.Купала памыляўся, калькаваў фразеалагізмы, і ўсе нашы слоўнікі памыляюцца...

Пра гэты небеззаганны даведнік (а ён выдадзены значным тыражом - 30 тысяч экзэмпляраў!) часам пішуць, што, «хоць зроблены ён на аматарскім узроўні.., усё ж практычнае значэнне яго вельмі істотнае» (Роднае слова. 1993. № 10. С. 33). Якраз і бяда, што памылкі слоўніка ўжо набываюць сілу аўтарытэту і ўкараняюцца ў практыку, асабліва ў навучальную літаратуру. Небездакорны матэрыял гэтага даведніка ўключаецца ў віктарыны (гл., напрыклад: Старычонак В.Дз. Займальная філалогія. Мн., 1998. С. 39, 167), выкарыстоўваецца на абласных і рэспубліканскіх алімпіядах па беларускай мове і, напэўна, у школьнай практыцы выкладання мовы.

Апошнім часам аналагічныя нападкі на беларускія фразеалагізмы актыўна здзяйсняе і П.Сцяцко як у сваіх выдадзеных у Гродзенскім універсітэце дзвюх кніжках, так і ў шматлікіх публікацыях. Асабліва ў газеце «Наша слова», дзе ён пад агульнай назвай «З чужой моўнай практыкі» рэгулярна выступае з моўнымі папраўкамі разнастайнага характару, адкідвае шматлікія словы, выразы, сінтаксічныя канструкцыі, якія трывала прыжыліся ў маўленні, замацаваліся моўнай практыкай, сталі прывычнымі, усведамляюцца як правільныя, нарматыўныя. Дастаецца і фразеалагізмам. І яны трапляюць пад татальную рэвізію мовы.

Пра выраз *драць (задзіраць) нос* сказана, што яго варыянт *драць нос* «механічна перанеслі ў беларускую частку з расейскай (гэта асабліва практыкавалася ў 80-х гадах)». Па-беларуску гэты выраз, паводле П.Сцяцко, павінен выглядаць так: *задзіраць нос.* Але гэта няпраўда. Абодва варыянты не «механічна перанесены з расейскай», а жывыя адзінкі народнай мовы. Яны фіксуюцца ў слоўніках народнай фразеалогіі Г.Юрчанкі, Е.Мяцельскай і Я.Камароўскага. Параўнаем таксама ва ўкраінскай мове: *дерти (задирати) носа.* Як складальнік двухтомнага «Фразеалагічнага слоўніка беларускай мовы» (1993), я маю ў сваёй картатэцы 42 ужыванні выразу *драць (задзіраць, задраць) нос.* Сярод іх 8 — *драць нос.* Каго-каго, а Ф.Багушэвіча ўжо ніяк нельга абвінаваціць у імкненні, як дзесяткі разоў паўтарае П.Сцяцко, «зліць мовы», «падагнаць пад усесаюзны стандарт» і г.д. Паэт, які заклікаў шанаваць і «не пакідаць мову нашу беларускую, каб не ўмёрлі», у вершы «Ахвяра» пісаў: «Перад меншым я носу не драў...» Варыянт *драць нос* тройчы ўжыў К.Крапіва, па адным разе - І.Мележ, В.Гарбацэвіч, Р.Сабаленка, П.Місько.

У нашай мове ёсць дзеяслоўныя фразеалагізмы *складваць рукі, сядзець склаўшы (злажыўшы) рукі* і прыслоўны *склаўшы (злажыўшы) рукі.* У маёй картатэцы адпаведна 12, 43 і 24 іх ужыванні з твораў такіх аўтарытэтных аўтараў, як Я.Купала, Я.Колас, Ц.Гартны, П.Галавач, М.Зарэцкі, К.Чорны, К.Крапіва, М.Лынькоў, І.Мележ і інш. Усе тры выразы фіксуюцца ў слоўніках як літаратурная норма. А П.Сцяцко імкнецца пераканаць чытача, што *(сядзець) склаўшы (злажыўшы) рукі* «амаль даслоўна» пераклалі з адпаведнага «расейскага ўстойлівага спалучэння» і што замест *склаўшы рукі* трэба ўжываць «сваё адмысловае выслоўе *згарнуўшы рукі».* Прыводзяцца і нібыта аргументы: ім, маўляў, «вельмі актыўна карыстаюцца ў гаворках Зэльвеншчыны» (даецца прыклад з роднай вёскі Грабава). І яшчэ аргумент: «Карыстаецца гэтым фразеалагізмам і класік нашай літаратуры, выбітны майстра мастацкага маўлення Кузьма Чорны: «Я не сядзела тады на камені, паклаўшы на прыпол згорнутыя рукі». Але ж у гэтым прыкладзе фразеалагізмам і не пахне, тут усё словы свабоднага ўжывання. А што да К.Чорнага, дык ён у творах «Семнаццаць год», «Вясна» і інш. ужывае толькі *склаўшы рукі.* Вось такія пірагі...

*Чорным па белым, хадзячая энцыклапедыя* ёсць у беларускай, рускай, украінскай *(чорным по білому, ходяча енциклопедія),* некаторых іншых мовах. Прыйшлі гэтыя выразы з французскай мовы, першы як калька, другі як паўкалька. Толькі ў такой традыцыйнай форме іх і ўжываюць шматлікія аўтары (К.Крапіва, М.Лынькоў, М.Танк, Б.Сачанка і г.д.). На аснове гэтых ужыванняў выразы трапляюць у слоўнікі і кадыфікуюцца як норма. П.Сцяцко ж хоча абеларусіць гэтыя фразеалагізмы. Не маючы канкрэтных пашпартызаваных моўных пацвярджэнняў, ён спасылаецца на абстрактнага беларуса: «Беларус кажа: *жывая энцыклапедыя»* (а не *хадзячая),* «у жывой народнай мове бытуе натуральная сінтаксічная структура *чорным на белым».* Вось ужо сапраўды, як пісаў Салтыкоў-Шчадрын, нішто не акрыляе так фантазію, як адсутнасць фактаў.

*На самай справе, у чым справа* - гэта, паводле П.Сцяцко, выразы, скалькаваныя слоўнікамі 60-80 гадоў «з чужой моўнай практыкі», а *кляваць носам, куры не клююць* - «механічна перанесеныя з расейскіх слоўнікаў». Грунтам для такіх сцвярджэнняў стала тое, што ў «Руска-беларускім слоўніку» (1953) рускае *в самом деле* перакладалася адпаведнікам *сапраўды; клевать носом - торкаць носам; куры не клюют - куры не дзяўбуць* і г.д.

Але, па-першае, ці варта ўвесь час абапірацца на РБС-53 як на бясспрэчны аўтарытэт? На папярэдніх старонках ужо гаварылася, што гэта ўсяго толькі перакладны даведнік, што ўкладаўся ён у неспрыяльных ваенных і пасляваенных умовах без шматтысячнай картатэкі і даведачнай літаратуры і што па гэтай прычыне памылкі і промахі ў ім непазбежныя.

Па-другое, пералічаныя вышэй выразы - не «з чужой моўнай практыкі». Яны ўвайшлі ў сучасныя слоўнікі як норма, бо сталі неаспрэчным фактам мовы. А ўжываліся гэтыя выразы і да «зліцця моваў» - у 20-я гады; напрыклад, *на самай справе* - у творах П.Галавача, Ц.Гартнага, а *ў чым справа* двойчы выкарыстаў Я.Купала ў п’есе «Тутэйшыя» (1922). І слова *кляваць* са значэннем ‘есці, адшчыпваючы ежу дзюбай’, якое генетычна ёсць у фразеалагізмах *кляваць носам, куры. не клююць,* было не чужое для Я.Купалы. Ён яшчэ ў 1907 годзе ў вершы «Гэта крык, што жыве Беларусь» пісаў: «Тут крычаць вераб’і і клююць крапіву».

Па-трэцяе, лексічны і фразеалагічны склад мовы ўвесь час развіваецца, папаўняецца новымі словамі і выразамі, у тым ліку і за кошт запазычанняў.

Выразы *па праву, больш таго,* канешне ж, запазычаныя з рускай мовы. П.Сцяцко абеларушвае іх, замяняе, падрабляе: *«справядліва, па справядлівасці, заслужана* - а не *па праву», «больш за тое, яшчэ больш,* а не *больш таго».* Але ж яны замацаваліся ў маўленні, перад імі не паставіш жалезабетонную заслону накшталт Берлінскай сцяны. І сілком іх не выганіш, не навяжаш замест іх іншыя заменнікі. Менавіта гэтак пішуць не абы-якія аўтары, а Я.Брыль, В.Вітка, Ц.Гартны, Х.Шынклер, К.Крапіва і інш.

Замест *(спаць) мёртвым сном* прапануецца *каменным сном,* бо так гавораць у той жа вёсцы Грабава. Няўжо ж усім астатнім раўняцца на гаворку адной вёскі?

Прыслоўнаму кампаненту фразеалагізма *душа наросхрыст (нараспашку)* уласціва лексічная варыянтнасць. П.Сцяцко - толькі за *наросхрыст,* бо *нараспашку* - «з расейскай мовы». Аднак жа і па-за фразеалагізмам прыслоўе *нараспашку* прыжылося ў беларускай мове, падаецца ў ТСБМ, ілюструецца цытатамі, у тым ліку з І.Мележа: «Шынель яго расперазаны, нараспашку».

*«Па шчупаковай волі* - а не *па шчупаковаму загаду»,* — устанаўляе норму П.Сцяцко і іранізуе наконт *па шчупаковаму загаду:* «Якая штучнасць?! Нібы шчупак піша загады?» Але калі звярнуцца да рускай народнай казкі, адкуль паходзіць

гэты выраз («по щучьему веленью»), дык іронія тут залішняя. Да таго ж для шматлікіх фразеалагізмаў з нерэальным вобразам у іх аснове знешняя нелагічнасць - звычайная рэч: *кот наплакаў, і куры не шэпчуць, сабакам сена касіць, выдраць лысаму валоссе, грушы на вярбе, ад яйка адліць, смаловы дуб, голаму за пазуху...* Пра пошукі фразеалагічнага адпаведніка да памянёнага рускага выразу ўжо не раз пісалі ў друку, асабліва Ф.Янкоўскі. У «Зборніку беларускіх прыказак» (1874) І.Насовіч занатаваў тоесны выраз *на шчупакова казанне.* Цяпер настойліва прапануецца *па шчупаковай волі.* Аднак у літаратурных тэкстах не даводзілася сустрэць хоць бы адно пацвярджэнне, што гэтыя аналагі бытуюць у мове. Таму пра адпаведную норму можна будзе гаварыць толькі тады, калі назапасяцца факты ўжывання ў маўленні якога-небудзь з гэтых, магчыма, патэнцыяльных выразаў.

Усе выразы, за выключэннем *па шчупаковаму загаду,* якія ў даведніку З.Санько і працах П.Сцяцко кваліфікуюцца як небеларускія, апісаны ў маім двухтомным «Фразеалагічным слоўніку беларускай мовы» (Мн.: БелЭн, 1993), а, як сказана ў выдавецкай анатацыі, «паводле адбору матэрыялу і яго граматычнай і стылістычнай ацэнак гэта нарматыўны слоўнік фразеалагізмаў сучаснай беларускай літаратурнай мовы». Таму, як складальнік слоўніка, я і мушу выступаць у іх абарону. А можа, і не толькі з гэтай прычыны. Душа не на месцы, калі бачыш, што вытвараюць з мовай - на дзяржаўным і недзяржаўным узроўні.

У сённяшніх варунках, неспрыяльных для беларускай літаратурнай мовы, разгледжанае моўнае эксперыментатарства - не на карысць мове, а толькі на шкоду.

## ЭПІГРАМЫ КАНДРАТА КРАПІВЫ

Сярод шматлікіх сатырычных твораў К.Крапівы ёсць і некалькі дзесяткаў эпіграм. Усе яны дасціпныя, трапныя, нярэдка двухпланавыя, з падтэкставай плынню, пакідаюць уражанне свежасці і арыгінальнасці, ззяюць усімі фарбамі і адценнямі народнай мовы. Аднак толькі нямногія з іх уключаліся аўтарам у зборы ягоных твораў («Інтэрв’ю Якуба Коласа», «На «Матчынага сына» Сымона Баранавых» і некаторыя іншыя). Астатнія або друкаваліся толькі аднойчы ў якім-небудзь перыядычным выданні або, ненадрукаваныя, перадаваліся з вуснаў у вусны.

Кожная з іх выклікалася якойсьці канкрэтнай надзённай з'явай. Сатырычным адгалоскам на публікацыю рамана Ц.Гартнага стала эпіграма, пабудаваная на вобразнай аснове вядомага выразу *мухі дохнуць*. Яго цэласны сэнс 'нясцерпна нудна ад чаго-небудзь' спачатку засланяецца апрадмечаным, канкрэтным зместам слоў у першых радках твора і тут жа ўсплывае на паверхню як здагадка, спараджаючы смех:

— Якой ты мухам даў «отравы»,
Што ўраз падохлі ўсе яны?
— А тут такая, браце, справа:
Я прачытаў ім «Сокі цаліны».

На пачатку 50-х гадоў Я.Колас, К.Крапіва і П.Глебка ўкладалі «Руска-беларускі слоўнік». Крапіва рэдагаваў апісанне слоў на першую частку літар, а П.Глебка - пачынаючы з літары «П». Справы ў Глебкі чамусьці рухаліся марудна. І тады ў насценгазеце Інстытута мовазнаўства з'явілася эпіграма:

Хто так моцна тут сапе
Ў Інстытуце дзесьці?
Гэта Глебка ўзлез на «П»
І не можа злезці.

На адкрытым партыйным сходзе пісьменнікі абмяркоўвалі рашэнне чарговага пленума ЦК аб далейшым развіцці жавёлагадоўлі ў рэспубліцы. З занадта доўгім дакладам выступіў Міхась Лынькоў. Гаварыў пра будоўлю свінагадоўчых комплексаў, шмат разоў упамінаў пра свінаматак. К.Крапіва пусціў па радах эпіграму:

Уцякайма хто як можа, братцы,
Бо Міхась засеў на свінаматцы.

Многія рассмяяліся, і Лынькоў мусіў закругліцца.

Ёсць і яшчэ адна эпіграма на М. Лынькова. Яна ўпамінаецца ў нядаўна апублікаваных (Полымя. 1998. № 8) дзённіках П.Панчанкі. Першую жонку Лынькова Хану Абрамаўну і сына Марына закатавалі фашысты. У пасляваенны час, калі Лынькову ўжо было пад пяцьдзесят, ён аднойчы ў доме Я.Коласа пазнаёміўся з нашмат маладзейшай за яго супрацоўніцай Акадэміі навук Соф'яй Захараўнай Куспіц. У дзень вяселля з Зосяй да Лынькова прыйшлі сябры-пісьменнікі. Ад іх імя К.Крапіва віншаваў жаніха:

Цябе вітае гурт сяброў!
Жаніся, в'юнаш, будзь здароў!
І не дрыжы прад шлюбным ложам,
Не бойся цяжкасцяў: паможам.

Эпіграма «Чыжык», у адрозненне ад папярэдніх і шмат якіх іншых ненадрукаваных, пабачыла свет. Яе змясцілі ў часопісе «Заклік» (1933. № 1. С. 51). У эпіграме знайшоў увасабленне адзін з тыповых эпізодаў тагачаснай жорсткай рэчаіснасці, крыжовага паходу ў пошуках «ворагаў народа». Яна цікавая і формай, і зместам. Майстэрства сатырыка нельга поўнасцю ацаніць, калі не бачыць перад сабой усёй гэтай арыгінальнай сваім мастацкім выкананнем эпіграмы-літмантажу. Вось гэты твор:

Чыжык
(Эпіграма-літмантаж[1])
На дэбют крытыка Аркадзя Куляшова

— Чыжык, чыжык, дзе ты быў?
— За гарой Максіма біў.
«Дзюбаў, дзюбаў, аслабеў,
Толькі збрудзіў, а не з'еў».

[1]*З людзей па радку, а мне эпіграма: у гэтым вершы толькі адзін радок мой.*

Сапраўды, «у гэтым вершы толькі адзін радок» крапівоўскі: «За гарой Максіма біў» (маецца на ўвазе выступленне ў друку маладога, 19-гадовага паэта А.Куляшова ў нязвычнай для яго ролі дэбютанта-крытыка твораў Максіма Гарэцкага). Першы радок эпіграмы ўзяты з вядомай жартоўнай песенькі такой самай назвы, а два апошнія - з верша А.Александровіча «Хлопчык і певень»:

Ку-ка-рэ-ку! Ку-ка-рэ-ку!
Вось і певень тут аднекуль,
Крадучыся, неўзаметку
Падляцеў, хапіў катлетку.
Дзюбаў, дзюбаў - аслабеў,
Толькі збрудзіў, а не з'еў.

Ды і другі радок не зусім крапівоўскі, гэта - перафразаванне з той жа песенькі: «За гарой гарэлку піў». Варта таксама зазначыць, што ў кантэксце гэтай эпіграмы адбыліся семантычныя зрухі ў словах, дастасаваных да крытыка-дэбютанта: *чыжык, дзюбаў, збрудзіў, з'еў.* Яны атрымалі сэнсавае прырашчэнне, падвойны змест. Сказ са зноскі «З людзей па радку, а мне эпіграма» — дасціпны мадэліраваны аўтарскі наватвор, у падтэксце якога адчуваецца прыказка-прататып. Хоць тут усе сло-

вы ўжытыя з прамым значэннем, непасрэдна накіраваным на канкрэтныя рэаліі, але сваім комплексам яны ствараюць выразны намёк на прыказку-мадэль «З міру па нітцы - голаму сарочка».

Некаторыя з вусных эпіграм пасля ўвайшлі ў паэму «Хвядос - Чырвоны нос»:

Тут яшчэ вучоны Свербаў
Акалочваў грушы з вербаў.
Кажуць, скончыў быў той дзед
Ерундычны факультэт.

Праўда, гэтыя радкі не вытрымалі выпрабавання часам. Сёння мы з пашанай ставімся да навуковых прац І.А.Сербава.

І ў апошнія гады свайго жыцця сатырык час ад часу звяртаўся да эпіграм. Некаторыя з іх друкаваў і «ЛІМ». Вось адна з іх - «скарга»:

Я не горшы ад Рагойшы
І не меншы ад Камейшы,
Ды прабіцца не ўдаецца
Ні ў саюз, ні ў выдавецтва.

Добра было б, каб пры выданні Поўнага збору твораў К. Крапівы сюды ўвайшлі і ўсе яго рупліва сабраныя эпіграмы - гэтыя іскрынкі досціпу, помнікі таленту, сатырычныя адбіткі розных з'яў літаратурнага жыцця. І не толькі літаратурнага.

Два словы і пра адну байку сатырыка. «Літаратура і мастацтва» 3 лістапада 1995 года змясціла маю нататку «Дарэмна забытая байка» такога зместу: «Шматтомныя зборы твораў Кандрата Крапівы выдаваліся неаднаразова, але ні ў адным з іх сённяшні чытач не знойдзе байку «Казёл». Яна напісана ў 1927 г., калі пачынаў набіраць сілу зламысны бальшавіцкі наступ на Беларушчыну, і друкавалася ў крапівоўскіх зборніках-перавыданнях яшчэ толькі двойчы - у 1928 і 1932 гг. А пасля ўжо друкаваць яе было немагчыма, бо «казлы» ўзялі верх. Хацелася б, каб пасля амаль 70-гадовага забыцця байка, якую я дасылаю ў «ЛІМ», зноў убачыла свет».

Пасля ішла сама байка, якая і сёння гучыць надта актуальна. Вось гэта байка:

Не помню дзе,
Ў адной авечай чарадзе
Павадыром хадзіў Казёл.
І нават мне пастух казаў,
Што быў той барадаты
Нішто сабе адміністратар.
Ды ў тым загана ўся Казлова,
Што па-авечы ён - ні слова;
Ці не хацеў, ці мо не ўмеў,
Ці мо што іншае наўме

Трымаў стары,
А толькі факт - не гаварыў.
Дык гэта яшчэ мала,
Дый невялікая бяда -
Ён, кажуць, захацеў, брыда,
Каб з ім бляяла
Цалютка тая чарада
Няйначай,
Як па-казлячы.
Калі хто - бе, ён кажа: «Не!
Ляпей вучыся ад мяне,
І будзеш ты тады бляяць
На яць».
А хто не ўмеў бляяць так чыста,
Таго ён лаяў шавіністам.

Ці жыў Казёл, ці мо ўжо здох,
Аб тым дазнацца я не мог,
А толькі вось чаго мне злосць:
Яшчэ казлы такія ёсць.

## З НАРОДНАГА ГУМАРУ

### За ліվернай

У армянскага радыё пытаюцца:

— Ці не скажаце, якое цяпер жыццё ў Беларусі?

— О-о-о!.. Наш карэспандэнт паведаміў, што там цяпер усе як адзін - мільянеры! Вось толькі незразумела, чаму амаль усе стаяць у чарзе ап ліվернай, а ад каўбасы іншых гатункаў аж насы адварочваюць...

### Рынкавы сацыялізм

Кажуць, што ў Беларусі будуюць рынкавы сацыялізм. Што гета такое?

— Рынкавы сацыялізм - гэта тое самае, што дойны конь. Або жарэбны бык. Ці цяжарны мужык.

### У чым розніца?

Пытанне да армянскага радыё:

— У чым розніца паміж Нью-Йоркам і Мінскам?

Адказ:

— У Нью-Йорку ёсць адна беларуская школа, а ў Мінску - ніводнай.

### Ну, як жывеш?

Адказы на пытанне «Ну, як жывеш?»:

— І не пытайся!..

— Ад ліха ціха, а дабра не чуваць.

— Сёння горш, чым учора, але лепей, чым заўтра.

— Як Ленін у маўзалеі: не жывы, а не закопваюць.

### Няўжо гэта Маркс?!

У вышэйшых навучальных установах за савецкім часам аж трэцяя частка лекцыйных і практычных заняткаў адводзілася на вывучэнне асноў марксізму-ленінізму, гісторыі КПСС, марксісцка-ленінскай філасофіі, навуковага камунізму, палітэканоміі сацыялізму і г.д. На кожных занятках студэнты толькі і чулі: Маркс, Энгельс, Ленін...

І вось аднойчы студэнт на дзяржаўных выпускных экзаменах па біялогіі так слаба адказваў на білет, што члены камісіі хацелі ўжо ставіць яму самую кепскую адзнаку. Але старшыня дзяржаўнай камісіі пашкадаваў хлопца і, спрабуючы выратаваць яго, задаў лёгкае дадатковае пытанне. Паказваючы рукой на муляжныя шкілеты мужчыны і жанчыны, прагаварыў: «Паглядзіце і адкажыце, чые гэта шкілеты».

Той доўга разглядаў іх і ў профіль, і ў анфас, і мацаў рукою, і нюхаў. Але маўчаў.

Старшыня камісіі не вытрываў і, ківаючы галавой, журботна прамовіў: «І чаму ж вас толькі пяць гадоў вучылі?!»

— А-а-а! — здагадаўся студэнт, узрадаваны і ўдзячны. — Але няўжо ж гэта Карл Маркс і Фрыдрых Энгельс?!

**Новы гатунак гарэлкі**

У Расіі, кажуць, сталі выпускаць гарэлку пад назвай «Ленін». Вельмі ж дзейнічае! Пасля першай шклянкі адразу пачынаеш картавіць. Пасля другой - ідзеш надзейным ленінскім шляхам: крок наперад, два крокі назад. Пасля трэцяй - хочацца ўзабрацца на бранявік і пракрычаць якія-небудзь тэзісы: красавіцкія, жніўеньскія ці кастрычніцкія.

**«Россия — родина слонов»**

У Парыжы праходзіў міжнародны сімпозіум заолагаў. На працягу трох дзён шырока абмяркоўвалася салідная манаграфія пра муху цэцэ. Пад канец нарады выступіў індыйскі вучоны: «Якіх вялікіх поспехаў дасягнулі мы ў заалогіі! — сказаў ён. - Нават пра маленькую муху цэцэ маем такую вялікую, капітальную працу! А вось пра слана да гэтага часу няма амаль нічога грунтоўнага. Прапаную вучоным тых нямногіх краін, дзе жывуць сланы, папрацаваць як след, і мы б на чарговай нарадзе праз тры гады абмеркавалі гэтую праблему». Прапанова была ўхвалена.

Праз тры гады зноў сабраўся сімпозіум. Распачынаючы яго, старшыня аб'явіў, што першымі просяць выступіць савецкія вучоныя. Усе крыху здзівіліся, ведаючы, што ў Савецкім Саюзе сланы толькі ў заапарках.

І вось на сцэну выходзіць савецкая дэлегацыя - сем чалавек на чале з сакратаром партыйнай арганізацыі. У кожнага ў руках - таўсценная кніга з залацістым загалоўкам на вокладцы. Партыйны сакратар патлумачыў, што іх вялізная праца пісалася некалькімі навуковымі інстытутамі і складаецца з шасці тамоў. «Я, — гаварыў ён, — буду называць тамы, а вучоныя па чарзе будуць дэманстраваць іх».

Першы том называецца «Уводзіны ў сланазнаўства» (па-руску гэта «Введение в слоноведение»).

Другі том — «Класікі марксізму-ленінізму пра сланоў».

Трэці том - «Сланы пры сацыялізме».

Чацвёрты том - «Сланы пры камунізме».

Пяты том - «Россия - родина слонов!»

Шосты том — філасофскія разважанні на тэму «А ці былі сланы наогул?»

## ЗМЕСТ

**Навукова-папулярнае выданне**

Лепешаў Іван Якаўлевіч

# Д А З Н А Н Н І

Адказны за выпуск *Сяргей Габрусвіч*

Рэдактар *Ігар Жук*

Здадзена ў набор 17.01.2000. Падпісана да друку 21.02.2000.
Фармат 60х84/16. Папера афсетная № 1.
Друк афсетны. Гарнітура Школьная.
Ум. друк. арк. 5,1. Ул.-выд. арк. 4,9.
Тыраж 299 экз.

Гродзенскае абласное аддзяленне
Беларускага фонду культуры.
ЛВ № 241.
Бул. Ажэшкі, 49, 230023, Гродна.

Надрукавана на рызографе пры тэхнічнай падтрымцы
ГААА «Ратуша» і матэрыяльнай падтрымцы
фонду «Каунтэрпарт».
Бул. Будзённага, 48-а, 230023, Гродна.